ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ X

№ 5
Май 1936 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 21.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000, даб. 68.



**А. Андрэеў**

Сакратар ЦК ВКП(б)

# Комуністычнае выхаванне моладзі і задачы комсамола*)

Таварышы, па даручэнню Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) дазвольце перадаць X з'езду ленінскага комсамола гарачае большэвіцкае прывітанне. **(Бурныя, доўгія апладысменты. Воклічы: Няхай жыве таварыш Сталін! Ура!).**

## СССР—краіна перамогшага соцыялізма

Таварышы, X з'езд ленінскага комсамола сабраўся пасля велізарнай работы, праведзенай совецкай уладай і працоўнымі нашай краіны пад кіраўніцтвам ВКП(б) у самых разнастайных галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Ва ўсёй гэтай рабоце ленінскі комсамол прымаў актыўнейшы ўдзел.

У дакладзе тав. Косарэва былі ўсебакова разгорнуты вынікі пройдзенага шляху і задачы прадстаячай работы ленінскага комсамола.

Агульнае становішча ў краіне за апошнія гады настолькі моцна змянілася, што якім-небудзь кароткім абагульненнем немагчыма выразіць усе гэтыя змены.

Аднак, можна сказаць адно, што завет вялікага Леніна, выказаны ім у 1922 годзе аб тым, каб нашу краіну з нэпаўскай ператварыць у краіну соцыялістычную, выканан. **(Апладысменты).**

І сапраўды, таварышы, калі ўзяць паасобныя адзнакі соцыялізма, то чым новы лад—лад соцыялізма—павінен адрозніваецца ад ладу капіталістычнага? Калі ўзяць асноўныя прынцыпы, сфармуляваныя асновапаложнікамі навуковага соцыялізма і комунізма Марксам, Энгельсам і развітыя ў падрыхтоўцы і ходзе нашай рэволюцыі Леніным і Сталіным, і глянуць на цяперашняе становішча ў нашай краіне з пункту погляду ажыццяўлення гэтых прынцыпаў, то справа выглядзіць наступным чынам: акрамя дыктатуры пролетарыята, якая, вядома, з'яўляецца асноўнай умовай соцыялізма і якая, як вы ведаеце, у нас поўнасцю ў асобе совецкай улады ажыццёўлена,—першай адзнакай соцыялізма з'яўляецца наяўнасць у руках рабочага класа сваёй буйнай соцыялістычнай прамысловасці. Не можа быць соцыялізма без гэтай важнейшай умовы. Толькі прадстаўнікі дробнабуржуазных класаў, у тым ліку народнікі ў мінулым, марылі аб такім соцыялізме, які мог быць і без буйнай прамысловасці. Але гэта толькі шкодныя, дробнабуржуазныя мары. На самай справе ніякага соцыялізма без буйнай прамысловасці быць не можа.

Мы атрымалі ці, вярней, адабралі ад царызма, ад памешчыкаў

*) Прамова на X з'ездзе ВЛКСМ 15 красавіка 1936 года.

і капіталістаў жабрацкую аграрную краіну са слабай і поўразбуранай прамысловасцю.

Мы цяпер можам сказаць, таварышы, што маем буйную першакласную соцыялістычную прамысловасць, якая па сваёй удзельнай вазе ў вытворчасці ў цэннасным выражэнні складае тры чверці ўсёй прадукцыі ў нашай краіне, г. зн. займае пераважаючае, камандуючае становішча. Яшчэ ў 1927 годзе наша прамысловасць вырабляла на 13,3 мільярда рублёў прадукцыі, а ў 1935 годзе наша прамысловасць ужо вырабіла прадукцыі на 65,9 мільярда рублёў.

Мы маем цяпер у сваёй краіне самыя разнастайныя галіны вытворчасці, якіх у нас раней не было і ў адносінах якіх мы раней былі ў прамой залежнасці ад капіталістычных краін. Мы цяпер гэтыя галіны вытворчасці маем, але надзвычай важна таксама, што побач з прамысловасцю мы маем і добра працуючы соцыялістычны транспарт. Такім чынам, першая і асноўная ўмова соцыялізма ў нас поўнасцю і цалкам выканана. **(Бурныя апладысменты).**

Другой умовай соцыялізма, таварышы, з'яўляецца наяўнасць аграмаджанай сельскай гаспадаркі. Мала мець толькі буйную прамысловасць. Трэба мець і соцыялістычную сельскую гаспадарку. У нас не магло-б быць соцыялізма, калі-б мы не дабіліся пераводу велізарнай колькасці індывідуальных сялянскіх гаспадарак на соцыялістычныя рэйкі шляхам калектывізацыі.

Цяпер мы ведаем, што наша сельская гаспадарка ператварылася ў буйную аграмаджаную гаспадарку ў асобе соўгасаў і калгасаў, забяспечаных сотнямі тысяч трактароў, дзесяткамі тысяч камбайнаў і сотнямі тысяч усякага роду складаных сельгасмашын.

Удзельная вага калгасаў і соўгасаў у вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ў 1935 г. складала ўжо 93,6 проц. Гэта гаворыць аб тым, што мы ўжо, за выключэннем невялікай колькасці застаўшыхся індывідуальных гаспадарак, поўнасцю закончылі перавод нашай сельскай гаспадаркі на соцыялістычныя рэйкі. Такім чынам і другую труднейшую і важнейшую ўмову соцыялізма мы можам лічыць поўнасцю выкананай нашай большэвіцкай партыяй. **(Бурныя, доўгія апладысменты).**

У сувязі з гэтым, таварышы, і грань, раней раздзяляўшая горад і вёску, сельскую гаспадарку і прамысловасць, супярэчнасці, якія раней існавалі паміж гэтымі двума полюсамі, цяпер сціраюцца ва ўсіх адносінах: і ў адносінах умоў вытворчасці, і ў адносінах культурнага і матар'яльнага жыцця.

Удзельная вага соцыялістычнай вытворчасці ў нашай краіне ў 1936 годзе павінна будзе скласці 98,5 проц., г. зн. якія-небудзь мізэрныя паўтара процанта прыпадаюць яшчэ не на соцыялістычны сектар.

Такім чынам, мы можам сказаць, што замест тых пяці ўкладаў, аб якіх гаварыў Ленін у 1921 годзе: патрыярхальнага, дробнатаварнага, прыватнагаспадарчага капіталізма, дзяржаўнага капіталізма і соцыялізма, мы прышлі, як гаварыў таварыш Сталін яшчэ на XVII з'ездзе ВКП(б), да непадзельнага панавання соцыялістычнага ўкладу.

Трэцяй важнай адзнакай соцыялізма з'яўляецца ліквідацыя класавага грамадства. Як вы ведаеце, таварышы, рабочы клас і калгаснае сялянства, пад кіраўніцтвам нашай большэвіцкай партыі, пры самым актыўным удзеле комсамола, з поспехам правялі ліквідацыю ўсіх эксплаатататарскіх класаў у нашай краіне. Гэта работа можа лічыцца

ў асноўным закончанай, не гледзячы на спробы паасобных асколкаў гэтых знішчаных класаў даць адчуць сябе на рознага роду актах шкодніцтва, тэрору і на працягванні сваёй буржуазнай культуры, хуліганства і т. п. у паасобныя праслойкі моладзі. Гэтыя класы ў нас назаўсёды зышлі са сцэны і больш не вернуцца. **(Апладысменты).**

Але важна адзначыць і другое, таварышы, што ў працэсе перабудовы грамадства, у працэсе ліквідацыі эксплаататарскіх класаў змянялася і старая сутнасць самога класа пролетарыяў. Хіба можна, напрыклад, параўнаць цяперашняга рабочага з ранейшым рабочым, хіба можна параўнаць нашага рабочага па сваёй сутнасці з пролетарыем капіталістычных краін, пазбаўленым усякіх сродкаў вытворчасці, акрамя сваёй рабочай сілы, якую ён прадае, як тавар, капіталісту. Наш рабочы клас стаіць ва ўладзе, наш рабочы клас з'яўляецца ўласнікам аграмаджаных сродкаў вытворчасці. Тым самым, перабудоўваючы класавае грамадства, знішчаючы эксплаататарскія класы, наш пролетарыят змяніў і сваю ранейшую сутнасць. Тое-ж самае можна сказаць і ў дачыненні вёскі.

Хіба цяперашні селянін-калгаснік у якой-небудзь меры падобен на селяніна мінулага? Не, таварышы. Раней селянін, маючы невялічкі кавалачак зямлі, па сутнасці справы працаваў на кулака, на памешчыка, знаходзячыся ў іх пастаяннай кабале. Цяпер калгаснік з'яўляецца ўладальнікам буйнай грамадскай гаспадаркі. Жыццё і матар'яльныя ўмовы калгасніка ні ў якой меры не падобны на жыццё і матар'яльныя ўмовы ранейшага селяніна. Вось бачыце, якія буйныя змены адбыліся і ў сутнасці саміх гэтых класаў—класа пролетарыяў і класа сялянства. Дый сама ранейшая розніца паміж рабочым і калгасным сялянствам усё больш сціраецца. Усё гэта дае нам поўнае права сказаць, што і трэцюю важнейшую ўмову соцыялізма—ліквідацыю класавага грамадства—наша большэвіцкая партыя з поспехам праводзіць у жыццё. **(Апладысменты).**

Чацвертая вельмі важная ўмова соцыялізма: не можа быць соцыялізма, калі людзі церпяць нястачы і не могуць знайсці работы, калі не знішчана беспрацоўе. Разам са стварэннем і ростам буйнай прамысловасці і арганізацыяй калгасаў у СССР зыходзіць назаўсёды са сцэны злейшы біч працоўных—беспрацоўе. Яго ў нас няма і яго ў нас не будзе і не можа быць. **(Апладысменты).**

У нашай краіне, таварышы, няма небяспекі лішку насельніцтва. Няма таксама і небяспекі перавытворчасці тавараў. Чым больш людзей, тым для нас лепш, чым больш тавараў, тым лепш. Капіталістычная вытворчасць, якая развіваецца скачкамі з перашкодамі, пастаянна стаіць перад пытаннямі лішку насельніцтва, перавытворчасці тавараў, перад крызісамі, перад пэўнымі межамі ў вытворчасці. Людзі там, з аднаго боку, мруць ад голаду, а з другога боку, тавараў дзяваць няма куды, і вытворчасць скарачаецца. Такая супярэчнасць капіталістычнай вытворчасці, заснаванай на вытворчасці дадатковай вартасці, на эксплаатацыі рабочых,—гэта аснова намі разбурана. У нас іншая аснова вытворчасці—задавальненне спажывання і палепшанне жыцця працоўных мас і далейшае расшырэнне соцыялістычнай вытворчасці, каб палепшыць матар'яльнае жыццё працоўных, таму ў нас не абмежавана вытворчасць і спажыванне прадуктаў. У іх дзесяткі мільёнаў беспрацоўных, а ў нас няма беспрацоўных. Не гледзячы на тое, што наша вытворчасць тавараў узрасла, напрыклад, у першым квартале бягучага года выпрацоўка прамысловай прадукцыі ўзрасла на 31,1 проц. у параўнанні з першым кварталам міну-

лага года, аднак, мы не толькі не адчуваем лішку на прадпрыемствах рабочай сілы, але наадварот, некаторыя галіны нашай прамысловасці і зараз адчуваюць недахват рабочай сілы.

Вось чацвертая ўмова соцыялізма, якая ў нас выканана поўнасцю побач з карэнным палепшаннем матар'яльных умоў рабочых. Узяць, напрыклад, зарплату, якая ўзрасла ў параўнанні з 1928 годам больш чым у тры разы. Гадавая сярэдняя зарплата рабочага складала тады 730 рублёў, а цяпер, у 1936 годзе, складае 2.465 рублёў. **(Апладысменты).**

Трэба сказаць, таварышы, што побач з гэтым карэнным чынам змянілася і становішча нашай совецкай моладзі. Ва ўмовах капіталізма моладзь падвергнута самай бесчалавечнай эксплаатацыі і перш за ўсё беспрацоўю і іншым «прыемнасцям» капіталізма. Праца моладзі ў капіталістычнай вытворчасці—самая танная праца. Наша-ж совецкая моладзь не толькі не адрозніваецца на вытворчасці ў адносінах матар'яльных ўмоў ад астатняй масы рабочых і калгаснікаў, але, больш таго, часта займае найбольш пачэсныя месцы і адказныя спецыяльнасці, выступаючы найбольш ініцыятыўна на ўсіх участках нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Праведзена таксама і яшчэ адна вельмі важная ўмова соцыялізма. У нас усё зроблена для вызвалення жанчыны і ператварэння яе ў сапраўднага і роўнапраўнага ўдзельніка ўсяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Няма ў нас такіх галін працы і навукі, дзе-б жанчына не прымала самага актыўнага ўдзелу.

Нашай большэвіцкай партыяй таксама з поспехам вырашана нацыянальнае пытанне. Усе народы Совецкага Саюза з'яўляюцца роўнапраўнымі і ў аднолькавай меры прыцягнутымі да справы будаўніцтва новага жыцця. Мова, культура кожнай, хоць-бы самай невялікай, нацыянальнасці Совецкага Саюза пастаўлены ў спрыяючыя ўмовы для свайго развіцця. У нас няма прыгнятаемых і няма прыгнятальнікаў. Такім чынам, і гэта ўмова соцыялізма поўнасцю і цалкам ажыццёўлена. **(Апладысменты).**

Уся гэта гіганцкая работа ў самы апошні перыяд завяршаецца магутным узмахам стаханаўскага руху ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы, які пракладвае новую грань паміж нашым совецкім ладам і ладам буржуазным, больш высокай прадукцыйнасцю працы, чым у капіталістаў, гэтай асновай новага, яшчэ большага росквіту нашай краіны. Стаханаўцы—людзі, якія авалодалі тэхнікай, не ведаюць прадзелаў, ламаюць гэтыя прадзелы, пракладваюць дарогу для пераходу на больш высокую стадыю соцыялістычнага грамадства. І ў гэтым, таварышы, тое найвялікшае значэнне, якое мае стаханаўскі рух.

Вось тыя карэнныя змены, якія адбыліся ў нашай вялікай краіне.

Такім чынам, усе сцвярджэнні нікчэмных ў рэволюцыі, а затым і яе прамых ворагаў—Троцкага, Зіноўева, Каменева і іншых,—што нельга пабудаваць соцыялізм у адной краіне, засталіся жалкім піскам. Соцыялістычны лад у СССР створан. Совецкі Саюз моцны, сільны, граніцы яго ахоўваюцца нашай доблеснай Чырвонай арміяй. **(Апладысменты).** СССР стаў любімай радзімай не толькі для свайго народу, але і краінай, якую любяць працоўныя ўсяго свету. **(Апладысменты).**

Усяго гэтага мы дабіліся толькі ў рэзультаце правільнай ленінскай палітыкі нашай большэвіцкай партыі, яе Цэнтральнага Камітэта і геніяльнага кіраўніцтва нашага роднага і вялікага Сталіна. **(Бурныя**

**апладысменты. Зала ўстае. Воклічы: «Няхай жыве таварыш Сталін!» «Таварышу Сталіну—ура!» «Хай жыве вялікі Сталін—ура!»).**

Ітак, таварышы, у нас створаны ўсе неабходныя ўмовы для новага ўздыму і перамог соцыялістычнай вытворчасці. У нас ёсць буйная прамысловасць, у нас ёсць цяпер буйная соцыялістычная сельская гаспадарка, у нас ёсць велізарная колькасць усякага роду першакласных машын, колькасць якіх з кожным годам усё больш і больш будзе павялічвацца на нашых фабрыках і на калгасных палях.

Наша вялікая краіна мае велізарную колькасць усякага роду прыродных багаццяў, якія ставяць яе ў незалежнае становішча ад іншых краін. У нас ёсць жаданне ісці наперад, біцца за новыя перамогі, ёсць упэўненасць у гэтых перамогах. І, нарэшце, у нас ёсць цяпер новыя выдатныя людзі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

## Комсамол—арганізацыя комуністычнага выхавання і вучобы моладзі

Што нам цяпер патрэбна? Нам патрэбны, таварышы, вучоба, веды, бо толькі веды будуць вырашаць справу ва ўсіх галінах. Я ўжо гаварыў аб тым, што ў нас у СССР прадукцыйныя сілы нічым не скаваны. Усе аковы з вытворчасці зняты. Толькі недахоп ведаў, малаграматнасць і руціна могуць яшчэ тармазіць нашу справу. Ліквідацыя няграматнасці і малаграматнасці, лепшае абучэнне ў школах, павышэнне тэхнічнай асветы рабочых і калгаснікаў знімуць апошнюю перашкоду к таму, каб зрабіць яшчэ больш гіганцкія поспехі ў справе пабудовы комуністычнага грамадства. Вось адкуль, таварышы, тая асаблівая ўвага, якую ўдзяляе пытанням асветы ЦК нашай большэвіцкай партыі і асабіста таварыш Сталін. **(Апладысменты).** Вось чаму цэнтральнай задачай ленінскага комсамола становіцца вучоба. Комсамол—арганізатар вучобы ўсёй совецкай моладзі. Аб якой вучобе ідзе гутарка? На гэта пытанне мы павінны адказаць толькі так: нам цяпер важна ўсякая вучоба ва ўсіх галінах ведаў, пачынаючы з ліквідацыі няграматнасці, малаграматнасці і канчаючы навукова-даследчай вучобай.

Як вы ведаеце, совецкая ўлада і наша партыя нямала ўжо зрабілі ў галіне культуры і развіцця асветы ў нашай краіне. Можна ўзяць, напрыклад, толькі некалькі лічбаў для таго, каб зразумець, якая велізарная культурная работа праведзена за мінулы перыяд часу ў СССР. Колькасць вучняў у пачатковых і сярэдніх школах да рэволюцыі, у 1914 годзе, складала 7.800 тыс. чалавек, а ў 1936 годзе колькасць вучняў у пачатковых і сярэдніх школах складзе 27.935,9 тыс. чалавек **(апладысменты),** г. зн. амаль у 4 разы больш. Гэта значыць, што мы дабіліся пагалоўнага абучэння дзяцей у нашых школах. Акрамя таго, студэнтаў у тэхнікумах адпаведна было каля 48 тысяч, а цяпер іх 740 тысяч; у БТНУ і ВНУ было 124 тыс., цяпер—509 тысяч. Гэта ні ў якім разе не вычэрпвае ўсіх відаў абучэння, якія мы маем у нашай краіне. Вялікая колькасць людзей абучаецца яшчэ ў фабзавучах, у заводскіх школах для дарослых, у калгасных школах і курсах па падрыхтоўцы розных кадраў для сельскай гаспадаркі і т. д.

У галіне ліквідацыі няграматнасці мы маем вялікія поспехі. Няграматных у нас да рэволюцыі лічылася 70 проц. насельніцтва ва ўзросце ад 8 да 50 год, а цяпер няграматных гэтага ўзросту мы маем каля 8—10 проц. У рэзультаце ўсёй праведзенай культурнай работы краіна выведзена з мора невуцтва і цемнаты, але гэтага мала. Нас цяпер

менш цікавіць колькасць навучальных устаноў, за выключэннем пачатковых і сярэдніх школ, якія мы будзем прадаўжаць узмоцнена будаваць. Колькасць-жа тэхнікумаў і вышэйшых навучальных устаноў і т. п. у нас ужо немалая. Нас цікавіць зараз галоўным чынам становішча вучобы, яе арганізацыя і якасць. Трэба прызнаць, што, не гледзячы на прынятыя меры і вялікую работу, якая праведзена для палепшання пастаноўкі справы ў школе, пачынаючы ад ніжэйшай і канчаючы вышэйшай, становішча ва ўсіх звеннях нашай школы з'яўляецца ўсё яшчэ нездавальняючым, асабліва па такіх важных прадметах, як веданне роднай мовы, гісторыі, геаграфіі. Няма патрэбы прыводзіць вам шматлікія прыклады з гэтай галіны, калі дзеці, якія аканчваюць школу, і студэнты, якія аканчваюць вышэйшую навучальную ўстанову, дрэнна ведаюць гісторыю, не ўмеюць граматна пісаць, не ўмеюць рабіць разлікаў, не ўладаючы неабходнымі матэматычнымі ведамі.

Адкуль бяруцца такія недахопы? Як відаць, ад усё яшчэ дрэннага выкладання і дрэннай якасці падручнікаў і ад таго, што значная частка настаўнікаў школ сама яшчэ недастаткова граматна. Прывяду толькі некалькі лічбаў аб недастатковай граматнасці і нізкім узроўні асветы нашых настаўнікаў.

У пачатковых школах па РСФСР у 1935 годзе было 34,8 проц. настаўнікаў з ніжэйшай асветай, 63,7 проц. з сярэдняй асветай і толькі 1,5 проц. з вышэйшай педагагічнай асветай. У няпоўных і сярэдніх школах было 9 процантаў настаўнікаў з ніжэйшай асветай, 66 процантаў з сярэдняй асветай і толькі 24 проц. з вышэйшай асветай. Вось чаму недастатковы ўзровень асветы настаўнікаў—самы слабы ўчастак школы.

Становішча са школай трэба прызнаць, таварышы, пакуль што яўна нездавальняючым. ЦК БКП(б) і ў асаблівасці асабіста таварыш Сталін моцна ўзяліся за гэты ўчастак работы. Ясна, што мы яго абавязкова выправім. Але для гэтага прыдзецца вельмі сур'ёзна папрацаваць.

Роля комсамола ў гэтай галіне будзе велізарная, але пакуль што, трэба сказаць адкрыта, комсамольскія арганізацыі не ўвязаліся ў гэту справу як след, а ўсё яшчэ ходзяць кругом ды навокал школы.

Сур'ёзныя клопаты аб настаўніцтве ясна былі выказаны ў апошніх пастановах ЦК і Соўнаркома. Нам трэба пачынаць з кожнага паасобку настаўніка, дапамагчы яму падняцца на больш высокі ўзровень культурнасці і граматнасці, дапамагчы яму атрымаць больш высокую кваліфікацыю, каб ён мог стаць сапраўды добрым настаўнікам.

Трэба мець на ўвазе, што ў нас палова настаўнікаў—комсамольскага ўзросту, і таму комсамол можа зрабіць велізарную работу. Справа ідзе не толькі аб пачатковай і сярэдняй школах, сур'ёзна трэба ўвязацца і ў работу па палепшанню справы ў нашых вышэйшых школах, асабліва ў педагагічных, якія падрыхтоўваюць нам кадры настаўнікаў, але якія да гэтага часу пастаўлены яшчэ вельмі дрэнна. Трэба, каб комсамол сур'ёзна заняўся камплектаваннем педагагічных інстытутаў і тэхнікумаў перадавымі комсамольцамі і комсамолкамі, як гэта ён робіць у адносінах некаторых іншых навучальных устаноў.

Вельмі сур'ёзнай справай трэба прызнаць таксама ліквідацыю няграматнасці і малаграматнасці ў нашай краіне. Гэта цяжкая гіра, якая нам перашкаджае хутка ісці наперад. У нас ёсць яшчэ некалькі мільёнаў няграматных.

Мы павінны, згодна пастанове СНК і ЦК ВКП(б), ліквідаваць няграматнасць сярод нашага насельніцтва ва ўзросце да 50 год на працягу двух гадоў. Але нам мала ліквідаваць няграматнасць,—нам трэба ліквідаваць і малаграматнасць, трэба мець на ўвазе, што малаграматнасць ёсць не толькі сярод дарослых, пажылых людзей, але і сярод моладзі.

Я мог-бы спаслацца толькі на адзін прыклад. На маскоўскай канферэнцыі комсамола выступаў адзін таварыш з Ражскага раёна і заявіў наступнае:

«Я павінен сказаць аб тым, што **ў нас сярод моладзі 8,5 проц. няграматных і 32 проц. малаграматных. Гэта сярод хлопцаў, а сярод дзяўчат процант яшчэ вышэй. Вазьміце нашы калгасы, буйныя калгасы—«Новое Волгдаево» і «Красный Октябрь»—з 700 чалавек моладзі 314 чалавек малаграматных і 115 чалавек няграматных».**

Так справа абстаіць у адным з сельскіх маскоўскіх раёнаў, але ці з'яўляецца выключэннем Ражскі раён? Зусім не, таварышы. Відаць, у якіх-колечы месцах справа абстаіць нават некалькі горш, а тым часам сярод комсамольскіх работнікаў ёсць вядомыя настроі пераскоквання праз няграматнасць і малаграматнасць,—чаго там, моў, вазіцца з няграматнасцю і малаграматнасцю моладзі, давай сярэднюю і вышэйшую асвету.

Не, таварышы, гэта няправільная пазіцыя. Нам трэба абавязкова ліквідаваць няграматнасць і малаграматнасць, гэту аснову невуцтва і некультурнасці, і тады мы пойдзем наперад яшчэ значна хутчэй.

Я гаварыў вышэй аб школьнай вучобе, але нам важна, таварышы, вучоба не толькі ў пачатковых, сярэдніх і вышэйшых школах, а вучоба і па-за школай. Вучоба—гэта паняцце больш шырокае, а ўся вучоба ў нас ёсць вучоба комуністычная, бо без яе нельга будаваць комунізма.

Вядома, што не ўсе могуць атрымліваць веды праз школы, асабліва на сяле. Сур'ёзным сродкам агульнай і тэхнічнай асветы можа служыць і завочная асвета, якая ў нас недастаткова яшчэ разгорнута, але якая павінна атрымаць велізарны размах для таго, каб дапамагчы людзям набыць веды без адрыву ад вытворчасці. Комсамол павінен выступіць у гэтай справе актыўным арганізатарам побач з работай над пашырэннем і паляпшэннем навучання ў школах і гуртках без адрыву ад вытворчасці на заводах і ў калгасах. Нельга лічыць правільным настрой сярод вядомай часткі моладзі і шырока распаўсюджаны сярод дзяцей—стаць абавязкова інжынерам ці лётчыкам. Комсамол павінен укараняць у свядомасць дзяцей і моладзі, што ў нашым ладзе аднолькава важны ўсякія спецыяльнасці—настаўнікі, слесары, токары, машыністы, трактарысты, жывёлаводы і т. п. Кожны юнак і дзяўчына павінны імкнуцца аўладаць у дасканаласці якой-небудзь спецыяльнасцю.

Некалькі слоў аб палітычным выхаванні. Комсамол пасля вядомых указанняў таварыша Сталіна аб перабудове работы нямала зрабіў у гэтай галіне. Аднак трэба прызнаць наяўнасць яшчэ вельмі сур'ёзных недахопаў, якія перашкаджаюць справе комуністычнага выхавання моладзі. Ленінскае выхаванне ў комсамоле павінна падрыхтоўваць сапраўдных большэвікоў, выхоўваць высокую ідэйнасць сярод комсамольцаў.

Гэта выхаванне неабходна кожнаму комсамольцу для таго, каб больш смела і ўпэўнена ісці наперад і разбірацца ў акружаючай абстаноўцы, будзь гэта гаспадарка, ці ідэалогія. Верна, што эксплаата-

тарскія класы ў нас знішчаны, але астаткі гэтых класаў яшчэ ёсць. Яны часам залязаюць у самыя адказныя і адчувальныя месцы нашага совецкага арганізма, ведучы сваю шкодніцкую работу. Гэта атрымліваецца з-за адсутнасці дастатковай палітычнай астраты і пільнасці да пранікнення класавых ворагаў у нашы арганізацыі. Для таго, каб гэтага не дапускаць, трэба быць палітычна граматным.

Вось чаму неабходна нашай моладзі ленінска-сталінская загартоўка шляхам добрай арганізацыі палітычнага выхавання.

Аб недахопах работы ў комсамоле па палітычнаму выхаванню гаварылася не адзін раз. Яны ў асноўным зводзяцца к таму, што палітвучоба і вывучэнне гісторыі партыі часта ставяцца павярхоўна, прапагандысты падбіраюцца няўважліва, а галоўнае, з прапагандыстамі комсамольскія арганізацыі не працуюць. Наведванне школ і гурткоў недастатковае, заняткі ў школах і ў гуртках часта вядуцца нецікава, не захапляючы моладзі. А тым часам трэба сказаць, што тэма вывучэння гісторыі партыі і ўсё, што звязана з гэтым, вывучэнне прац Леніна і Сталіна, гэта—багацейшая і цікавейшая тэма.

Аднак выкладчыцкая работа ў школах і гуртках вядзецца часта настолькі нецікава, што проста адштурхвае комсамольцаў ад палітыка-выхаваўчай работы.

Гэта адбываецца таму, што гэтай рабоце да гэтага часу не забяспечана належнае кіраўніцтва. Справа заключаецца зараз у практычнай арганізацыі работы, не ў рэзалюцыях і пастановах, а ў праграмах школ і гурткоў, і ў тым, каб даць добрыя падручнікі, падабраць добрых прапагандыстаў, асабіста правяраць кіруючымі работнікамі комсамола работу школ і гурткоў і самім асабіста весці работу ў гэтых школах і гуртках для таго, каб чэрпаць матар'ял для выпраўлення існуючых недахопаў.

Вазьміцеся, таварышы, за гэту справу як след і пастаўце палітыка-выхаваўчую работу ў комсамоле на належную вышыню.

Ленін і таварыш Сталін неаднаразова перад комсамолам ставілі пытанні выхаваўчай работы. Год таму назад таварыш Сталін з асобай сур'ёзнасцю паставіў пытанне аб перабудове ўсёй работы комсамола пад гэтым пунктам погляду. Аднак трэба сказаць, што апарат комсамольскіх арганізацый далёка яшчэ не перабудаваўся ў гэтым напрамку. Пытанні вучобы і выхавання яшчэ не сталі цэнтральнымі пытаннямі ў рабоце комсамольскіх арганізацый. Многія комсамольскія работнікі яшчэ раскідаюцца на розныя ўчасткі гаспадарчай і совецкай работы, упускаючы гэту асноўную задачу.

Калі перад з'ездам комсамола абмяркоўвалася, якія пытанні паставіць на з'ездзе і пад якім кутом правесці работу з'езда, таварыш Сталін прама сказаў, што, на яго думку, з'езд комсамола павінен прайсці пад знакам арганізацыі вучобы і выхавання. **(Бурныя, доўга не змаўкаючыя апладысменты).** Так, таварышы, і трэба зрабіць, як раіў таварыш Сталін. **(Бурныя апладысменты).** Увесь пафас комсамольскай работы і ўсю героіку нашага ленінскага комсамола трэба перанесці цяпер на вучобу. У гэтым галоўнае. **(Бурныя апладысменты).**

## Стаханаўскі рух і комсамол

Непасрэдна з вучобай звязана і далейшае разгортванне стаханаўскага руху.

Што мы маем зараз у развіцці стаханаўскага руху? Пасля вядомай стаханаўскай нарады тут, у Крэмлі, прамовы таварыша Сталіна і



пасля рашэнняў пленума ЦК стаханаўскі рух пайшоў далей наперад. У першым квартале 1936 года прамысловасць выканала свой план, а па чыгуначнаму транспарту план нават перавыканан.

Гэта, таварышы, сур'ёзная перамога стаханаўскага руху, бо, як вы ведаеце, план першага квартала ў нас быў высокім, і ён не мог бы быць выканан у звычайных умовах. План выканан толькі ў рэзультаце таго, што ў нас стаханаўскі рух пайшоў наперад.

Аднак стаханаўскі рух разгортваецца страката. Рад галін прамысловасці па-ранейшаму адстае. Адстаюць такія важныя галіны, як лясная прамысловасць, вытворчасць будматар'ялаў, як медная прамысловасць і іншыя. Калі-б гэтыя галіны прамысловасці не адставалі, мы мелі-б напэўна перавыкананне плана першага квартала. Але нават на прадпрыемствах і ў галінах прамысловасці, якія ідуць наперадзе, мы маем лік стаханаўцаў, які даходзіць да ⅓ у асноўных цэхах, а ў падможных цэхах і таго менш.

Работа па ўвядзенню новых норм і перабудове зарплаты празмерна зацягнулася па раду галін прамысловасці. Такім чынам, можна сказаць, што стаханаўскі рух знаходзіцца яшчэ толькі ў сваім пачатку. Мы маем недапушчальныя і шкодныя настроі самацёку сярод вядомай часткі гаспадарнікаў, і не толькі гаспадарнікаў, але і работнікаў партыйных, комсамольскіх і профсаюзных арганізацый, у справе разгортвання стаханаўскага руху, і толькі гэтым можна растлумачыць, што па цэламу раду прадпрыемстваў і галін нашай гаспадаркі справа абстаіць са стаханаўскім рухам зараз горш, чым было ў снежні месяцы.

Стаханаўскі рух патрабуе абнаўлення работы ўсяго механізма кіравання вытворчасцю. Ён не церпіць ніякага застою, бюракратызма і руціны, і таму яму аказваецца сабатаж і супраціўленне з боку носьбітаў гэтых недахопаў у нашай сістэме кіравання гаспадаркай. Комсамол павінен усімі спосабамі дапамагчы партыі зламаць гэты сабатаж і супраціўленне і развязаць стаханаўскі рух яшчэ больш. Многія гаспадарнікі лічаць, што выкананне пастаўленай праграмы гэта—прадзел стаханаўскай работы. Нічога падобнага. Разгортванне стаханаўскага руху павінна перасягнуць намечаную вытворчую праграму. У гэтым—задача.

Але асабліва трэба падкрэсліць значэнне тэхнічнай вучобы для паспяховага разгортвання стаханаўскага руху. Жаданне быць стаханаўцам у нас цяпер ёсць у велізарнай большасці рабочых. Дарога, як стаць стаханаўцам, паказана нашымі лепшымі стаханаўцамі. Справа цяпер заключаецца ў тым, каб шырока разгарнуць тэхнічную вучобу, якая ў нас яшчэ на прадпрыемствах пастаўлена нездавальняюча і часта арганізавана фармальна. Комсамол павінен увязацца ў гэту справу як след і праявіць сваю энергію ў гэтым напрамку.

Але асабліва рашаючую ролю комсамол павінен адыграць у разгортванні стаханаўскага руху ў сельскай гаспадарцы. Таварыш Сталін паставіў перад партыяй і ўсёй краінай задачу—дабіцца на працягу бліжэйшых 3—4 год павелічэння вытворчасці хлеба да 7—8 млрд. пудоў. Мы гэта выканаем, калі разгорнем як след стаханаўскі рух у нашай сельскай гаспадарцы. А трэба прызнаць, што стаханаўскі рух у калгасах у нас яшчэ толькі пачынаецца, але ён мае ўсе падставы к таму, каб хутка і шырока разгарнуцца. Машыны ў нас ёсць, іх будзе з кожным годам усё больш і больш, колькасць угнаенняў будзе павялічвацца, калгасы канчаткова скаладіся. Сталінскім калгасным статутам знойдзена лепшая форма злучэння інтарэ-

саў дзяржавы і паасобнага калгасніка. Выпрацаваліся новыя кадры людзей у асобе камбайнераў, трактарыстаў, жывёлаводаў і інш. Цяперашнія стаханаўцы ў сельскай гаспадарцы—гэта, вядома, пакуль толькі разведчыкі, якія бліскуча выканалі сваю задачу і паказалі дарогу. Рэзультаты стаханаўскага руху ў сельскай гаспадарцы будуць, таварышы, велізарныя. Цяжка нават уявіць, які мы зробім скачок ад той адсталасці, якая ёсць у сельскай гаспадарцы, калі ператварыць на справе тое, што даюць па рэзультатах сваёй работы такія передавыя людзі сельскай гаспадаркі, як Ангеліна, Дземчанка і цэлы рад іншых. **(Апладысменты).**

Але стаханаўскі рух у сельскай гаспадарцы не пойдзе самацёкам. Для гэтага патрабуецца велізарная арганізуючая работа, і асаблівую ролю ў гэтым павінен будзе адыгрываць комсамол, бо роля моладзі ў сельскай гаспадарцы яшчэ больш значна, чым у прамысловасці, таму што найбольш прагрэсіўнай, не звязанай традыцыямі індывідуальнай гаспадаркі, найбольш смелай і граматнай у сельскай гаспадарцы з'яўляецца калгасная моладзь, і трэба думаць, што комсамол з гонарам выканае сваю задачу і беззаветна будзе біцца за выкананне задання таварыша **Сталіна** аб давядзенні вытворчасці хлеба да 7—8 млрд. пудоў, за шпаркі ўздым жывёлагадоўлі, за павелічэнне колькасці бавоўны, ільну, воўны і іншай сыравіны для нашай прамысловасці. **(Апладысменты).**

## Арганізацыйныя пытанні комсамола

Дазвольце мне цяпер некалькі спыніцца на арганізацыйных пытаннях комсамола. Калі гаварыць адкрыта, таварышы, то арганізацыйная работа комсамола сур'ёзна адстае ад узроўню задач і ролі комсамола на ўсіх участках нашага соцыялістычнага будаўніцтва, а гэтага адставання арганізацыйнай работы не павінна быць. Справа заключаецца ў тым, каб ліквідаваць гэта адставанне арганізацыйнай работы ад узроўню задач, якія мае комсамол.

Да чаго зводзіцца перабудова і палепшанне арганізацыйнай работы ў комсамоле? Да таго, па-першае, каб падпарадкваць усю арганізацыйную работу ў комсамоле асноўнай задачы—стаць сапраўды шырокай арганізацыяй вучобы і комуністычнага выхавання ўсёй совецкай моладзі. На гэта, таварышы, трэба павярнуць увесь комсамольскі апарат, і павярнуць як след.

Палепшанне і перабудова арганізацыйнай работы зводзіцца, па-другое, да таго, каб на справе правесці новую праграму і новы статут комсамола, якія вы прымеце на з'ездзе.

Таварыш Сталін, пад кіраўніцтвам якога былі распрацаваны новыя праграма і статут комсамола, унёс вельмі сур'ёзныя папраўкі ў першапачатковыя праекты і праграмы і статута. Але, таварышы, трэба сказаць, што гэтыя папраўкі з'яўляюцца не проста папраўкамі да праектаў праграмы і статута, а сур'ёзнымі папраўкамі да ўсёй папярэдняй і існуючай арганізацыйнай работы комсамола. Якія гэта папраўкі? Іх было вельмі многа. Я думаю, што дакладчыкі, якія будуць дакладваць з'езду аб праграме і статуце, павінны будуць расказаць аб гэтым. Я толькі спашлюся на дзве папраўкі.

Замест старога тэксту статута ў пачатку трэцяга абзаца: «ВЛКСМ з'яўляецца масавай пролетарскай, па сваёй сутнасці, арганізацыяй, яднаючай у сваіх радах шырокія слаі перадавой, класава свядомай, палітычна граматнай моладзі», таварыш Сталін прапанаваў другі

тэкст: «ВЛКСМ з'яўляецца масавай, беспартыйнай арганізацыяй, яднаючай у сваіх радах шырокія слаі перадавой, палітычна граматнай працоўнай моладзі горада і вёскі». У другой частцы гэтага-ж абзаца, у фразе: «якое-б там ні было адступленне ад праграмы ВКП(б) і ВЛКСМ несумяшчальна з прабываннем у комсамоле», выкраслены словы «ВКП(б)». У трэцім пункце, замест старога тэксту, дзе гаварылася аб падзеле на групы па соцыяльнаму прызнаку пры прыёме ў члены ВЛКСМ, таварыш Сталін прапанаваў другі тэкст: «У члены комсамола прымаецца перадавая, праверанае, адданая Совецкай уладзе моладзь з асяроддзя рабочых, сялян і служачых».

Аб чым гавораць гэтыя папраўкі? Яны гавораць аб тым, што комсамол павінен перастаць будаваць сябе ў поўнай адпаведнасці з партыйнымі арганізацыямі і пераймаць ва ўсім работу партыйных камітэтаў. Большэвіцкая партыя ў нас адна. Комсамол—гэта беспартыйная арганізацыя перадавой моладзі, прымыкаючая да ВКП(б). Гэта значыць, што комсамол павінен стаць больш шырокай арганізацыяй, чым ён з'яўляецца цяпер. Няма чаго прыдумваць абмежаванні прыёму ў члены ВЛКСМ, падобныя на абмежаванні прыёму ў партыю. У рэзультаце новай праграмы і статута комсамольская арганізацыя павінна ўзрасці, і ў гэтым нічога страшнага няма. Гэта не значыць адкрываць дзверы насцеж і прымаць каго папала. Для гэтага ёсць абмежаванне, г. зн. вядомая палітычная падрыхтаванасць і праверка кожнага перад уступленнем у комсамол. Гэтыя гарантыі павінны строга выконвацца, але нечага прыдумваць абмежаванняў, уласцівых партыйнай арганізацыі.

Папраўкі далей гавораць аб тым, што ў комсамоле павінна быць адменена практыка так званага рэгулявання соцыяльнага складу, павінны быць зняты існаваўшыя падзелы. Да гэтага часу комсамол лічыў сябе пераважна пролетарскай арганізацыяй, цяпер ён становіцца больш шырокай арганізацыяй, арганізацыяй усёй перадавой совецкай моладзі—рабочых, калгаснікаў, служачых і вучнёўства.

Вось, таварышы, што выцякае толькі з двух прыведзеных мною паправак таварыша Сталіна.

Задачы палепшання арганізацыйнай работы ў комсамоле, па-трэцяе, заключаюцца ў тым, каб знішчыць існуючыя недахопы і ўзмацніць тыя ўчасткі комсамольскай работы, якія з'яўляюцца на сёнешні дзень яшчэ слабымі ўчасткамі. Якія гэта недахопы? Першы сур'ёзны недахоп, аб якім гаварылі на шматлікіх канферэнцыях комсамола, праходзіўшых перад з'ездам,—гэта недахоп, які зводзіцца да слабасці арганізацыйнага кіраўніцтва зверху данізу і выражаецца ў тым, што замест канкрэтнасці ў арганізацыйным кіраўніцтве часта пераважае кіраўніцтва дырэктывамі, палітычнымі ўстаноўкамі і агульнымі ўказаннямі на недахопы і на тое, што гэтыя недахопы трэба выправіць. Такое кіраўніцтва, таварышы, нас цяпер задаволіць не можа. Яно павінна быць больш канкрэтным, больш чоткім, і яно павінна мець на мэце задачы выхавання комсамольскіх кадраў зверху данізу.

Элементы выхавання ў арганізацыйнай рабоце, пераконанне і абучэнне ў вас павінны быць куды больш моцнымі, чым у партыйных арганізацыях, бо ў партыю мы прымаем людзей ужо больш сталых і падрыхтаваных у палітычных адносінах, у той час як у комсамоле мы яшчэ маем на мэце велізарную выхаваўчую работу над кожным комсамольцам. Вось чаму ў вас элементы выхавання і абучэння ў арганізацыйнай рабоце павінны быць больш пашы-

раны. У вас барацьба з мноствам спагнанняў, з фармалізмам у арганізацыйнай рабоце, так званымі апросамі пры вырашэннях розных пытанняў і з адміністраваннем павінна быць астрэй, чым цяпер.

Цяпер мала таго, каб ты як кіраўнік ці інструктар указваў на недахопы і на неабходнасць іх выпраўлення. Не, ты разам з тым абавязан і навучыць, як выправіць гэтыя недахопы. Выявіць непарадкі, гэта яшчэ недастаткова для кіраўніка. Гэта добра, што ты адчуваеш недахопы, але ты абавязан і навучыць, як іх выправіць.

А колькі ёсць скарг у вас на інструктароў, на выезды паасобных кіруючых работнікаў з боку нізавых арганізацый і радавых комсамольцаў? Прыедзе, гаворыць, чалавек, вылае, пакрытыкуе, нагаворыць прамоў, збярэ ўсякага роду статыстычныя даныя і з гэтым паедзе. А каб дапамагчы справе, навучыць, як лепш паставіць работу, гэтага няма.

Ці ёсць такая практыка ў комсамольскіх арганізацыях, таварышы?

**Галасы:** Ёсць, ёсць.

**Андрэеў:** Аб чым гавораць гэтыя недахопы? Яны гавораць, з аднаго боку, аб павярхоўным падыходзе з боку кіруючых работнікаў да арганізацыйных пытанняў, а з другога боку, аб тым, што і рад бы той, ці іншы кіраўнік навучыць, як лепш паставіць работу, але не ведае, як гэта зрабіць. Вось чаму часта няведанне, як палепшыць работу, прыкрываецца агульнымі размовамі, дырэктывамі і палітычнымі ўстаноўкамі. Гэта паказвае на адставанне некаторай часткі кіруючых комсамольскіх кадраў ад жыццёвых патрабаванняў і запросаў узросшай комсамольскай работы.

Комсамольскае кіраўніцтва знізу да верху не павінна адставаць ад палітычнага, культурнага і арганізацыйнага росту моладзі. Задача заключаецца ў тым, каб смялей уцягваць у комсамольскую работу новых людзей і больш сур'ёзна вучыцца ўсяму кіруючаму актыву, каб быць палітычна граматнымі, культурнымі кіраўнікамі. Паменш засядайце. Ёсць многа скарг на шматлікія і доўгія пасяджэнні. Многія комсамольскія работнікі гавораць: засядаем так многа, што няма калі працаваць і вучыцца. Дык вось, таварышы, паменш пасяджэнняў, паменш усякай параднасці, паменш шуміхі і славеснай траскатні. Пабольш скромнасці і сур'ёзнасці ва ўсёй вашай рабоце і паводзінах. Паменш пішыце рэзалюцый і агульных дырэктыў. Энергічней змагайцеся з невуцтвам, самахвальствам і верхаглядствам. Пабольш вучыцеся і працуйце над сабой, тады арганізацыйная работа ў вас падымецца на належную вышыню.

Слабым участкам комсамола з'яўляюцца яго арганізацыі ў калгасах. У нас у краіне калгасаў 250.000, а комсамольскіх арганізацый калгасных 102.000. Значыць, больш паловы калгасаў не мае комсамольскіх арганізацый. Комсамольцы складаюць у калгасах толькі 7 проц. да ўсёй калгаснай моладзі. Гэта мала, таварышы. Гэта паказвае, што комсамол недастаткова пашырыў свой уплыў у калгасах. А калі да гэтага дадаць, што работа комсамольскіх арганізацый у калгасах, як правіла, слабей, чым у горадзе і на прамысловых прадпрыемствах, то гэты ўчастак комсамольскай работы трэба прызнаць слабым участкам.

Трэба весці справу да таго, каб комсамольскія арганізацыі былі, па крайняй меры, у большасці нашых калгасаў і праслойка комсамольскай моладзі сярод калгаснай моладзі павялічылася.

Задача даць у бліжэйшыя 3—4 гады 7—8 млрд. пудоў хлеба, па-

скорання ўздыму жывёлагадоўлі патрабуе, каб работа партыі і комсамола адчувалася ў кожным калгасе.

Ліквідацыя розніцы паміж горадам і вёскай мае на ўвазе велізарную культурную работу. Калгаснік хоча жыць цяпер па-гарадскому ва ўсіх адносінах: ён хоча мець кіно, радыё, музыку, кніжкі, газеты і т. д. Калгаснікі хочуць вучыцца,—адным словам, не хочуць адставаць цяпер ад горада і ад гарадскога жыцця.

Гэта раней селянін, які жыў упрогаладзь, прыгнятаемы памешчыкам і кулаком, заліваў сваё гора гарэлкай. Цяпер гора няма, і жыццё стала весялей, радасней, заможнае жыццё стала фактам, і спажыванне гарэлкі ў нашай краіне падае з года ў год. Усё большая колькасць спірту цяпер ідзе на рознага роду тэхнічныя патрэбы.

Перад комсамолам стаіць задача комуністычнага выхавання велізарных мас калгаснай моладзі, якая складае ва ўзросце ад 15 да 26 год не больш, не менш, як 28 мільёнаў чалавек. Яе трэба перавыхаваць.

Дык вось, таварышы, вазьміцеся моцна за гэты адстаючы ўчастак комсамольскай работы і сур'ёзна яго выпраўце.

Наступным слабым звяном комсамольскай работы з'яўляецца работа комсамола сярод моладзі, якая яшчэ не ўвайшла ў комсамол, а яна складае велізарную большасць. Калі комсамол налічваў у сваіх радах на 1 студзеня 1936 года 3.623 тыс. чалавек, то ўсёй моладзі ў горадзе і ў вёсцы комсамольскага ўзросту ёсць 37.500 тыс. чалавек, а тым часам у значнай частцы комсамольскіх арганізацый існуе вядомая замкнутасць і імкненне адгарадзіцца ад усёй астатняй масы так званай неарганізаванай моладзі.

Гэта няправільна, таварышы. Не трэба дапускаць таго, каб сціралася ўсякая грань паміж комсамольцамі і астатняй моладдзю, не трэба траціць твар авангарда моладзі, але ў той-жа час і не трэба замыкацца і адрывацца ад астатняй масы. У гэтым сэнсе і павінна быць перабудавана арганізацыйная работа комсамола і асабліва яго пярвічных арганізацый. Для гэтага павінны быць скарыстаны разнастайныя формы сувязі і ўцягнення моладзі ў комсамольскую работу.

Работа з моладдзю, якая не знаходзіцца ў комсамоле, не можа зводзіцца толькі да прыцягнення яе на пасяджэнні і сходы, у гурткі, да работы на вытворчасці, на калгасных палях, у брыгадах і т. д. Але комсамол разам з тым павінен шырока разгарнуць работу па арганізацыі вясёлага жыцця нашай совецкай моладзі. У гэтай галіне дзейнасць комсамола яшчэ недастаткова.

Таварыш Сталін словамі аб тым, што жыць стала весялей, даскранала адлюстраваў настрой народу нашай вялікай совецкай краіны. Трэба ўсімі мерамі дапамагчы ўсёй моладзі жыць культурным і вясёлым жыццём, паказаць ёй дарогу ў гэтых адносінах.

Што гэта значыць? Гэта значыць, што яшчэ мацней і шырэй трэба разгарнуць фізкультурную работу, асабліва ў калгасах. Гэта значыць больш шырокае ўкаранене добрых танцаў, а не адных толькі факстротаў, якія, дарэчы сказаць, занесены да нас з чужога лагера; гэта значыць больш шырокае распаўсюджванне добрых песень. **(Апладысменты).**

Комсамол павінен моладзі дапамагчы скарыстаць лепшыя музычныя творы, выцясняючы ўсякую халтуру з гэтай галіны. **(Апладысменты).**

Вы павінны больш заняцца прасоўваннем да нашай совецкай моладзі, асабліва сельскай моладзі, усякага роду музычных інструментаў.

Праўда, іх яшчэ ў нас не хапае, і якасцю яны яшчэ няважныя, але, я думаю, што мы асядлаем разам з вамі галіны прамысловасці, якія вырабляюць музычныя інструменты, каб іх было больш і лепшай якасці.

Такім чынам, комсамольскія арганізацыі яшчэ цясней звяжуцца з усёй астатняй моладдзю. Трэба толькі мець адно на ўвазе: не заарганізоўвайце занадта гэту справу **(апладысменты)**, а то ў нас часам так заарганізуюць усякага роду забавы, што наша савецкая моладзь уцякае ад гэтага самага заарганізаванага вясёлага жыцця. **(Смех).** Уносьце ў гэту работу пабольш сапраўднай весялосці, пабольш ініцыятывы, разнастайнасці, паменш шаблону і трафарэту, тады поспех у вас будзе забяспечаны.

Бясспрэчна, слабым участкам комсамольскай работы па-ранейшаму застаецца ўцягненне ў комсамол жаночай моладзі. Аб гэтым гаварылася не раз. Але аднак аб гэтым прыходзіцца яшчэ раз напомніць на X з'ездзе комсамола, бо работа ў гэтай галіне, не глядзячы на некаторае палепшанне, усё-ж з'яўляецца недастатковай.

Хіба можна прызнаць здавальняючым становішча, калі жаночая моладзь у комсамоле складае менш ⅓, калі ўдзел жаночай моладзі ў паасобных нацыянальных абласцях і рэспубліках зніжаецца да 10—15 проц. агульнага ліку комсамольскай моладзі, калі ў калгасах толькі 3 дзяўчыны са 100 прымаюць удзел у комсамоле, а 97 дзяўчат застаюцца па-за радамі комсамола?

Нельга таксама лічыць здавальняючай і работу па прыцягненню комсамолак да кіруючай работы ў комсамольскіх арганізацыях.

Трэба шырэй уцягваць жаночую моладзь у комсамол, смялей уцягваць комсамолак у комсамольскі актыў і прыцягваць іх да кіраўніцтва, тады комсамол будзе яшчэ мацнейшым, яшчэ больш уплывовым. Гэта асабліва мае дачыненне да такіх нацыянальных арганізацый, як Узбекістан, Таджыкістан, Туркменістан і інш., дзе па ініцыятыве ЦК комсамола былі добра праведзены канферэнцыі жаночай моладзі. Але гэтым абмежавацца нельга. Там ёсць шмат перажыткаў мінулага, старых і прыгонніцкіх адносін да жанчыны. Яны праяўляюцца нават і сярод некаторай часткі актыўных комсамольцаў. З гэтымі перажыткамі трэба сістэматычна змагацца, каб яшчэ больш уцягнуць жаночую моладзь ва ўсю нашу грамадскую работу.

І, нарэшце, апошняе пытанне—аб дзецях. Гэты ўчастак яшчэ прадаўжае заставацца таксама слабым месцам комсамольскай работы. Арганізацыя дзяцей школьнага ўзросту—справа вельмі важная, асабліва таму, што яна звязана непасрэдна з школьнай вучобай. У значнай меры арганізацыя дзяцей даручана комсамолу. Ці ўсё тут абстаіць добра? Не. Вы самі ведаеце аб цэлым радзе скажэнняў у піонерскай рабоце. Часта дзяцей перагружаюць грамадскай работай, што адбіваецца на іх вучобе. Часам піонерскія зборы ператвараюцца ў сумныя заняткі, з прычыны чаго дзеці бягуць ад гэтых збораў і іх цураюцца. Зборы піонераў нярэдка праходзяць без дастатковага кіраўніцтва комсамола, часам—па-за школамі. Часта злоўжываюць стамляючымі экскурсіямі, вылазкамі і т. п. І, нарэшце, няма яшчэ сур'ёзнай дзіцячай літаратуры. Для дзіцяці яшчэ не створана добрая кніга.

Як бачыце, недахопаў у гэтай галіне яшчэ вельмі многа. Адкуль бяруцца гэтыя недахопы? Яны выцякаюць з няўважлівага кіраўніцтва гэтай справай. Пацверджаннем з'ўляецца той факт, што вялікая колькасць піонерскіх атрадаў застаецца без важатых. Значная коль-

касць важатых у піонератрадах не адпавядае свайму прызначэнню. Вельмі часта бываюць выпадкі, калі комсамольскія арганізацыі піонерважатымі вылучаюць неаўтарытэтных людзей. Трэба сур'ёзна заняцца справай палепшання арганізацыі дзяцей.

Не думайце, што ўся справа зводзіцца толькі да стварэння палацаў піонераў. Гэта справа добрая. Палацы мы будзем ствараць і маем такую магчымасць, але, таварышы, справа не толькі ў гэтым заключаецца. Цяпер, калі комсамолу перадана дзіцячае выдавецтва, вы павінны стварыць пабольш добрых кніг. Справа заключаецца ў тым, каб вы ліквідавалі ўсе тыя недахопы і скажэнні, якія ёсць у практыцы піонерскай работы.

Трэба, каб, паміма ўважлівага адбору важатых, сакратары і члены комсамольскіх камітэтаў часцей самі бывалі-б у школах і на зборах, выпраўлялі-б на месцы недахопы і чэрпалі-б вопыт для далейшага палепшання работы сярод дзяцей. **(Апладысменты).**

Вось, таварышы, на якія бакі арганізацыйнай работы я хацеў-бы звярнуць увагу з'езда. Не забывайце, што арганізацыйная работа з'яўляецца ў той-жа час і выхаваўчай работай. Вось чаму не стаўце сябе пагардліва, таварышы, да арганізацыйнай работы. Вы ведаеце, як наша партыя і яе правадыры Ленін і Сталін заўсёды высока ставілі і ставяць арганізацыйныя пытанні, звяртаючы асаблівую ўвагу на выпрацоўку кадраў арганізатараў, падбор людзей, правільнае кіраўніцтва знізу да верху, на ўкараненне дакладнасці ў рабоце, пастаянную праверку выканання кожнага свайго рашэння і, нарэшце, на разгортванне самакрытыкі. На гэтым, таварышы, у нашай большэвіцкай партыі скла́ліся магутныя кадры арганізатараў, якія перамагаюць на кожным кроку.

Роля комсамола ў нашай краіне вялікая ва ўсіх галінах. Яна яшчэ больш павышаецца ў сувязі з велізарнымі задачамі ў галіне комуністычнага выхавання і вучобы моладзі. Наш комсамол з'яўляецца сапраўды ленінскім комсамолам і кіруецца нашай большэвіцкай партыяй. Ён яднае самую смелую і энергічную частку працоўных— моладзь, якая не звязана са старымі традыцыямі і дае комсамолу велізарную сілу.

Партыя дастаткова цэніць гэту ролю, сілу і поспехі нашага ленінскага комсамола, і няма сумнення, што, узняўшы арганізацыйную работу на ўзровень тых велізарных задач, якія перад комсамолам пастаўлены, комсамол стане яшчэ больш актыўнай сілай у будаўніцтве комунізма і пойдзе яшчэ хутчэй наперад да новых поспехаў, да новых перамог.

Няхай жыве ленінскі комсамол!

Няхай жыве правадыр і настаўнік усіх працоўных, лепшы друг савецкай моладзі таварыш Сталін!

**(З'езд наладжвае бурную авацыю таварышу Андрэеву. Раздаюцца прывітальныя воклічы: «Няхай жыве таварыш Сталін! Ура!» «Хай жыве вялікі Сталін, ура!» «Няхай жыве ЦК ВКП(б), ура!» «Няхай жыве ЦК і Сталін, ура!» Доўга не змаўкаюць крыкі «ура», і апладысменты раздаюцца ўсё з новай сілай).**

Д. Чэрненко

# Комсамол Беларусі ў барацьбе за рэалізацыю рашэнняў X з'езда ВЛКСМ

X з'езд ВЛКСМ намеціў практычныя шляхі вырашэння агромных задач, пастаўленых перад комсамолам партыяй і таварышом Сталіным у перыяд барацьбы за поўную перамогу соцыялізма ў нашай краіне і падрыхтоўкі пераходу да комунізма.

Сутнасць гэтых задач з асаблівай чоткасцю сфармулявана ў прынятай X з'ездам новай праграме ленінскага комсамола. Новая праграма ВЛКСМ, пабудаваная на аснове рашэнняў партыі і ўказанняў Леніна і Сталіна, з'яўляецца праграмай арганізацыі ўсебаковага комуністычнага выхавання моладзі.

У праграме сказана:

> «Усесаюзны ленінскі комуністычны саюз моладзі з'яўляецца масавай беспартыйнай арганізацыяй, якая прымыкае да ВКП(б), яднае ў сваіх радах шырокія слаі передавой, палітычна граматнай працоўнай моладзі горада і вёскі. ВЛКСМ мае сваёй задачай дапамогу комуністычнай партыі (большэвікоў) у справе выхавання моладзі і дзяцей у духу комунізма. Спачуваючы праграме ВКП(б), ВЛКСМ дапамагае партыі большэвікоў і совецкаму ўраду ў выкананні вялікай гістарычнай задачы—будаўніцтва комуністычнага грамадства.
>
> ВЛКСМ з'яўляецца памочнікам ВКП(б) і яе рэзервам».

Цэнтральнае месца ў новай праграме займаюць пытанні палітычнага і культурнага выхавання моладзі, падрыхтоўкі кадраў, узброеных асновамі марксісцка-ленінскай тэорыі, адданых совецкай уладзе, граматных і адукаваных спецыялістаў сваёй справы—поўнацэннага пакалення Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі.

Тав. Андрэеў у сваёй прамове на X з'ездзе ВЛКСМ адзначыў:

> «Што нам цяпер патрэбна? Нам патрэбны, таварышы, вучоба, веды, бо толькі веды будуць вырашаць справу ва ўсіх галінах... У нас у СССР прадукцыйныя сілы нічым не скованы. Усе аковы з вытворчасці зняты. Толькі недахоп ведаў, малаграматнасць і руціна могуць яшчэ тармазіць нашу справу. Ліквідацыя няграматнасці і малаграматнасці, лепшае абучэнне ў школах, павышэнне тэхнічнай асветы рабочых і калгаснікаў знімуць апошнія перашкоды к таму, каб зрабіць яшчэ больш гіганцкія поспехі ў справе пабудовы комуністычнага грамадства.

Вось, адкуль, таварышы, тая асаблівая ўвага, якую ўдзяляе пытанням асветы ЦК нашай большэвіцкай партыі і асабіста таварыш Сталін. Вось чаму цэнтральнай задачай ленінскага комсамола становіцца вучоба».

Комсамол адыгрывае вялікую ролю ў выхаванні працоўнай моладзі горада і вёскі. З'яўляючыся масавай беспартыйнай арганізацыяй перадавой совецкай моладзі, комсамол павінен уцягнуць у свае рады маладых рабочых, калгаснікаў, служачых і вучняў, актыўны ўдзел якіх у соцыялістычным будаўніцтве праверан на практыцы.

Поспех у гэтай справе, даручанай нам партыяй Леніна—Сталіна, будзе ў значнай меры залежаць ад таго, наколькі здолеюць комсамольскія арганізацыі перабудаваць работу ў адпаведнасці з задачамі кіраўніцтва на даным этапе.

У першую чаргу неабходна па ўсёй комсамольскай палітсетцы і сярод шырокіх мас несаюзнай моладзі разгарнуць глыбокую прапрацоўку рашэнняў X з'езда комсамола, памятаючы аб тым, што яны з'яўляюцца праграмай работы комсамола на доўгі перыяд. У зразумелай форме трэба растлумачыць змест новай праграмы і статута ВЛКСМ, асабліва такое цэнтральнае пытанне, як выхаванне моладзі і дзяцей. Неабходна падрабязна растлумачыць, якія карэнныя рашаючыя пытанні ўнёс таварыш Сталін у праграму і статут нашага саюза, якія ўказанні даў комсамолу ў арганізацыі работы.

Вывучэнне і практычнае выкананне рашэнняў X з'езда ВЛКСМ у комсамольскіх арганізацыях Беларусі пачалося яшчэ ў час работы з'езда. Даклад тав. Косарава і іншыя матар'ялы з'езда зачытваліся комсамольцам на сходах і абмяркоўваліся ў палітгуртках. Аднак у самым пачатку гэта работа праходзіла адарвана ад жыцця пярвічных арганізацый.

Пасля ўказання ЦК ВЛКСМ рашэнні з'езда сталі прапрацоўвацца ў першую чаргу сярод комсамольскага актыва—сакратароў, прапагандыстаў, важатых, каб падрыхтаваць з іх дакладчыкаў на саюзных днях і ў палітшколах. ЦК ЛКСМБ у дапамогу райкомам комсамола камандзіраваў членаў бюро і адказных работнікаў на 10 дзён.

Гарадскія і раённыя партыйныя камітэты таксама практычна дапамаглі комсамолу ў правядзенні гэтай работы. Даволі сказаць, што Віцебскі, Гомельскі, Добрушскі, Рэчыцкі і Тэрахоўскі раёны накіравалі дакладчыкамі ў пярвічныя арганізацыі комсамола 108 членаў і кандыдатаў партыі з актыва. Многія райкомы партыі вылучылі комуністаў для сталай прапагандыскай работы ў комсамольскай палітсетцы. У Менску, Віцебску, Гомелі, Магілеве і іншых раёнах праведзены сходы партактыва па пытанню партыйнага кіраўніцтва і практычнай дапамогі комсамолу. Аднак яшчэ не ўсе райкомы партыі ўдзяляюць комсамолу патрэбную ўвагу і кіраўніцтва. Сюды трэба аднесці Халопеніцкі, Дрыбінскі і іншыя раёны.

Актыўнасць комсамольцаў значна вырасла там, дзе раённае кіраўніцтва комсамола само добра ўсвядоміла свае задачы ў галіне работы з комсамолам.

Для прыкладу возьмем Магілеў. Тут комсамольцы не толькі выносяць прапановы на сходах, але і бяруць на сябе канкрэтныя абавязацельствы. Так, на першым саюзным дні 10 комсамольцаў аўтарамонтнага завода ўзялі на сябе абавязацельства арганізаваць заняткі

стралковага гуртка, абсталяваць стадыён, наладзіць фізкультурную работу і інш.

Сакратар камітэта комсамольскай арганізацыі старадарожскага РВК тав. Моўчык піша:

«Вывучаючы рашэнні X з'езда ВЛКСМ, наша арганізацыя значна палепшыла якасць палітычнай вучобы. Рэгулярна 5 раз у месяц адбываюцца заняткі ў палітшколе па вывучэнню гісторыі партыі. Наведванне і паспяховасць комсамольцаў добрыя. Абсталявалі фізкультурную пляцоўку. Працуе ваенны гурток. 7 комсамольцаў ужо здалі нормы на варашылаўскага стралка. Ставім задачу, каб у бліжэйшы час усе комсамольцы сталі варашылаўскімі стралкамі».

Цэлы рад лістоў з пярвічных арганізацый гаворыць аб вялікім росце актыўнасці комсамольцаў, аб ажыўленні работы комсамольскіх арганізацый у выніку рэалізацыі рашэнняў X з'езда, што характэрна для абсалютнай большасці раёнаў Беларусі.

Аднак у Чаўскім, Смілавіцкім, Горацкім і іншых раёнах арганізатарская работа райкомаў ЛКСМБ рэзка адстае ад патрабаванняў мас. Узрастаючую актыўнасць комсамольцаў яны не замацоўваюць, не дапамагаюць пярвічным арганізацыям, бо адарваліся ад іх жыцця, не разумеюць задач кіраўніцтва.

Сільна ўзрасла цяга несаюзнай моладзі ў комсамол. Развіццё стаханаўскага руху ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы выявіла агромныя слаі перадавой совецкай моладзі, наблізіла яе да комсамола. Адпалі рамкі штучнага затрымання росту за лік вучнёўскай і служачай моладзі. Не адзінічны выпадкі, калі пасля растлумачэння на сходзе несаюзнай моладзі рашэнняў X з'езда ВЛКСМ заявы аб прыёме ў комсамол прыносяць прама ў райком.

Цікавы даныя росту комсамола па некаторых раёнах за красавік і май месяцы ў параўнанні з 1 кварталам 1936 г. Уздзенскі раён даў рост з 7 чал. да 45, Ушачскі—з 45 чал. да 64, Рэчыцкі—з 53 чал. да 122, Полацкая акруга—з 228 чал. да 500.

Пры гэтым трэба ўлічыць, што з паступіўшых заяў райкомамі комсамола разгледжана і зацверджана менш паловы. З паступіўшых за пасляз'ездаўскі перыяд у Полацкай акрузе не разгледжана 379 заяў, у Віцебскім раёне—432 і т. д. Гэтыя даныя гавораць самі за сябе.

Разам з тым нельга не адзначыць далёка нездавальняючы рост комсамола за лік жаночай моладзі. Так, Дзержынскі райком за красавік і май прыняў усяго 6 дзяўчат, Дубровенскі—12, Рэчыцкі—30 з агульнага ліку прынятых 122 чал. Трэба прама сказаць, што сярод жаночай моладзі большасць раёнаў не вядзе штодзеннай выхаваўчай работы, не ўзялася за справу так, каб у бліжэйшы час выканаць указанні сакратара ЦК ВКП(б) тав. Андрэева, якія ён зрабіў на X з'ездзе ленінскага комсамола.

Усе комсамольскія арганізацыі і іх кіраўнікі абавязаны палепшыць работу сярод дзяўчат, дабіцца росту комсамола за лік жаночай моладзі.

Комсамольскія арганізацыі з усёй сур'ёзнасцю павінны падыйсці да справы выхавання новаўступаючай у комсамол моладзі, ахапіць яе палітвучобай з тым, каб новы прыліў не аслабіў боездольнасці комсамола, а наадварот—зрабіў яго яшчэ больш моцным і верным памочнікам партыі большэвікоў, авангардам усёй совецкай моладзі.



* * *

Тав. Косараў на X з'ездзе комсамола ўказаў:

«Мы павінны змяніць і зжыўшы сябе падыход да моладзі—выхадцаў з чуждых класаў... Комсамол, кіруючыся вучэннем Леніна і Сталіна, павінен дабівацца поўнага пераходу на бок комунізма маладых людзей—выхадцаў з чуждых класаў, праяўляючых гатоўнасць да ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве. Лепшых з іх, праверапых, адданых совецкай уладзе, у кожным паасобным выпадку належыць прымаць у комсамол».

Гэта чоткае вызначэнне адносін да выхадцаў з чуждых класаў некаторыя райкомы і пярвічныя комсамольскія арганізацыі зразумелі па-свойму: «раз падаюць заяву—трэба прымаць», гэтым самым адчыняючы дзверы ў комсамол каму папала. Рэчыцкі і Тураўскі райкомы комсамола прымаюць выхадцаў з чуждых класаў, хоць і не ўпэўнены ў іх адданасці совецкай уладзе, не праверылі іх на справе. Гэтыя факты гавораць аб тым, што паасобныя работнікі райкомаў комсамола не ўсвядомілі задач данага перыяда, не зразумелі таго, што ў комсамол можна прымаць выхадцаў з чуждых класаў толькі ў кожным паасобным выпадку—правераных на справе, адданых совецкай уладзе. Партыя вучыць нас павышаць сваю пільнасць, выкрываць малейшыя прошукі варожых элементаў.

Рост комсамола ў сучасны момант патрабуе ад нас вывучэння моладзі, дыферэнцыяванай работы з ёю. Тым часам становішча і якасць палітычнай асветы ў комсамоле, не гледзячы на агромную дапамогу партыйных арганізацый, усё яшчэ не могуць нас задаволіць. Не адзінічны факты, калі ў перыяд веснавой сяўбы школы спынялі заняткі (Старадарожскі, Прапойскі і іншыя раёны), прапагандысты да заняткаў не рыхтаваліся (Чэрвеньскі, Смалявіцкі раён і інш.). Райкомы комсамола нярэдка абыходзяць гэту шкодную з'яву, а часта і не ведаюць сапраўднага стану работы палітшкол. У Смілавіцкім раёне многія комсамольцы не вучацца, хоць райком добра аб гэтым ведае.

У летні час становішча можа пагоршыцца, бо ў большасці раёнаў прапагандыстамі працуюць настаўнікі, якія пойдуць у водпуск. Калі райкомы не падбяруць ім замену, то палітшколы застануцца без прапагандыстаў. Кожны райком павінен добра ўлічыць свае прапагандысцкія кадры і расставіць сілы такім чынам, каб не дапусціць ні малейшага перабою ў рабоце комсамольскай сеткі палітасветы. Неабходна арганізаваць вучобу ўсіх комсамольцаў, якія дагэтуль не вучацца, а таксама вучобу ўсіх прапагандыстаў, прыцягнуўшы да заняткаў з імі лепшыя выкладчыцкія сілы раёна. У гэтай рабоце комсамолу неабходна сур'ёзная дапамога і кіраўніцтва партыйных камітэтаў.

Неабходна таксама павысіць адказнасць загадчыкаў аддзеламі палітвучобы комсамола, якія вельмі часта займаюцца агульнымі пытаннямі райкома, а не сваёй непасрэднай справай (Смілавіцкі і Смалявіцкі раёны). ЦК ЛКСМБ у сваім рашэнні ад 1 VI. 36 г. забараніў райкомам комсамола скарыстоўваць заг. аддзеламі палітвучобы на пабочнай рабоце.

* * *

Выключна важны ўчастак дзейнасці комсамола—абаронная і фізкультурная работа.

«Увесь свой асабісты лёс наша моладзь цалкам звязвае з лёсамі вялікай пролетарскай справы. Мэтай усяго свайго жыцця мы ставім выкананне інтэрнацыянальнага доўгу, якому мы павінны, як вучыць нас таварыш Сталін, заставацца вернымі да апошняга намагання, да апошняга ўздоху, да апошняй каплі крыві.

У радах ленінскага комсамола мы павінны падрыхтоўваць смелых, адважных, самаадданых і вынослівых людзей, для якіх няма больш ганаровай задачы, як абарона соцыялістычнай радзімы на самых небяспечных і перадавых пазіцыях» (**Косараў**—даклад на X з'ездзе ВЛКСМ).

Гатоўнасць да абароны сваёй соцыялістычнай радзімы—інтэрнацыянальны доўг і абавязак кожнага комсамольца, кожнага маладога чалавека нашай краіны.

У абстаноўцы шалёнага ўзбраення імперыялістычных драпежнікаў, падрыхтоўкі і развязвання новых войн некаторымі фашысцкімі дзяржавамі, ва ўмовах падрыхтоўкі нападу на СССР, пытанні абароннай работы сярод моладзі набываюць выключнае значэнне і тым больш у нас, на Беларусі. Нам патрэбна выдатна ведаць ваенную тэхніку і ўдасканальвацца ў ёй.

Падрыхтоўка да здачы ваенна-тэхнічнага экзамена к X з'езду ВЛКСМ дала агромныя рэзультаты. У комсамоле выраслі аўладаўшыя ваеннай тэхнікай лётчыкі, планерысты, стралкі, парашуцісты і т. п. Нараўлянскі райком комсамола арганізаваў гурток планерыстаў, дзе навучаюцца 38 чал., у тым ліку ўсе работнікі райкома. Гэта—прыклад настойлівасці і ўпартасці ў дасягненні намечанай мэты.

Многія раёны арганізавалі для комсамольцаў і несаюзнай моладзі гурткі варашылаўскіх кавалерыстаў. У Асвейскім раёне працуюць 6 гурткоў ПВХО, якімі ахоплена 112 чал., у Дзержынскім—гурток па вывучэнню кулямёта і санітарны гурток, якім ахоплена 39 дзяўчат. Такіх прыкладаў многа.

Асабліва ажывілася ваенная работа пасля X з'езда ВЛКСМ. Задача кіраўніцтва—стварыць для гурткоў неабходныя матар'яльныя ўмовы і замацаваць актыўнасць моладзі ў аўладанні ваеннай справай. Трэба развіць вопыт пагранічных раёнаў у арганізацыі комсамольска-асоавіяхімаўскіх дружын, як вельмі цікавую форму абароннай работы комсамола.

Не можа нас задаволіць пастаноўка фізкультурнай работы як у горадзе, так і ў вёсцы. Мы яшчэ не скарысталі агромнейшыя магчымасці ўцягнення ў фізкультурны рух усёй моладзі. А ў гэтай справе комсамол павінен быць ініцыятарам і застрэльшчыкам.

Дзякуючы непасрэдным клопатам урада БССР, ЦК КП(б)Б і асабіста таварыша Гікало, у нас створаны багацейшыя ўмовы для развіцця масавай фізкультуры ўжо ў гэтым годзе. Даволі сказаць, што ўжо зараз на трохмесячных курсах падрыхтоўваецца звыш 400 інструктароў фізкультуры для калгасаў. Калі ўсе гарадскія і раённыя камітэты комсамола па-сапраўднаму возьмуцца за развіццё масавай фізічнай культуры сярод моладзі, за ўмацаванне нізавога фізкуль

турнага калектыва, мы безумоўна зможам заняць па фізкультуры адно з першых месц у Саюзе.

Неабходна ўсямерна скарыстаць ініцыятыву і лепшы вопыт перадавых комсамольскіх арганізацый у справе развіцця масавага фізкультурнага руху. Трэба ўлічыць вопыт комсамольцаў калгаса «Полымя», Заслаўскага раёна, якія абсталявалі ў сябе добры стадыён, комсамольцаў Пухавіцкага раёна, якія пабудавалі стадыён у раённым цэнтры. У Дубровенскім раёне будуецца стадыён. Ва Ушацкім працуе водная станцыя. У калгасах Дзержынскага, Асвейскага, Хойніцкага і іншых раёнаў абсталяваны фізкультурныя пляцоўкі. Усё гэта лішні раз пацвярджае агромную цягу моладзі да фізкультуры. Уся справа ў нашым уменні ўзняць арганізатарскую работу да ўзроўню задач развіцця масавай фізічнай культуры сярод працоўнай моладзі горада і вёскі.

* * *

Сур'ёзным недахопам з'яўляецца слабы ўдзел раённых арганізацый комсамола ў ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці, асабліва сярод падлеткаў і моладзі. Оршанскі, Дзержынскі, Журавіцкі райкомы не прыступалі нават да ўліку няграматных і малаграматных падлеткаў, не гледзячы на ўказанне ЦК ВЛКСМ аб агромнай палітычнай важнасці гэтай справы.

Бесклапотна адносяцца некаторыя райкомы і да арганізацыі палітычнай і агульна-адукацыйнай вучобы комсамольскага актыва. Сам кіруючы актыў раду райкомаў комсамола нярэдка адстае ад узроўню задач, пастаўленых X з'ездам ВЛКСМ.

З'езд даў нездавальняючую ацэнку работы комсамольскіх арганізацый у школе, кіраўніцтву піонерамі і школьнікамі. Кожны райком павінен своечасова паклапаціцца аб арганізацыі здаровага і вясёлага адпачынку для ўсіх піонераў і школьнікаў у час канікул, вылучыць для работы ў лагерах, фарпостах, пляцоўках і т. п. лепшыя сілы актыва. Канікулы трэба максімальна выкарыстаць для падбору і падрыхтоўкі неабходнай колькасці важатых для піонерскіх атрадаў з новага навучальнага года, дапамагчы маладым настаўнікам у павышэнні кваліфікацыі.

Тав. Андрэеў на X з'ездзе ВЛКСМ паставіў перад комсамолам выключнай важнасці задачы: барацьба за комуністычнае выхаванне савецкай моладзі і дзяцей, аўладанне вышынямі навукі і тэхнікі, уцягненне ў стаханаўскі рух усёй савецкай моладзі горада і вёскі. Абавязак усіх комсамольскіх арганізацый—па-большэвіцку змагацца за выкананне рашэнняў партыі і ўказанняў таварыша Сталіна.

Ленінскі комсамол ордэнаноснай Беларусі сваёй практычнай работай на ўсіх участках можа і павінен заняць адно з першых месц у радах ВЛКСМ.

**А. Варончанка**

Сакратар кагановічскага райкома КП(б)Б (Менск)

# Абмен партыйных дакументаў унёс ажыўленне ў партыйную работу

«Абмен партыйных білетаў і ўвядзенне новых улікОвых картак з'яўляецца сур'ёзнейшым партыйна-арганізацыйным мерапрыемствам, якое павінна замацаваць рэзультаты праверкі партыйных дакументаў і спрыяць далейшаму ўмацаванню радоў ВКП(б)».

Гэта дырэктыва снежаньскага пленума ЦК БКП(б), канкрэтныя ўказанні ЦК КП(б)Б і тав. **Гікало**, зробленыя пры падвядзенні вынікаў праверкі, былі пакладзены ў аснову ўсёй работы па падрыхтоўцы і правядзенню абмену партыйных дакументаў.

У парадку падрыхтоўкі да абмену была праведзена значная работа, выходзячы з асаблівасцей раёна.

У нашай партарганізацыі 2223 члены і 595 кандыдатаў партыі. Склад арганізацыі адметны вялікай стракатасцю. У раёне, побач з прадпрыемствамі, якія маюць вялікія партыйныя калектывы, многа дробных, з малалікімі партыйнымі групамі і комуністамі-адзіночкамі. У партарганізацыю ўваходзяць цэнтральныя совецкія ўстановы БССР, пераважная большасць ВНУ і рад розных навукова-даследчых устаноў. Гэта акалічнасць патрабавала дыферэнцыяваць работу па падрыхтоўцы і правядзенню абмену партдакументаў.

Побач з падрыхтоўчай работай у нізавых партарганізацыях ішла ўзмоцненая падрыхтоўка ў самім райкоме. Выключная ўвага ўдзелена падрыхтоўцы памяшкання і падбору людзей для работы па абмену. Спецыяльна абсталяваны 7 пакояў: для гутарак, для рэгістратараў, для выпіскі партдакументаў і т. д.

Для работы па абмену мы падабралі добрых членаў партыі, таварышоў з вялікім вопытам партыйнай і адказнай кіруючай работы.

З асаблівай увагай падышлі мы да растлумачэння ўсім членам партыі значэння, задач і тэхнікі абмену, а таксама распрацоўкі мерапрыемстваў для замацавання вынікаў праверкі, далейшага ўздыму партыйна-масавай работы, разгортвання партыйнай прапаганды, палітычнай агітацыі, укаранення стаханаўскіх метадаў і далейшага пашырэння стаханаўскага руху.

З самага пачатку абмену быў дан рашучы адпор існаваўшым у паасобных партарганізацыях настроям, што, моў, абмен партдакумен-

таў—тэхнічная справа, бо пасля праверкі ў партыі засталіся толькі правераныя людзі.

З вялікай актыўнасцю прашоў сход раённага партактыва, прысвечаны вынікам праверкі і задачам абмену партдакументаў. Сход працягваўся 2 дні. Потым была склікана нарада сакратароў парткомаў і парторгаў для абмеркавання вынікаў праверкі ва ўсіх пярвічных партарганізацыях і падрыхтоўкі да абмену партдакументаў. На нарадзе з усёй сур'ёзнасцю было пастаўлена пытанне аб неабходнасці ліквідаваць усе недахопы ўнутрыпартыйнай і масавай работы, выяўленыя ў працэсе праверкі.

Аб правядзенні абмену партдакументаў кожны член партыі быў загадзя папярэджан, каб ён мог прадумаць усе пытанні і правільна запоўніць копіі рэгістрацыйных бланкаў.

Абмен пачаўся 19 сакавіка і ў першыя дні праходзіў слабымі тэмпамі. На працягу 11 дзён партдакументы атрымлівала па 16 чал. у дзень, потым з кожным днём тэмпы павялічваліся. У трэцюю дэкаду мы выдавалі ўжо 27 партдакументаў у дзень, у чацвертую 40, а ў апошні час выдана па 50 партдакументаў у дзень. У гэтай справе адыграла вялікую ролю прыцягненне значнай колькасці работнікаў з партактыва і самога апарата райкома. Добры падбор рэгістратараў, правільная арганізацыя работы звялі да мінімума папсаванне партыйных дакументаў. За ўвесь перыяд абмену папсавана толькі 8 партыйных білетаў і 3 кандыдацкія карткі, прычым здарылася гэта пераважна ў пачатку работы.

* * *

Падрыхтоўчая работа да абмену партдакументаў, што разгарнулася ў пярвічных партарганізацыях, садзейнічала значнаму ўзмацненню пільнасці і выкрыццю класавых ворагаў, якія ўкрыліся пры праверцы партдакументаў.

Ставячы перад сабою задачу вызваліцца ад пасіўных людзей, якія не апраўдваюць высокага звання члена партыі, абмен адначасова ў значнай меры давяршаў работу па ачыстцы партыі ад варожых і чуждых элементаў.

Акрамя прамых ворагаў партыі і совецкай улады выкрыты выхадцы з класава-чуждага асяроддзя, людзі, якія разлажыліся і сваімі паводзінамі ганьбавалі партыю, або скарыстоўвалі прабыванне ў партыі і службовае становішча ў сваіх карыслівых мэтах.

Сярод выкрытых варта адзначыць Бадрэўскага, як тып чалавека, які канчаткова разлажыўся. Бадрэўскі—член партыі з 1929 г., студэнт 5 курса Мед'інстытута. Сваім заняткам ён абраў частую змену жонак. За кароткі час здолеў развесціся з жонкай і ашукаць двух студэнтак: жаніўся і развёўся з імі. Палавая распуста плюс сістэматычныя п'янка і поўны адрыў ад партыйнага жыцця—вось што характарызуе Бадрэўскага.

Побач з выкрыццём ворагаў партыі, якія ашуканчым шляхам пралезлі ў яе рады, у працэсе абмену выяўлен новы актыў, які вырас і праявіў сябе на практычнай рабоце.

Тав. **Галавач**—член партыі з 1929 г. рабочы фабрыкі «Окцябр» з вытворчым стажам у 12 год з'яўляецца стаханаўцам, агітатарам

цэха, многа працуе над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню. Галавач—адзін з удзельнікаў пераходу Менск—Масква, узнагароджаны ордэнам «Знак почета». Вылучан парторгам цагельнага завода.

Тав. **Галубіцкі**—член партыі з 1929 г. рабочы фабрыкі імя Кагановіча з 20-гадовым вытворчым стажам не толькі сам адным з першых уключыўся ў стаханаўскі рух, але і ўцягнуў у яго першымі на фабрыцы рабочых свайго цэха. Вылучан парторгам фабрыкі індывідуальных заказаў.

Можна ўказаць і рад іншых таварышоў, вылучэнне якіх на больш адказную работу адбылося ў рэзультаце гутарак з імі ў час абмену партдакументаў.

Больш блізкае азнаямленне з паасобнымі комуністамі дало магчымасць стварыць моцны касцяк прапагандыстаў-агітатараў.

За час абмену з кіруючых і навуковых работнікаў падабраны 32 кансультанты і кіраўнікі розных семінараў і гурткоў.

Пераважная маса членаў партыі рыхтуецца да абмену з пачуццём высокай адказнасці. Створаная абстаноўка, дакладнасць афармлення ўсіх партыйных дакументаў, таварыская гутарка ўзмацняе імкненне апраўдаць высокае званне члена партыі. Аб гэтым расказвалі самі комуністы на сходах партарганізацый фабрык імя Кагановіча, імя Куйбышэва, «Окцябр», шчотачнай, БДУ, Мед'інстытута і т. д.

Гутаркі з членамі партыі даюць багаты матар'ял. Комуністы расказваюць аб выкананні статута партыі, аб дасягненнях і недахопах, уносяць рад прапаноў для лепшага разгортвання стаханаўскага руху.

Значна палепшана расстаноўка сіл на прадпрыемствах, рашаючыя ўчасткі ўмацаваны комуністамі. Калі раней на фабрыцы імя Кагановіча сярод рабочых ад станка было толькі 25 комуністаў, а астатнія выконвалі галоўным чынам тэхнічную работу, то зараз за станком працуе 47 комуністаў, большасць якіх паказвае ўзоры стаханаўскай работы.

Паасобныя партарганізацыі недастаткова зразумелі, каго трэба лічыць пасіўным і баластам. Былі выпадкі, калі ў баласт залічвалі добрых работнікаў, адданых партыі людзей толькі за тое, што яны недастаткова граматны, або мала выступаюць на сходах, і наадварот—здаралася, што ў актыў траплялі балбатуны і бяздзельнікі.

Абмен партдакументаў не мала садзейнічаў таму, што раней адсталыя члены партыі сталі перадавымі на вытворчасці, актыўнымі ў грамадскай рабоце. Тав. **Персіц**—раней адсталая работніца фабрыкі імя Куйбышэва—пасля аказання ёй канкрэтнай дапамогі стала лепшым слухачом партшколы, рэгулярна чытае «Праўду», добра разбіраецца ў бягучых пытаннях. Зараз яна вылучана парторгам цэха і нядрэнна спраўляецца са сваёй работай. Перарадзіўся кандыдат партыі тав. **Будніцкі**, які раней не служыў прыкладам на вытворчасці, увесь час даваў брак. Дзякуючы праведзеным з ім гутаркам, настойлівай вучобе, уцягванню ў актыўную работу, Будніцкі стаў стаханаўцам, выконвае план на 250 проц., добра вучыцца ў кандыдацкай школе, сістэматычна чытае газеты, мастацкую літаратуру.

Абмен партыйных дакументаў дапамог далейшаму ажыўленню партыйнай работы ў пярвічных партарганізацыях, павышэнню і ўмацаванню дысцыпліны і авангарднай ролі комуністаў, палепшанню пастаноўкі ўсёй работы з беспартыйнымі масамі.

Індывідуальныя справаздачы комуністаў на парткомах і агульных партсходах увашлі ў сістэму работы амаль усіх партарганізацый і становяцца ўсё больш дзейсным сродкам выхавання комуністаў.

Дэталёвае вывучэнне людзей дало магчымасць раду перадавых арганізацый цвёрда стаць на шлях дыферэнцыяванага і канкрэтнага кіраўніцтва паасобнымі групамі комуністаў.

Партарганізацыя фабрыкі «Окцябр», падагуліўшы вынікі абмену партдакументаў, выявіла групу рабочых-комуністаў, якія з-за недастатковай кваліфікацыі пры высокіх колькасных паказчыках не даюць яшчэ ўзораў высокай якасці прадукцыі. Партарганізацыя дапамагла ім аўладаць працэсам, накіраваўшы на вучобу ў габінет тэхнікі.

Да комуністаў Табайнік, Баубель, Пруднікавай, Эрэнбург прымацаваны таварышы, якія дапамагаюць ім павысіць узровень ведаў і граматнасць. Комуністы Глезер, Гельман, Ламнёў накіраваны ў агульна-адукацыйныя школы. Да тав. Руслана, які не можа наведваць школу малаграматных, прымацован настаўнік на даму. Для комуністаў, якія раней вучыліся ў агульных гуртках і не аказалі поспехаў з-за слабога ведання расійскай і беларускай мовы, арганізован гурток на яўрэйскай мове.

Адным з паказчыкаў росту актыўнасці ўсёй раённай партарганізацыі з'яўляецца ўзросшы інтарэс да раённых сходаў партактыва. Даволі сказаць, што на сход партактыва, прысвечаны вынікам III пленума КПК пры ЦК ВКП(б), з'явілася 700 чал. Для ўдзелу ў спрэчках запісалася 55 чал. Самы характар выступленняў сведчыў аб безумоўным палітычным росце комуністаў.

На фабрыцы імя Кагановіча цэлы рад раней пасіўных таварышоў пачаў праяўляць уласную ініцыятыву на практычнай рабоце, добра выконвае партыйныя даручэнні. Тав. Бярэзін праявіў сябе настолькі добра, што партком палічыў магчымым і мэтазгодным вылучыць яго цэхавым агітатарам. Можна таксама ўказаць на тав. Шаховіча, як на аднаго з лепшых актывістаў партшколы.

Значна ўзнялася авангардная роля комуністаў на вытворчасці, у вучобе, іх арганізатарская роля ў беспартыйных масах.

На фабрыцы імя Куйбышэва ўсе комуністы, рабочыя ад станка, сталі стаханаўцамі. На фабрыцы «Окцябр» яшчэ не так даўно сярод комуністаў, рабочых ад станка, было толькі 40 проц. стаханаўцаў, а цяпер амаль усе яны стаханаўцы. Многія з іх раней працавалі на другарадных участках. Авангардная роля комуністаў узнялася і ў вышэйшых навучальных установах раёна, асабліва ў Мед'інстытуце.

Актыўнасць, партыйная дысцыпліна і авангардная роля ўзняліся таксама ў выніку таго, што ўвага ўсіх комуністаў была завострана на вывучэнні і засваенні статута і праграмы партыі. Амаль ва ўсіх партарганізацыях статут партыі прапрацоўваўся з вялікай увагай. Яму прысвечаны былі спецыяльныя заняткі. Да менш развітых комуністаў прымацоўваліся больш падрыхтаваныя. Адбыўся рад тэарэтычных канферэнцый.

Сур'ёзным якасным зрухам у рабоце нашай раённай партарганізацыі з'яўляецца тое, што яна абрасла актывам, вылучаным і падабраным у працэсе падрыхтоўкі і правядзення абмену партдакументаў. Гэты актыў—моцнае падспор'е ў нашай рабоце. Адначасова група пазаштатных работнікаў набывае вопыт партыйнай работы і ў будучым можа служыць крыніцай партыйных кадраў.

* * *

Значнае ажыўленне ў партыйных арганізацыях выклікаў апублікаваны ў газеце «Правда» артыкул «Грубае парушэнне ўнутрыпартыйнай дэмакратыі», які цалкам адлюстроўвае становішча ўнутрыпартыйнай дэмакратыі і ў радзе партыйных арганізацый нашага раёна. Хуткае і правільнае рэагаванне менскага гаркома КП(б)Б на артыкул «Праўды» дапамагло нам выявіць свае недахопы. Глыбей прыглядзеўшыся да сваіх партарганізацый, мы выявілі, што ў некаторых з іх сакратары парткомаў і парторгі мяняліся так часта, што цяжка было скласці пэўную думку аб рабоце гэтых таварышоў. На шчотачнай фабрыцы за 1934-35 гг. змянілася 5 сакратароў парткома: Бярбіцкі, Скаржыцкі, Гурвіч, Бруднер, Сіманоўскі. Партарганізацыя Белкаапсаюза за 1934 г. змяніла 3 сакратароў парткома: Іпатава, Офенгейма і Кагана. Зменены сакратары і парторгі часта не лічылі патрэбным нават адчытацца перад партарганізацыяй аб сваёй рабоце, чым парушаўся прынцып выбарнасці. У працэсе абмену выявіўся рад фактаў, калі шырокая справаздачнасць парткомаў перад партыйнымі арганізацыямі не ўвашла яшчэ ў сістэму работы.

Партыйныя сходы і нарады сакратароў парткомаў і парторгаў па абмеркаванню матар'ялаў «Праўды» і адпаведных рашэнняў гаркома і райкома партыі далі магчымасць правесці рад мерапрыемстваў для палепшання пастаноўкі ўнутрыпартыйнай работы.

Існаваўшая практыка выяўлення і стварэння рэзерва, асабліва работа з вылучанымі ў рэзерв, не забяспечвала паспяховага вырошчвання і вылучэння кадраў комуністаў, якія праявілі сябе на практычнай рабоце. Рэзерв у радзе выпадкаў ствараўся фармальна, без дыферэнцыяванага падыходу, умелага вырошчвання і падрыхтоўкі комуністаў на канкрэтнай рабоце.

Бюро райкома ўстанавіла зараз, як правіла, што ні адзін сакратар парткома, ні адзін парторг пярвічнай арганізацыі, а таксама цэхавыя парторгі буйных партарганізацый, не могуць быць зняты і вызвалены ад работы без рашэння партыйнага сходу і зацверджання райкома.

Райком звярнуў асаблівую ўвагу на падрыхтоўку і высокую якасць правядзення партыйных сходаў, паклаўшы ў аснову пытанні арганізацыйна-партыйнай і ідэйна-выхаваўчай работы. Трэба, сказаць, што партыйныя сходы па матар'ялах «Праўды» прашлі з вялікай актыўнасцю, пры шырока разгорнутай самакрытыцы.

Большасць партарганізацый (завод «Ударнік», фабрыка імя Куйбышэва і інш.) наладзілі сталую работу з актывам, праводзяць спецыяльныя гутаркі па бягучых пытаннях партыйнага будаўніцтва і абмену вопытам.

Райком устанавіў сталы кантроль за тым, як выконваюцца рашэнні ЦК КП(б)Б аб сістэматычнай справаздачнасці сакратароў парткомаў і цэхавых парторгаў на партыйных сходах. У залежнасці ад аб'ёму і асаблівасцей работы арганізаваны спецыяльныя семінары сакратароў парткомаў і парторгаў.

Райком распрацаваў канкрэтныя мерапрыемствы па арганізацыі дапамогі сакратарам парткомаў і парторгам у іх рабоце: нарады і гутаркі аб тым, як весці партыйную гаспадарку, як падрыхтаваць партыйны сход, скласці пратакол, план работы і т. п.

Вылучаны рэзерв зараз уважліва правяраецца з тым, каб можна было правільна вызначыць работу для кожнага з залічаных, на аснове яго індывідуальных асаблівасцей.

Асаблівая ўвага партарганізацый звернута на тое, каб рашэнні, якія выносяцца сходамі, не насілі агульнага расплыўчатага характару, каб кожны пратакол адлюстроўваў канкрэтныя прапановы з указаннем прозвішчаў і тэрміну выканання. На кожным чарговым сходзе ў абавязковым парадку правяраецца, як выкананы рашэнні папярэдняга сходу. Рад пратаколаў разбіраецца на нарадах сакратароў парткомаў, што дае магчымасць навучыць, як лепш афармляць партыйныя рашэнні.

* * *

Праверка існуючых кадраў прапагандыстаў і агітатараў, падбор на гэту справу новых, праверaных людзей, тэарэтычна моцна падкаваных, з багатым вопытам практычнай работы і арганізатарскімі здольнасцямі—такую задачу паставіў перад сабою райком.

Ва ўсёй раённай сетцы партыйнай асветы, у тым ліку ў гуртках па гісторыі партыі комсамольскай сеткі, налічваецца 224 прапагандысты. З іх скончылі комвуз і курсы марксізма-ленінізма 42 чал., соўпартшколы—18 чал., курсы прапагандыстаў—14 чал.

За апошні час звернута ўвага на палепшанне якаснага складу прапагандысцкіх кадраў. 10 прапагандыстаў працуюць зараз непасрэдна на вытворчасці. Падабрана група прапагандыстаў у 81 чал., з кіруючага цэнтральнага актыва і інжынерна-тэхнічнага персанала. Асаблівая ўвага звернута на тое, каб вызваліць вытворчыя арганізацыі ад прапагандыстаў-студэнтаў, якія, ідучы ў час канікул на вытворчую практыку, пакідаюць кіраўніцтва гурткамі, што няўхільна прыводзіць да сезоннасці ў партыйнай вучобе. Мы дабіліся зараз такой расстаноўкі сіл, што асноўная частка студэнтаў кіруе гурткамі ў навучальных установах. Аднак студэнтаў-прапагандыстаў у нас яшчэ вельмі многа—95 чалавек, што сведчыць аб недастатковай рабоце ў галіне вырошчвання прапагандысцкіх кадраў з пастаянных рабочых і служачых.

Пры праверцы прапагандыстаў выявілася, што вельмі многія з іх мелі нездавальняючую падрыхтоўку і недастатковы палітычны светапогляд, большасць адносілася фармальна да сваёй работы, не цікавілася жыццём прадпрыемства, не скарыстоўвала мясцовы матар'ял, часта не ведала сваіх слухачоў. Адказныя работнікі тт. Серба, Рагуновіч не маглі адказаць на элементарныя пытанні, звязаныя са статутам нашай партыі. Прышлося зняць з прапагандысцкай работы значную колькасць людзей і сур'ёзна заняцца падборам новых кадраў для кіраўніцтва гэтым адказнейшым участкам. За апошні час да справы партыйнай прапаганды прыцягнута новых 36 чал. пераважна з цэнтральнага актыва.

Праверка прапагандыстаў адыграла вялікую ролю ў павышэнні іх тэарэтычнага ўзроўню. Многія таварышы былі ўмоўна дапушчаны да прапагандысцкай работы, пакуль не пройдуць паўторнай праверкі.

Вынікі праверкі абмяркоўваліся на паседжаннях парткомаў, якія прымалі меры для рэалізацыі ўказанняў камісіі і пастаноў бюро райкома.

Тав. Каплана—дырэктара Навукова-даследчага інстытута пры Галоўдартрансе не дапусцілі да прапагандысцкай работы з-за палітычнай няграматнасці. Бюро райкома заслухала яго справаздачу аб рабоце над сабой і вынесла канкрэтнае рашэнне з указаннем, якія матар'ялы ён павінен прапрацаваць да паўторнай праверкі. Трэба

сказаць, што тав. Каплан улічыў урокі першай праверкі і значна падцягнуўся.

Праверка прапагандыстаў прымусіла райком перабудаваць усю работу па кіраўніцтву вучобай прапагандыстаў, сістэматычна праводзіць нарады, спецыяльныя даклады, лекцыі.

Для сталай работы з прапагандыстамі арганізаваны чатыры семінары па вывучэнню гісторыі партыі: для прапагандыстаў прадпрыемстваў; для прапагандыстаў навучальных устаноў; для прапагандыстаў савецкіх устаноў і для прапагандыстаў комсамольскай сеткі.

Для кіраўніцтва семінарамі і кансультацыямі падабрана група з 15 чал. кваліфікаваных кадраў. Акрамя таго, для прапагандыстаў і агітатараў кожны месяц чытаюць агляды важнейшых палітычных бягучых пытанняў кваліфікаваныя сілы. Рэгулярна вядуцца заняткі і па геаграфіі. Запрошан добры географ. На занятках прысутнічае 35—40 чал. Усё гэта значна ажывіла партыйную прапаганду.

Вельмі дапамагла нам у рабоце пастанова ЦК ВКП(б) «Аб стане заняткаў у гуртках па гісторыі партыі завода імя Петроўскага» (Днепрапятроўск).

Гэта пастанова, у поўнай меры адлюстроўваючы недахопы партыйнай прапаганды ў большасці гурткоў нашага раёна, дала нам ключ да перабудовы іх работы.

Мы выявілі рад такіх фактаў у партарганізацыях Наркаммясцпрома, Наркомаховы здароўя, Інстытута соўправа. Там былі ліквідаваны кандыдацкія гурткі, і ўсе члены партыі механічна залічаны ў адналькавага тыпу гурткі па гісторыі партыі. Многія гурткі не маюць канкрэтных праграм і навучальных планаў. Партарганізацыя Галоўдартранса дапусціла да кіраўніцтва гуртком гісторыі партыі без праверкі і зацверджання бюро т. Зюзіна, які на занятках па тэме «Партыя большэвікоў у рэволюцыі 1905-1907 гг.» зусім абышоў пытанне аб кіруючай і арганізуючай ролі партыі ва ўзброеным паўстанні. Не ўсе парткомы ставілі справаздачы прапагандыстаў і слухачоў аб ходзе заняткаў, слаба займаліся пытаннямі паспяховасці. Многія гурткі яшчэ і зараз дапускаюць схематызм пры вывучэнні пэўных этапаў барацьбы нашай партыі, не знаёмяць слухачоў з музеем рэволюцыі, не скарыстоўваюць мясцовы матар'ял, не ўвязваюць прапаганду з жыццём партыйных арганізацый.

Бюро райкома ў адпаведнасці з пастановай ЦК ВКП(б) арганізавала перагляд сеткі партыйных школ і гурткоў. Зараз падбіраецца група высокакваліфікаваных лектароў, якія па кожнаму раздзелу гісторыі партыі будуць чытаць слухачам заключныя лекцыі.

Разам з тым праверка і абмен партыйных дакументаў рашуча ўзнялі адказнасць комуністаў за павышэнне свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, прымусілі партарганізацыі сур'ёзна перагледзець усю сістэму партыйнай прапаганды і метады кіраўніцтва ёю.

У радзе партыйных арганізацый перш за ўсё неабходна было выправіць памылкі ў камплектаванні гурткоў. Члены парткома і цэхпарторгі, перш чым зацвердзіць склад таго ці іншага гуртка, дэталёва знаёміліся з узроўнем ведаў і ўмовамі работы кожнага слухача. Зацверджанне складу слухачоў адбывалася ў прысутнасці кіраўніка і старасты гуртка.

Зараз у большасці партарганізацый устаноўлены тэрміны праходжання праграмы. Амаль усе комуністы ахоплены партыйнай вучобай. Лепш сталі працаваць школы і гурткі партыйнай асветы.

У партарганізацыі Мед'інстытута значна палепшылася якасць кіраўніцтва вучобай. Вялікую дапамогу комуністам аказвае арганізаваны ў інстытуце партгабінет. Раней адстаўшыя навучыліся працаваць над заданым па тэме матар'ялам, карыстацца першакрыніцамі і мастацкай літаратурай.

Партарганізацыя фабрыкі «Окцябр» перабудавала сетку партвучобы прыстасоўна да ўзроўню ведаў слухачоў. Раней мала хто з комуністаў добра рыхтаваўся да заняткаў, складаў здавальняючыя канспекты, цяпер-жа ў вучобу ўцягнуліся адстаўшыя Меламед, Долінка, Айнбідэр, Сакаловіч і многія іншыя таварышы.

Змяніўся і сам характар заняткаў. Яны праходзяць больш ажыўлена, прапагандысты часцей скарыстоўваюць наглядныя дапаможнікі, урыўкі з мастацкай літаратуры і т. п.

Палепшылася партвучоба і на фабрыцы «Чырвоны хімік», на заводзе «Ударнік», у арцелі «Чырвоны друкар» і інш.

Аб росце палітычнай актыўнасці і ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў сведчыць праведзеная намі раённая тэарэтычная канферэнцыя. Не лішне будзе спыніцца на вопыце падрыхтоўкі да яе.

Ужо першыя дні абмену партыйных дакументаў паказалі, што многія члены партыі, у тым ліку і актыў, недастаткова глыбока засвоілі арганізацыйныя прынцыпы большэвізма, асабліваці нашай партыі. Бюро райкома вынесла 25 сакавіка рашэнне аб правядзенні раённай тэарэтычнай канферэнцыі на тэму: «Вучэнне Леніна—Сталіна аб партыі», паставіўшы перад удзельнікамі канферэнцыі задачу—прачытаць і глыбока прапрацаваць па тэме максімум літаратуры з першакрыніц Леніна—Сталіна. Да ўдзелу ў канферэнцыі было прыцягнута 10 гурткоў павышанага тыпу (ф-кі імя Кагановіча, імя Куйбышэва, шчотачная, хлебазавод, БПІ, БДУ, Мед'інстытут, Наркамзем, Наркамгас і Белкаапсаюз).

Культпрападдзел райкома склікаў спецыяльную нараду сакратароў парткомаў, прапагандыстаў і заг. партгабінетаў для інструктажу па падрыхтоўцы да канферэнцыі. Райком распрацаваў і размножыў календарны план падрыхтоўкі і правядзення канферэнцыі і разаслаў рэкамендацыйны спіс літаратуры.

Аб сур'ёзнасці падрыхтоўкі да канферэнцыі гаворыць спіс літаратуры, якую неабходна было асвоіць:

1. Статут партыі;
2. **Сталін**—Аб асновах ленінізма», гл. VIII. «Партыя»;
3. **Ленін**—«Што рабіць», гл. II «Стыхійнасць мас і свядомасць соц. дэм.»;
4. **Ленін**—Крок наперад, два назад», параграф 1 статута;
5. **Ленін**—«Дзіцячая хвароба левізны ў комунізме»;
   гл. II—«Адна з асноўных умоў поспеху большэвізма»,
   « III—«Галоўныя этапы ў гісторыі большэвізма»,
   « IV—«У барацьбе з якімі ворагамі ўнутры рабочага руху вырас, умацаваўся і загартаваўся большэвізм»;
6. **Сталін**—«К пытанням ленінізма», «Партыя і рабочы клас у сістэме дыктатуры пролетарыята»;
7. **Яраслаўскі**—«Чаго партыя патрабуе ад комуніста»;
   гл. VIII «Партыя ў барацьбе на два фронты супроць апартунізма»;
8. **Яраслаўскі**—«Аб двурушніцтве і аб барацьбе партыі з усімі яго праявамі». «Большэвік», 1935 г. № 5;

9. Даклады і рэзалюцыі пленума ЦК БКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб выніках праверкі партдакументаў.
10. Абмен партдакументаў. «Большевик», 1936 г. № 4;
11. **Гікало**—«Урокі праверкі ў беларускай партарганізацыі». «Партийное строительство», 1936 г. № 5.

Партгабінеты з першых-жа дзён заняліся падборам усёй гэтай літаратуры, каб палегчыць работу ўдзельнікаў канферэнцыі, наладзілі выстаўкі па тэме і правялі рад кансультацый.

Партарганізацыі фабрыкі імя Куйбышэва (сакратар т. Бруднер), Мед'інстытута (сакратар т. Бурштэйн) і ВПІ (сакратар т. Ладзято) **у поўным сваім складзе** ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы да канферэнцыі. **Аднак нельга** сказаць, што ўсе партарганізацыі аднолькава добра рыхтаваліся да яе.

Над асваеннем матар'ялаў да тэарэтычнай канферэнцыі працавала 200 членаў партыі. Культпроп райкома штодзенна даваў кансультацыі 12—15 чал. Пасля таго, як рэкамендаваны матар'ял слухачы гурткоў даволі глыбока прапрацавалі, райком размеркаваў падтэмы. Кожны член партыі рыхтаваўся к дакладу па адной з асаблівасцей нашай партыі і працаваў над складаннем падрабязнага канспекта. Партгабінет наладзіў разбор канспектаў, даваў указанні, як іх трэба выправіць, якую літаратуру для гэтага прачытаць. Праз кваліфікаваную кансультацыю прапушчана 115 канспектаў. Пасля гэтага партгабінет адабраў 16 лепшых таварышоў і пачаў рыхтаваць іх як асноўных дакладчыкаў. Канспекты гэтых таварышоў былі падвергнуты крытыцы на кансультацыі дакладчыкаў. Пасля патройнага выпраўлення і разгляду канспектаў на бюро райкома адны з вылучаных былі дапушчаны як дакладчыкі, а другія як судакладчыкі.

Падрыхтоўка да канферэнцыі вялася два месяцы. Канферэнцыя адбылася 28 і 29 мая. У яе рабоце прынялі ўдзел усе слухачы гурткоў па гісторыі партыі разам з прапагандыстамі. У першы дзень прысутнічала звыш 600 чал. і ў другі—звыш 400 чал.

Канферэнцыя прашла на высокім тэарэтычным узроўні пры вялікай актыўнасці яе ўдзельнікаў.

Дакладчыкі і судакладчыкі канферэнцыі накіроўваюцца зараз на прадпрыемствы, дзе яны будуць рабіць даклады аб шасці асаблівасцях нашай партыі.

Якія вынікі дала канферэнцыя?

Асноўны станоўчы яе вынік той, што ў глыбокай прапрацоўцы матар'ялаў па першакрыніцах вучэння Леніна—Сталіна аб партыі прыняла ўдзел больш 200 комуністаў, сярод якіх разгарнулася спаборніцтва на лепшае засваенне гэтай важнейшай тэмы.

Тэарэтычная канферэнцыя паказала, што выключных рэзультатаў можна дасягнуць толькі пры ўмове глыбокай штодзеннай работы з кожным слухачом, удумчывага падбору літаратуры, работы над першакрыніцамі.

Бюро райкома прапанавала ўсім парткомам і парторгам абгаварыць вынікі канферэнцыі і забяспечыць сістэматычны кантроль за работай гурткоў, ставячы для гэтага справаздачы на паседжаннях парткомаў і агульных сходах, паляпшаючы работу партгабінетаў.

Бюро райкома вынесла рашэнне пачаць у бліжэйшы час падрыхтоўку да другой тэарэтычнай канферэнцыі з ахопам усяго раённага партактыва. Культпроп зараз намячае тэму і распрацоўвае кален-

дарны план правядзення другой канферэнцыі, улічваючы недахопы першай.

* * *

Праверка і абмен партдакументаў моцна падштурхнулі ўперад справу палітычнай агітацыі.

Партком фабрыкі імя Тэльмана стварыў спецыяльны агіткалектыў з 8 лепшых комуністаў-стаханаўцаў, перадавікоў вытворчасці, якія выконваюць норму да 250 проц. Агітатар тав. Вялічка ахапіў стаханаўскімі метадамі работы ўсю сваю брыгаду. Умела ўвязвае ўвесь агітацыйны матар'ял і факты, публікуемыя ў друку, з задачамі сваёй брыгады, свайго цэха. Для агітатараў арганізавана сталая кансультацыя. Усё гэта павысіла зацікаўленасць рабочых пытаннямі бягучай палітыкі, жыццём партыі і краіны, што ў сваю чаргу садзейнічала росту радоў стаханаўцаў.

На фабрыцы імя Куйбышэва адбываюцца частыя нарады агітатараў, якія падагульняюць вопыт работы.

Вось што расказаў пра свой вопыт агітатар тав. Дзінерштэйн. У цэху працаваў раней комсамолец Старобін, які цяпер ахоўвае нашы далёкаўсходнія граніцы. І вось на гутарку аб 15-годдзі пагранаховы тав. Дзінерштэйн запрасіў бацьку Старобіна, які расказаў рабочым, як яго сын ахоўвае совецкія граніцы, як трэба выхоўваць сваіх дзяцей у духу найглыбейшай адданасці пролетарскай дзяржаве і заклікаў ўзмацніць ваенную работу. Пасля яго выступіў комсамолец Гразоўскі—прыяцель Старобіна. Ён зачытаў вытрымкі з лістоў свайго таварыша, з якім вядзе перапіску. У рэзультаце рабочыя сталі ўдзяляць больш увагі пытанням ваеннай абароны. 75 рабочых здалі ўжо норму на значок ПВХО, 150 падрыхтаваліся да здачы норм на значок ПВХО і варашылаўскага стралка, больш 300 чал. набылі процівагазы.

Агітатар тав. Чэрнін расказаў, як ён вывеў з прарыву брыгаду пярчатачнікаў, якая сістэматычна не выконвала план. Сабраўшы рабочых на кватэры ў стаханаўца Нейштата, ён прапрацаваў з імі гутарку тав. Молатава з французскім карэспандэнтам Шастэнэ, асабліва спыніўшыся на той частцы гутаркі, дзе тав. Молатаў гаворыць аб далейшым зніжэнні цэн і паспяховым выкананні 2-й пяцігодкі. Тав. Чэрнін расказаў рабочым аб значэнні стаханаўскага руху, прывёў канкрэтныя прыклады работы стаханаўцаў свайго цэха, растлумачыў, што дзякуючы стаханаўскаму руху мы выпускаем больш прадукцыі і лепшай якасці, маем вялікую эканомію, зніжэнне цэн і палепшанне добрабыту працоўных. Тут-жа і стаханаўцы падзяліліся вопытам сваёй работы. Гэта гутарка дала вялікі штуршок. Калі раней у брыгадзе было толькі 3 стаханаўцы, то цяпер ужо 12. Многія з іх выконваюць норму на 180—250 проц.

Добра вядуць агітработу Ліфшыц, Шырай і рад іншых таварышоў.

На фабрыцы «Окцябр» выявіўся ўжо рад актыўных агітатараў: Санковіч, Басіхес, Бурштэйн і інш. Па кожнай гутарцы яны праходзяць кансультацыю, складаюць план, карыстаюцца наглянымі дапаможнікамі, мастацкай літаратурай, збіраюць пытанні.

Партарганізацыя скарыстоўвае ўсякую магчымасць для разгортвання палітычнай агітацыі.

Звычайна рабочыя прыходзяць на сваю змену на поўгадзіну ці гадзіну раней і туляюцца без справы; час ідзе марудна. Зараз арга-

нізавана так званая «культурная чакальня», дзе выступаюць лепшыя агітатары, ставяцца сцэнкі з жыцця прадпрыемства і т. п.

Умацаванню і палепшанню партыйнай асветы і палітычнай агітацыі бясспрэчна садзейнічае нядаўна арганізаваны раённы партгабінет. Ужо за першы перыяд свайго існавання партгабінет здолеў правесці рад мерапрыемстваў. Для сакратароў парткомаў арганізаваў лекцыю акадэміка Шчэрбакова на тэму: «Гістарычны фронт і памылкі Пакроўскага», кансультацыю для агітатараў, чытчыкаў і бяседчыкаў па пытанню франка-савецкага дагавору аб узаемадапамозе і рэмілітарызацыі Рэйнскай зоны, правёў 11 групавых семінараў і кансультацый для сакратароў парткомаў і агітатараў комсамольскага актыва, не лічачы індывідуальных кансультацый для прапагандыстаў.

У партгабінеце акрамя таго праведзены лекцыі для гурткоў па гісторыі партыі аб складанні канспектаў (прынялі ўдзел гурткі Хлебазавода, фабрыкі імя Куйбышэва, імя Тэльмана), семінар для рэдактароў шматтыражак і насценгазет.

Значную работу правёў партгабінет для падрыхтоўкі раённай тэарэтычнай канферэнцыі на тэму «Вучэнне Леніна—Сталіна аб партыі».

Партгабінет арганізаваў абслугоўванне ранішніх змен, правёў кансультацыю агітатараў Дома ўрада на тэму: «Лакарнскі дагавор і германскі фашызм», кансультацыю прапагандыстаў комсамольскай сеткі па рашэнню X з'езда ВЛКСМ, сустрэчу старых большэвікоў са спачуваючымі фабрыкі «Окцябр» за чашкай чаю, семінар агітатараў навучальных устаноў на тэму: «Перамога народнага фронту ва Францыі».

Да практычнай работы ў партгабінеце прыцягваюцца кіруючыя работнікі і навуковыя сілы нашага раёна. Першыя дні работы партгабінета паказалі, што інтарэс і патрэба ў ім вельмі вялікі.

Агульны ўздым партыйна-масавай і агітацыйна-прапагандысцкай работы, узмацненне авангарднай ролі комуністаў забяспечылі колькасны рост стаханаўцаў і датэрміновае выкананне планаў па цэламу раду прадпрыемстваў.

Праводзячы абмен партыйных дакументаў, мы выходзілі з задач барацьбы з фармальна-бюракратычнымі метадамі работы, узмацнення аперацыйнасці і палепшання арганізацыйнага кіраўніцтва. У гутарках, звязаных з абменам, уважліва высвятлялі недахопы работы кожнага паасобнага комуніста і партарганізацыі ў цэлым, давалі рад канкрэтных указанняў, як наладзіць справу. У нашых рашэннях аб выніках абмену па асобных арганізацыях канкрэтна ўказана, хто і як будзе выпраўляць работу. Мы дабіваемся сапраўднага правядзення ў жыццё ўказання таварыша Сталіна аб неабходнасці падняць узровень нашай арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва.

Побач з гэтым райком партыі праводзіць рад канкрэтных мерапрыемстваў па палепшанню работы са спачуваючымі і ўцягненню ў групы спачуваючых лепшых стаханаўцаў і правераных на практычнай рабоце людзей. Таксама выключна сур'ёзная ўвага ўдзяляецца справе кіраўніцтва работай комсамольскіх арганізацый і палепшання палітычна-выхаваўчай работы сярод комсамола.

Усе мерапрыемствы райкома партыі па палепшанню ўнутрыпартыйнай работы шчыльна ўвязваюцца са справай падрыхтоўкі партарганізацыі да новага прыёму ў партыю.

---

**Т. Прасмыцкі**

**Сакратар рэчыцкага РК КП(б)Б**

# Вынікі абмену партдакументаў

Праверка партыйных дакументаў—гэта агромнай важнасці арганізацыйна-палітычнае мерапрыемства—яшчэ вышэй узняла боездольнасць і рэволюцыйную пільнасць кожнага комуніста, умацавала маналітнасць радоў нашай партыі і ўзброіла яе для далейшай барацьбы за новыя перамогі соцыялізма.

Абмен партыйных дакументаў замацаваў вынікі праверкі, навёў большэвіцкі парадак у партыйнай гаспадарцы, ажывіў усю партыйную работу.

Выходзячы з указанняў снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, раённы камітэт партыі правёў рад арганізацыйна-масавых мерапрыемстваў для мабілізацыі ўсёй партарганізацыі і кожнага комуніста паасобку на актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні абмену партыйных дакументаў.

11 лютага адбыўся агульна-гарадскі партыйны сход па пытанню аб падрыхтоўцы да абмену партыйных дакументаў, 15 лютага праведзены такія-ж куставыя сходы вясковых комуністаў, а 18 лютага адбыўся агульна-раённы сход партыйнай арганізацыі, які прашоў пад знакам вялікай актыўнасці і жорсткай крытыкі недахопаў унутрыпартыйнай работы арганізацыі.

Пасля агульнага раённага сходу інструктары райкома і райпартактыў выязджалі ў пярвічныя арганізацыі, каб не толькі праверыць, як выконваюцца рашэнні бюро райкома аб знішчэнні выяўленых у час праверкі партыйных дакументаў недахопаў, але і практычна дапамагчы партыйным арганізацыям правесці ў жыццё мерапрыемствы для карэннага палепшання ўсёй партыйнай работы.

24 і 26 сакавіка ва ўсіх гарадскіх і вясковых партарганізацыях праведзен адзіны партыйны дзень па пытанню аб стане партыйнай работы. У гэтым партдні прынялі ўдзел усе члены бюро, пленума райкома і райпартактыў. Двойчы адбыліся інструкцыйныя нарады сакратароў парткомаў і парторгаў.

Шырокае разгортванне партыйна-масавай работы дало магчымасць ускрыць рад недахопаў, памылак, фактаў яўнага скажэння указанняў партыі аб падрыхтоўцы да абмену. Партарганізацыі запалкавай фабрыкі «Х Окцябр», фанернага завода імя Галадзеда, цвіковага завода «Інтэрнацыянал» замест таго, каб узмацніць партыйна-выхаваўчую работу з комуністамі, заняліся складаннем спісаў пасіўных і чакалі пачатку абмену, лічачы сябе зусім падрыхтаванымі.

Райком на хаду выправіў гэту буйнейшую памылку, скарыстаўшы канкрэтны факт неразумення палітычнай важнасці задач абмену для таго, каб паказаць на ім, як не трэба рыхтавацца да абмену, які павінен забяспечыць карэннае палепшанне ўсёй партыйнай работы. Спецыяльна скліканая нарада сакратароў парткомаў і парторгаў намеціла практычныя мерапрыемствы для разгортвання сапраўды бальшэвіцкай падрыхтоўкі да абмену партыйных дакументаў.

Сакратар і інструктары райкома ўзялі пад свой асабісты нагляд комуністаў, якія лічыліся пасіўнымі. У выніку падрабязнага знаёмства з іх работай, жыццём і бытам мы выявілі, што пераважная большасць членаў і кандыдатаў партыі, залічаных у пасіўныя, прымалі раней актыўны ўдзел у грамадскім і партыйным жыцці і толькі па нашай віне, з-за нячулых, нетаварыскіх адносін і слабой работы з імі, трапілі ў гэты спіс.

Узяць, напрыклад, тав. **Шчогаля** з партарганізацыі фабрыкі «Х Окцябр». Працуючы змазчыкам 4 гады, ён упарта працаваў і над павышэннем сваёй кваліфікацыі. Нарэшце ён дабіўся таго, што здаў на выдатна дзяржтэхэкзамен, асвоіўшы паравую машыну. Шчогаль прасіў прызначыць яго памочнікам машыніста, бо да гэтай справы быў добра падрыхтаваны, але дырэкцыя фабрыкі прызначыла іншых, значна слабейшых у тэхніцы людзей. Шчогаль скардзіўся ў партком і фабком, але не атрымаў ад іх падтрымання. Захаваўшы ў сабе крыўду, ён замкнуўся, стаў радзей наведваць партыйныя сходы і трапіў у спіс пасіўных. Ніхто ў парткоме не зацікавіўся тым, чаму з комуністам, у мінулым даволі актыўным, адбылася такая перамена.

Партарганізацыя Горвальскага сельсовета лічыла пасіўнай былую батрачку, зараз калгасніцу—стаханаўку тав. Альхову, якая жыла ў напоўразбуранай хаце з павыбіванымі вокнамі. Альхова прасіла сельсовет і праўленне калгаса дапамагчы ёй адрамантаваць хату, але ніхто насустрач не пашоў. Як лепшую ўдарніцу калгаса, Альхову ўвесну накіравалі працаваць на ветпункт. Але надышла зіма, і Альхову звольнілі з работы, паслаўшы на яе месца аднаасобніцу. Гэта прывяло Альхову да цяжкага матар'яльнага становішча, аб чым яна гаварыла ў парткоме, у сельсовеце, у праўленні калгаса, але ніадкуль не мела дапамогі. І вышла так, што першая стаханаўка калгаса ў звязку з цяжкімі ўмовамі жыцця адарвалася ад актыўнай партыйнай і грамадскай работы і лічылася пасіўнай.

Калі-ж да тт. Альховай і Шчогаля падышлі чула, акружылі іх увагай, дапамаглі у рабоце, палепшылі бытавыя ўмовы, яны зноў сталі актывістамі.

У працэсе падрыхтоўкі і ў час абмену даволі шырока разгарнулася выкрываўчая работа. У райком паступіў кампраметуючы матар'ял на 43 чалавекі. Пры дэталёвай праверцы на месцы факты пацвердзіліся, і 16 чалавек не атрымала новых партбілетаў.

Выключную ўвагу райком удзяляў пытанням рашучага палепшання ўсёй партыйнай работы, неадкладнай ліквідацыі разрыву паміж вытворчай актыўнасцю працоўных і пастаноўкай арганізацыйнай і масавай палітвыхаваўчай работы з імі, на што моцна ўказаў ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні «Аб выніках праверкі партдакументаў па Рэчыцкай партарганізацыі».

Можна сказаць, што пералом у партмасавай рабоце, які намеціўся ў час праверкі партыйных дакументаў, замацован і пашыран. Партыйны сход-ва ўсіх арганізацыях заняў належнае месца. Сходы

падрыхтоўваюцца старанна, загадзя паведамляецца абвестка дня, у падрыхтоўцы прымаюць актыўны ўдзел амаль усе камуністы. Цэнтральнае месца ў абвестцы сходу занялі пытанні партыйнага жыцця, што ўзняло актыўнасць. На фабрыцы «Х Окцябр», на заводах імя Галадзеда і імя Томскага, у Заспенскім і іншых сельсоветах выступаюць на сходах 60—80 проц. удзельнікаў і ўносяць канкрэтныя прапановы па палепшанню партыйнай работы.

Вялікую ролю ў палепшанні масавай палітычна-выхаваўчай работы адыгрываюць палітагітатары, якіх у пярвічных партарганізацыях налічваецца 243 чал. На адной толькі фабрыцы «Х Окцябр» у цэхах, зменах і брыгадах працуюць 43 палітагітатары. За апошні час сакратары парткомаў і парторгі сістэматычна склікаюць палітагітатараў для інструктажу, абмену вопытам і перадачы лепшых узораў работы. Палітагітатары прапрацоўваюць з рабочымі і калгаснікамі важнейшыя рашэнні партыі і ўрада, чытаюць газеты, вядуць улік настрою, збіраюць прапановы аб палепшанні работы і т. п.

Адным з асноўных мерапрыемстваў па павышэнню актыўнасці, авангарднай ролі камуніста і яго адказнасці перад партыяй з'явіліся самасправаздачы камуністаў на сходах пярвічных партарганізацый і на бюро райкома. За апошнія 2—3 месяцы партарганізацыі ставяць самасправаздачы камуністаў на кожным сходзе. Бюро райкома заслухала звыш 10 самасправаздач.

Самасправаздачы сталі адной з асноўных форм калектыўнай праверкі работы і бальшэвіцкага выхавання камуністаў. Большасць партарганізацый грунтоўна рыхтуецца да заслухоўвання самасправаздач. Азнаямленне з работай, бытам і вучобай камуніста, які павінен зрабіць самасправаздачу, уцягвае яго ў практычную работу па падрыхтоўцы сходу і дае магчымасць дапамагчы яму зжыць недахопы, выправіць памылкі.

Самасправаздачы садзейнічаюць ідэйнаму росту камуніста, узнімаюць яго авангардную ролю і адказнасць за выкананне статута партыі.

Узяць, к прыкладу, члена партыі тав. Цодзікава. Працуючы загадчыкам канторы «Саюзшэрсць», з работай ён не спраўляўся, бо сістэматычна п'янстваваў. «Саюзшэрсць» паставіла пытанне аб тым, каб зняць Цодзікава з работы, ды і пярвічная партарганізацыя лічыла, што з яго нічога не будзе. Цодзікаву рашылі не выдаваць новага партбілета. Аднак райком партыі даручыў тав. Чэрткову праверыць работу Цодзікава ў «Саюзшэрсці», высніць, як ён жыве дома, што чытае, як вучыцца, чым цікавіцца і т. д. Урэшце бюро райкома заслухала самасправаздачу Цодзікава і паведамленне тав. Чэрткова. Свае ўражанні аб самасправаздачы на бюро Цодзікаў перадае так: «Колькі жыву на свеце і колькі часу знаходжуся ў партыі, гэта быў першы выпадак, калі мяне наскрозь прабралі і прымусілі многа перажыць». Да абмену партыйных дакументаў Цодзікаў зусім перамяніўся—стаў актыўным, дысцыплінаваным членам партыі. Зараз яго прызначылі дырэктарам крухмальнага завода. З новай работай ён спраўляецца ня дрэнна.

Можна прывесці яшчэ адзін прыклад. Партарганізацыя фабрыкі «Х Окцябр» лічыла члена партыі тав. Зубіка А. адным з недысцыплінаваных і пасіўных камуністаў, бо ён сістэматычна парушаў статут партыі, не выконваў партыйных даручэнняў, адмаўляўся наведваць партыйную школу, не чытаў газет, кідаў работу за 30—40 мі-

нут да гудка. Якія-ж прычыны прывялі Зубіка да такога становішча? Зубік лічыў, што засвоіць праграму партшколы яму не пад сілу, цяжка, а таму і прышоў да вываду, што няма сэнсу дарэмна траціць час на вучобу. Разам з гэтым ён бачыў, што на яго ўсёроўна не звяртаюць увагі, калі-б ён і зрабіў што добрае ці дрэннае, дык ён і на вытворчасці пачаў працаваць абыяк. У час самасправаздачы ўсё гэта было ўскрыта. Зубіку ўказалі на ўсе яго адмоўныя бакі і далі практычныя парады, як трэба выправіцца. Таварыская дапамога моцна ўздзейнічала на Зубіка, спаяла яго з партыйным калектывам, і да абмену ён прышоў дастойным звання члена партыі Леніна—Сталіна. Зубік цяпер—стаханавец. Ён дае 150—160 проц. нормы, рэгулярна наведвае школу, старанна рыхтуецца да заняткаў, чытае газеты і мастацкую літаратуру.

Правільнае, прадуманае правядзенне абмену, старанная арганізацыя прыёму комуністаў у райкоме, пачынаючы з зала для чакання, рэгістратараў і канчаючы гутаркай з сакратаром, таксама мае вялікае выхаваўчае значэнне.

Тав. Кавалеўскі—майстра стругальнага цэха запалкавай фабрыкі «Х Окцябр»—прышоў на абмен партыйных дакументаў з самымі дрэннымі паказчыкамі развіцця стаханаўскага руху на фабрыцы. Яго цэх быў самым адстаючым: з 32 рабочых стаханаўцамі былі толькі 12. У гутарцы з сакратаром райкома Кавалеўскі даў слова выправіць свае памылкі на працягу бліжэйшых дзён і паказаць сваю авангардную ролю ў развіцці стаханаўскага руху. Слова сваё ён стрымаў. На апошнім партыйным сходзе комуністы адзначылі, што Кавалеўскі сапраўды па-большэвіцку выконвае данае сакратару абяцанне. За адну дэкаду ў яго цэху стала 22 стаханаўцы.

Замацоўваючы вынікі абмену, многія партарганізацыі практычна дапамагалі комуністам выканаць указанні сакратара райкома.

Прывядзем некалькі характэрных прыкладаў. Комуністка Пілецкая пры абмене партыйных дакументаў расказала сакратару аб тым, чаму яна не стаханаўка. Яна не мела пэўнага станка і нормы выпрацоўкі. Яе часта перакідалі з адной работы на другую. На заўтра-ж партком дабіўся, каб да Пілецкай прымацавалі станок. Зараз яна выконвае норму на 125—130 проц.

Альбо яшчэ адзін прыклад. На фабрыцы «Х Окцябр» працуе комуністка тав. Барбоцька. Школу наведваць не можа, бо мае двaіх дзяцей. Сакратар райкома даў ёй заданне вучыцца дома, чытаць мастацкую літаратуру і газеты. У дапамогу партком прымацаваў да яе больш падрыхтаванага таварыша—Чухмана—і склаў рэкамендацыйны спіс мастацкай літаратуры.

Карэнным чынам палепшылася работа з рэзервам партыі—спачуваючымі. У парадку падрыхтоўкі да абмену партдакументаў і новага прыёму ў партыю райком склікаў гарадскі сход спачуваючых, на якім былі заслуханы даклады сакратароў парткомаў і разгорнута большэвіцкая крытыка недахопаў у рабоце партыйных арганізацый са спачуваючымі. За апошні час многія партарганізацыі сталі практыкаваць самасправаздачы спачуваючых на партыйных сходах аб выкананні даручэнняў парткома, выхоўваючы гэтым навыкі дысцыплінаванасці і арганізаванасці.

Усе спачуваючыя ахоплены партыйнай вучобай. За апошні перыяд на фабрыцы «Х Окцябр» у спачуваючыя прынята 12 лепшых ста-

ханаўцаў. Ордэнаносец нашага раёна тав. Зайцаў таксама прыняты ў рады спачуваючых.

Падрыхтоўка да абмену дала новы штуршок ўздыму арганізацыйнай, партмасавай работы, палепшанню дысцыпліны.

Замацоўваючы вынікі абмену партыйных дакументаў, большэвікі Рэчыцкага раёна пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з лепшым большэвіком Беларусі тав. Гікало даб'юцца карэннага палепшання ўсёй партыйнай работы і выведуць раён па ўсіх паказчыках у лік перадавых раёнаў ордэнаноснай рэспублікі.

**Е. Сосінаў**

**Сакратар бярэзінскага РК КП(б)Б**

# Вынікі абмену партдакументаў і падрыхтоўка да новага прыёму ў партыю

Бярэзінскі райком партыі ўсю падрыхтоўчую работу і абмен партдакументаў праводзіў у строгай адпаведнасці з дырэктывамі снежаньскага пленума ЦК ВКП(б).

Вялікую практычную дапамогу аказаў райкому аддзел кіруючых партыйных органаў ЦК КП(б)Б, асабліва ў хуткім і дакладным вырашэнні раду арганізацыйных пытанняў.

Праверку партыйных дакументаў прашлі 149 членаў і кандыдатаў партыі. У час абмену райком у другі раз дэталёва азнаёміўся з імі. Асабістыя гутаркі дапамаглі добра выявіць стан ўнутрыпартыйнай работы, выхаванне кадраў, рост людзей.

Прывядзем некаторыя прыклады:

Тав. **Ясько** (вінзавод)—член партыі з 1928 г., кваліфікаваны слесар быў чалавек пасіўны, не разбіраўся ў самых элементарных пытаннях жыцця партыі і краіны, не ведаў, хто такі тав. Дзімітраў. Працуючы прыёмшчыкам бульбы, ён не меў выхадных дзён, нічога не чытаў, нідзе не вучыўся. Калі-ж партарганізацыя занялася ім, перавяла па кваліфікацыі ў цэх, то ён палітычна вырас, стаў стаханаўцам.

Тав. **Капытко**—старшыня калгаса «Молат» быў адным з самых адсталых комуністаў-адзіночак, заняткі ў школе не наведваў, аб ім нават склалася думка як аб непапраўным члене партыі. Калі-ж райком падышоў да Капытко больш чутка, вывучыў прычыны адставання, то аказалася, што з вялікай сям'ёю ён жыве ў кепскіх умовах, калгас, куды яго накіравалі, быў вельмі адсталым, культмасавая работа не праводзілася. Тав. Капытко была аказана патрэбная дапамога, і за невялікі час ён дабіўся поспехаў у партшколе, з'яўляецца лепшым слухачом па паспяховасці, павысіў свой аўтарытэт сярод калгаснікаў, у пасеўную кампанію калгас заняў адно з першых месц у сельсовеце.

Тав. **Сарвіро**—загадчык зямельнага аддзела да праверкі не мог знайсці часу для работы над сабой, а зараз наведвае семінар partактыва, працуе над творамі Леніна—Сталіна, добра рыхтуецца да заняткаў, прачытаў творы Шолахава, Астроўскага, Коласа і скардзіцца, што ў партгабінеце мала мастацкай літаратуры.

Тав. **Карповіч**—рахункавод калгаса «Ленінскі шлях» да праверкі быў пасіўным, а цяпер з'яўляецца партарганізатарам, кіруе комса-

мольскай палітшколай, першым пачаў арганізоўваць стаханаўскі рух і выхаваў лепшых стаханаўцаў сельскай гаспадаркі ў раёне.

У рабоце па выхаванню членаў і кандыдатаў партыі райком сустрэўся з фактамі адміністравання і нячулых адносін.

За 1934 і пачатак 1935 года сур'ёзныя партыйныя спагнанні атрымалі 69 членаў і кандыдатаў партыі—амаль 40 проц. усёй партарганізацыі раёна. Характэрна, што сярод іх толькі двое панеслі спагнанне за парушэнне партдысцыпліны, астатнія—за дрэннае правядзенне сельскагаспадарчых кампаній. Райком перагледзеў амаль усе накладзеныя партспагнанні і з многіх таварышоў зняў іх па хадайніцтву пярвічных партарганізацый.

Асабістыя гутаркі з членамі і кандыдатамі партыі многа дапамаглі райкому ў выяўленні нячулых адносін да чалавека.

Тав. **Шалай**—радавая калгасніца Капланецкай партарганізацыі была залічана ў пасіўныя парторгам Кішкарам, які не дагледзеў таго, што яна больш месяца хварэе і знаходзіцца ў вельмі цяжкіх умовах.

Тав. **Несцяровіч**—у мінулым вельмі заслужаны член партыі з 1919 г., працуючы культнаглядчыкам лесу і маючы вялікую сям'ю, выкарчаваў маленькі ўчастак, на якім пасеяў для сябе жыта. Пярвічная партарганізацыя ўбачыла ў гэтым злачынства і вынесла яму вымову. Тав. Несцяровіч вельмі любіць чытаць, вядзе палітгутаркі з калгаснікамі, часта піша ў райком аб заўважаных недахопах. Райком адмяніў вымову, а партарганізацыя дапамагла Несцяровічу набыць бібліятэчку.

У дэпо лесамеханізаванага пункта працуюць кваліфікаваныя механікі тт. Ганчарка і Марцінаніс. Не раз яны прасілі адміністрацыю ўвесці здзельшчыну і ўстанавіць нормы, каб паказаць стаханаўскія прыклады работы, але ні аддзел механізацыі Лесбела, ні работнікі Леспрамгаса, ні парторг не ўзяліся вырашыць справу, і толькі пасля гутаркі ў райкоме нормы ўведзены.

* * *

У нашай партарганізацыі была вялікая колькасць комуністаў-адзіночак. На 9 пярвічных партарганізацый, 6 кандыдацкіх і 4 парткомсамольскія групы прыпадала 62 комуністы-адзіночкі.

У ходзе падрыхтоўкі да абмену мы перабудавалі сетку і аб'ядналі адзіночак. Цяпер на 14 пярвічных партарганізацый, 8 кандыдацкіх і 5 парткомсамольскіх груп прыпадае толькі 6 комуністаў-адзіночак.

Аб'яднанне членаў і кандыдатаў партыі ў пярвічных арганізацыях узняло актыўнасць, дысцыпліну, мацней звязала іх з беспартыйнымі масамі.

Працэс падрыхтоўкі і абмену партыйных дакументаў выклікалі далейшы ўздым усёй унутрыпартыйнай, масавай і выхаваўчай работы. Выключную ўвагу райком звярнуў на партыйныя дні, якія праводзіліся ў раёне па зацверджанаму плану 10 і 20 кожнага месяца. Кожны факт зрыву партыйнага сходу разглядаўся, як парушэнне партыйнай дысцыпліны. Перанясенне сходаў дапускалася толькі па ўзгадненню з райкомам. Гэтым канчаткова ліквідаваўся разнабой у правядзенні партыйных дзён, які наглядаўся ў час падрыхтоўкі і праверкі партдакументаў у партарганізацыях Ягодскага лесакамбіната, РВК, рэдакцыі і іншых.

На кожным сходзе парторг дакладвае аб часе і змесце чарговага сходу і за дэкаду да яго яшчэ раз напамінае аб гэтым кожнаму комуністу. Такі метад забяспечвае акуратную і своечасовую яўку ўсіх комуністаў, выхоўвае ў іх дух партыйнай дысцыпліны.

Карэнным чынам змяніўся характар абвесткі дня. У аснову кладуцца пытанні пераважна ўнутрыпартыйнага жыцця замест гаспадарчых, як гэта было раней у партарганізацыях Леспрамгаса, Спіртазавода, Белічанскага сельсовета і іншых. У бягучым годзе на сходах гэтых партарганізацый прапрацаваны статут і праграма партыі, рашэнні снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, III пленума КПК, аб абмене партыйных дакументаў, аб фактах парушэння партыйнай дэмакратыі ў менскай гарадской партарганізацыі, аб выніках абмену партдакументаў і інш.

Таксама часта ставяцца самасправаздачы комуністаў аб авангарднай ролі на вытворчасці, аб выкананні партыйных нагрузак, аб рабоце над павышэннем палітычнага і культурнага ўзроўню, аб рабоце партыйных школ.

У апошні час партарганізацыі Ягодскага камбіната, рэдакцыі, НКВД, РВК сталі практыкаваць паліт'інфармацыі (аб міжнародным становішчы, аб італа-абісінскай вайне, аб гутарцы таварыша Сталіна з амерыканскім журналістам Рой-Говардам і т. д.). Да інфармацыйных дакладаў прыцягваюцца ўсе комуністы па чарзе.

Партыйныя сходы выносяць цяпер больш канкрэтныя і дзейсныя рашэнні, аб выкананні якіх парторг дакладвае на кожным чарговым сходзе.

Для большага ажыўлення раённых партыйных сходаў праводзіцца папярэдняя нарада парторгаў. Адначасова ў пярвічныя партарганізацыі накіроўваецца работнік райкома для падрыхтоўкі іх да раённага сходу і падбору канкрэтных матар'ялаў аб адмоўных і станоўчых выніках работы.

За апошнія 6 месяцаў праведзены 4 раённыя партыйныя сходы па пытаннях: аб рэволюцыі 1905 г., пастанова ВКП(б) і СНК СССР аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў і павышэнні ўраджайнасці ў нечорназемнай паласе, аб падрыхтоўцы да абмену партыйных дакументаў і задачах партыйнай арганізацыі, аб становішчы асоавіяхімаўскай арганізацыі і абароннай работы ў раёне. У спрэчках выказаліся 49 чалавек. Яны выступілі з разгорнутай крытыкай недахопаў у рабоце па павышэнню палітычнага і культурнага ўзроўню комуністаў, у выкананні партыйных нагрузак, у становішчы партыйнай гаспадаркі, абмене вопытам работы, прыводзілі факты парушэння партыйнай дысцыпліны.

Комуністы самі выносілі пажаданне, каб як найчасцей склікаць раённыя партыйныя сходы.

Акуратна праводзім сходы партыйнага актыва, на якіх распрацоўваем важнейшыя пастановы партыі.

На пленуме райкома па дакладу аб выніках абмену партдакументаў разгарнулася крытыка недахопаў у правядзенні партыйных сходаў. Выявілася, што некаторыя парторгі і кіраўнікі партыйных школ не дапамагаюць членам і кандыдатам партыі добра рыхтавацца да партсходаў, каб самім рабіць даклады асабліва па агульна-палітычных пытаннях. Вельмі сур'ёзна крытыкавалі райком за тое, што бюро і інструктары не дабіліся яшчэ ад парторгаў сістэматычнай інфарма-

цыі аб тым, як выконваюцца прынятыя папярэднім партсходам рашэнні.

Самаправаздачы комуністаў уведзены ў план работы пярвічных партарганізацый. Да заслухання самаправаздачы, комуніста наведваюць на даму спецыяльна вылучаныя для гэтага таварышы і правяраюць, у якіх умовах ён жыве, што чытае з перыядычнай і мастацкай літаратуры і інш. Аб выніках праверкі дакладваюць на агульным партсходзе. Так, напрыклад, перад пастаноўкаю самаправаздачы комуністак Ваверняк і Свержынскай партарганізацыя РВК вылучыла тт. Навасёлава і Дзятко, якія падрабязна азнаёміліся з іх практычнай работай, вучобай і т. д. Партарганізацыя Камітэта загатовак вылучыла тав. Мая для праверкі комуніста Лашкевіча перад яго самаправаздачай.

Пры такім падыходзе да справы самаправаздачы становяцца больш жывымі і глыбокімі, бо арганізацыя ведае прычыны адмоўных ці станоўчых бакоў работы комуніста, і сход можа прыняць больш канкрэтнае рашэнне. Нажаль, самаправаздачы комуністаў на агульных сходах практыкуюцца не ўсімі яшчэ партарганізацыямі.

* * *

Пры праверцы партдакументаў былі выяўлены факты фармальнага падыходу да размеркавання партнагрузак паміж членамі і кандыдатамі партыі. Партарганізацыя Камітэта загатовак даручыла члену партыі тав. Маю адказнасць за работу насценгазет ва ўсёй загатоўчай сістэме, кандыдацкая група соўгаса «Бярэзіна» даручыла дырэктару соўгаса тав. Вільчынскаму рэагаваць на змешчаныя ў насценгазеце заметкі, а ў партарганізацыях МТС і ЛПГ комуністы Жукаў, Колесень, Салавейчык, Бачароў зусім не мелі партнагрузак.

Цяпер партнагрузкі перагледжаны ва ўсіх партарганізацыях з улікам здольнасці і падрыхтаванасці кожнага комуніста. Тт. Колесень і Жукаў атрымалі нагрузку нізавых агітатараў і чытчыкаў у трактарных брыгадах. Тав. Леўшынскаму (Камітэт загатовак) дана нагрузка кіраўніка гуртка стаханаўцаў па вывучэнню бягучай палітыкі, тав. Гурэвічу (Капланецкі сельсовет) дана нагрузка прапагандыста палітшколы калгаснага актыва. Тав. Ясько (вінзавод) мае нагрузку старшыні ячэйкі АСО. Акрамя сталых партнагрузак, комуністам даюцца перыядычныя даручэнні: правесці палітдзень у калгасе, нараду калгаснага актыва і т. п.

У выніку ўмацавання сувязі і палепшання партыйна-масавай работы з шырокім беспартыйным актывам, соцыялістычным спаборніцтвам ахоплены ўсе сельсоветы, калгасы, брыгады і звенні. Пры Капланецкім, Белічанскім, Машчаніцкім і Сялібскім сельсоветах арганізаваны калгасныя палітшколы, у якія ўцягнуты перадавікі ураджайнасці і жывёлагадоўлі. Палепшылася работа вячэрніх школ стаханаўцаў.

На кіруючую партыйную і савецкую работу вылучана 14 членаў і кандыдатаў партыі з рэзерва, выяўленага ў час праверкі партдакументаў. Усе вылучаныя таварышы паказалі сябе здольнымі на рабоце, палітычна выраслі.

З новага рэзерва мяркуецца вылучыць: тт. Фінтушала—старшыню сельсовета на адказную раённую работу ў якасці намесніка старшыні РВК, Карповіча—рахункавода калгаса на партработу, Лапцёнка—качагара вінзавода страшынёю сельсовета, Старобінца—рабочага друкарні на адказную совецкую або кааперацыйную работу.

На гэты кадр людзей райком звярнуў асаблівую ўвагу: сочыць за іх ростам, вучобай, аказвае канкрэтную дапамогу.

Прапрацоўваючы артыкул «Праўды» «Аб грубым парушэнні ўнутрыпартыйнай дэмакратыі», мы выявілі ў сваёй партарганізацыі цэлы рад падобных фактаў. Так, з выбраных райпартканферэнцыяй 17 членаў райкома засталося толькі 5 чалавек, недастаючыя члены райкома кааптаваны і зацверджаны толькі пленумам РК. У партарганізацыі Леспрамгаса за 1934-35 гг. перамяніліся 4 парторгі і т. п. Зараз уведзена большая стабільнасць у складзе парторгаў і сістэматычнае павышэнне іх кваліфікацыі. Для парторгаў склікаюцца раз у тры месяцы пяцідзенныя курсы пры райкоме, наладжана канкрэтная дапамога і інструктаж па палепшанню ўнутрыпартыйнай работы.

* * *

У працэсе праверкі і абмену партыйных дакументаў уся сістэма партыйнай прапаганды перабудавана. У аснову перабудовы райком паклаў падрыхтаванасць кожнага комуніста, павышэнне агульна-адукацыйнага ўзроўню малаграматных таварышоў.

Гурток па вывучэнню гісторыі партыі пры вінзаводзе рэарганізован у кандыдацкую палітшколу, прычым да найбольш слабых таварышоў (Ясько, Лапцёнка і інш.) прымацаваны настаўнікі па агульна-адукацыйных прадметах.

Партгурток пры Дулебскім механізаваным лесапункце падзелен на два гурткі; чацвёра найменш падрыхтаваных комуністаў і двое спачуваючых вылучаны ў гурток палітграматы.

Партшкола пры райкоме для комуністаў-адзіночак, заняткі ў якой адбываюцца 3 дні ў месяц, падзелена на 2 групы: у слабейшай—12, у мацнейшай—9 чал.

Дадаткова створан гурток па вывучэнню гісторыі партыі пры партарганізацыі Капланецкага сельсовета.

Пасля перабудовы мы маем наступную сетку: 2 кандыдацкія палітшколы, дзе навучаецца 3 членаў партыі, 5 кандыдатаў і 6 спачуваючых; 6 гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі па падручніку Кнорына на 42 чал.; 2 гурткі гісторыі партыі па падручніку Яраслаўскага на 25 чал.; 1 гурток павышанага тыпу па вывучэнню гісторыі партыі па асноўных творах класікаў марксізма-ленінізма на 18 чал. райпартактыва; 2 групы завочнага навучання па гісторыі партыі на 38 чал. (17 членаў партыі, 8 кандыдатаў, 1 спачуваючы і 8 чал. комсамольскага актыва); 1 семінар прапагандыстаў на 18 чал.

Такім чынам, рознымі відамі партыйнай вучобы ахоплена 136 членаў і кандыдатаў партыі і 10 спачуваючых.

Ва ўсёй сетцы адводзіцца 20—30 мінут у дзень на перыядычныя інфармацыі і гутаркі па важнейшых пытаннях бягучай палітыкі, жыцця партыі, соцбудаўніцтва і міжнароднага становішча. Некалькі заняткаў было адведзена спецыяльна для вывучэння гутаркі таварыша Сталіна з Рой-Говардам, гутаркі тав. Молатава з п. Шастэнэ, вынікаў III пленума КПК, артыкула тав. Гікало аб выніках праверкі партдакументаў і інш.

Прапагандысты падабраны з тэарэтычна падрыхтаванага, партыйна вытрыманага і праверанага на рабоце райпартактыва. У перыяд праверкі партдакументаў адхілены тыя комуністы, якія не апраўдалі сябе на прапагандысцкай рабоце, так і выпадкова трапіўшыя ў рады партыі.

Зараз мы маем наступны склад прапагандыстаў: членаў бюро—4 чал., у тым ліку сакратар і яго намеснік, рэдактар райгазеты і намеснік дырэктара МТС па палітчасці; членаў РК—2 чал., штатных прапагандыстаў—1 чал.; дырэктар сярэдняй школы і дырэктар соўгасвуча—2 чал.; інструктар РК—1 чал. і старшы палітрук тав. Дзяткоў. Усе прапагандысты, за выключэннем аднаго кандыдата партыі, маюць партстаж не менш сямі год.

Планава, 4 разы у месяц, працуе семінар прапагандыстаў, прычым 3 разы адбываецца кансультацыя і праверка канспектаў па тэмах партгурткоў і адзін раз—заняткі па ленінізму, на якіх кожны прапагандыст выступае з тэарэтычным дакладам. Семінарам кіруе сакратар райкома.

Раз у месяц для прапагандыстаў і райпартактыва арганізуюцца палітычныя даклады на тэмы аб міжнародным становішчы, важнейшых пытаннях жыцця партыі, соцбудаўніцтва і інш.

Палепшанне партыйнай прапаганды, індывідуальны падыход і дапамога кожнаму комуністу спрыялі таму, што раней пасіўныя таварышы Ясько, Крупкін, Лапцёнак, Буры, Таўкач, Капытко, Баразнёнак і інш. к абмену партыйных дакументаў павысілі свой палітычны ўзровень і сталі прымаць актыўны ўдзел у партыйным жыцці і вучобе.

Аднак ёсць яшчэ ў нас і сур'ёзныя недахопы. Значная колькасць комуністаў сістэматычна не рыхтуецца да заняткаў, не прапрацоўвае мінімум праграмнага матар'ялу. У некаторых застаецца толькі смутнае ўяўленне аб пройдзенай тэме. Нездавальняюча арганізавана дапамога адстаючым у вучобе (Бачароў, Несцяровіч, Альшэўскі, Ваверняк і інш.) і малаграматным комуністам (Шкляр, Чэпік, Гурэвіч і інш.), што з'яўляецца асноўнай прычынай адставання іх ад партыйнага жыцця. Некаторыя прапагандысты (Задруцкі, Дварэцкі) несумленна рыхтуюцца да заняткаў.

Пленум райкома, падводзячы вынікі абмену партдакументаў, асаблівую ўвагу звярнуў на якасць партыйнай прапаганды і намеціў рад канкрэтных мерапрыемстваў для ліквідацыі адзначаных недахопаў.

* * *

Адсталі мы і з разгортваннем партыйна-масавай работы на вёсцы. Сталыя ўпаўнаважаныя райкома не выяўлялі лепшых людзей, не працавалі з нізавым актывам, займаліся выключна гаспадарчымі пытаннямі. У выніку рад сельсоветаў і калгасаў сістэматычна адставаў у правядзенні гаспадарча-палітычных кампаній.

Бюро райкома падабрала і зацвердзіла цяпер 12 актывістаў-агітатараў, якія кожную дэкаду выязджаюць у калгасы для агітмасавай работы. Акрамя таго, для гэтай работы прымацаваны комуністы з тэрытарыяльных партарганізацый, а таксама 50 членаў і кандыдатаў партыі з раённага цэнтра.

У дапамогу агітатарам райком склікае інструкцыйныя нарады, якія праводзіць абавязкова сакратар райкома, або яго намеснік. На нарадах разбіраюцца пытанні аб тым, як трэба праводзіць у калгасах палітдні, гутаркі, чыткі і іншыя віды партмасавай работы.

Для абагульнення матар'ялаў праведзенай у калгасах партмасавай работы выязджаюць на месцы прадстаўнікі райкома і аб выніках дакладваюць асабіста, або інфармацыйнай запіскай з указаннем,

якія пытанні больш цікавяць калгаснікаў, рабочых, якія недахопы выяўлены ў рабоце калгаса, прадпрыемства. Як на адзін з такіх недахопаў трэба ўказаць на тое, што райком яшчэ не заняўся падрыхтоўкаю кіраўнікоў калгасаў, соўгасаў і нават сельсоветаў да выступленняў з палітычнымі дакладамі сярод калгаснікаў, калгасніц і рабочых соўгасаў. Уся агітмасавая работа адстае ад узросшых запатрабаванняў калгаснікаў і рабочых мас раёна перш за ўсё таму, што яна праводзіцца несістэматычна з-за адсутнасці на прадпрыемствах, у калгасах і соўгасах сталага складу агітатараў. Яшчэ не ўцягнуты ў яе ўсе комуністы, комсамольцы і беспартыйны праверáны актыў, лепшы вопыт недастаткова папулярызуецца.

Прапрацоўка рашэнняў снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК, прамовы таварыша Сталіна на першай нарадзе стаханаўцаў і на нарадзе перадавых камбайнераў і камбайнерак, матар'ялаў нарады перадавікоў жывёлагадоўлі і нарады па ільну з кіраўнікамі партыі і ўрада садзейнічала далейшаму разгортванню соцспаборніцтва паміж калгасамі, брыгадамі і звеннямі. У час веснавой сяўбы выраслі новыя людзі соцыялістычных палёў. Да пачатку сяўбы ў раёне былі адзінкі стаханаўцаў сельскай гаспадаркі, а зараз мы маем больш 100 чалавек, якія паказваюць узоры стаханаўскай работы на полі.

Нажаль, пярвічныя партарганізацыі мала клапоцяцца аб лепшых людзях—стаханаўцах сельскай гаспадаркі і прамысловасці, слаба дапамагаюць ім. Вопыт іх работы недастаткова папулярызуецца сярод шырокіх мас рабочых соўгасаў, МТС і калгаснікаў, не наладжана сістэматычная праверка выканання самаабавязацельстваў аб павышэнні ўраджайнасці.

Райком намеціў цяпер практычныя мерапрыемствы для сістэматычнай дапамогі стаханаўцам сельскай гаспадаркі і прамысловасці. З 25 па 1 чэрвеня па сельсоветах праводзяцца нарады стаханаўцаў для абмену вопытам работы ў час веснавой сяўбы і абмеркавання задач праполачнай і ўборачнай кампаній. Пасля гэтага адбудзецца раённы злёт стаханаўцаў сельскай гаспадаркі і прамысловасці.

* * *

Галоўная задача партарганізацыі на бліжэйшы перыяд заключаецца ў тым, каб у дакладнасці выканаць дырэктывы снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб прыёме ў партыю.

> «Пры прыёме новых членаў у ВКП(б) партыйныя арганізацыі павінны адбіраць у партыю сапраўды перадавых, сапраўды адданых справе рабочага класа, лепшых людзей нашай краіны, з рабочых перш за ўсё, а таксама з калгаснікаў і працоўнай інтэлігенцыі, правераных на розных участках барацьбы за соцыялізм з тым, каб яшчэ больш умацаваць рады ВКП(б) і яшчэ больш расшырыць сувязі партыі з масамі».

Дырэктыва ЦК патрабуе перш за ўсё штодзеннай работы з беспартыйным актывам, сапраўднага ведання людзей.

Трэба прама сказаць, што калі падрыхтоўка кандыдатаў да пераводу ў члены партыі пастаўлена ў нас не кепска, то работа па стварэнню рэзерва для росту партыйных арганізацый, г. зн. работа з комсамольскім актывам і галоўным чынам спачуваючымі, ідзе дрэнна.

У нашай партарганізацыі налічваецца 37 кандыдатаў партыі, з якіх 6 чал. пераведзены ў кандыдаты пры чыстцы ў 1933 г. і 3 пераведзены ў час абмену партыйных дакументаў.

З кандыдацкім складам партарганізацыя правяла вялікую работу. Усе кандыдаты ахоплены партшколамі і гурткамі, маюць партабавязкі. Кандыдаты партыі тт. Шварц і Лапцёнак—стаханаўцы, Гурэвіч—старшыня сельсовета могуць служыць прыкладам ударнай працы, сумленнага выканання дырэктыў партыі. З 37 кандыдатаў 31 падрыхтаваны для прыёму ў члены партыі.

У апошні час пачынаем выпраўляць свой прабел—наладжваем работу сярод комсамола. Значная частка комсамольскага актыва ўцягнута ў сетку партасветы, асабліва па завочнаму вывучэнню гісторыі партыі. Больш падрыхтаваным комсамольцам райком перыядычна дае партыйныя даручэнні

Тав. Гаўрылаву даручана зрабіць даклад аб выніках 1-га раённага злёту стаханаўцаў, арганізаваць стаханаўскія брыгады лесарубаў і возчыкаў у Капланецкім сельсовеце. Тав. Старчанка даручана было праверыць, як калгасы падрыхтаваны да сяўбы і як выконваецца калгасны статут.

Работнікі райкома асабіста ведаюць ужо групу комсамольцаў, якія могуць быць прыняты ў кандыдаты партыі: тт. Гаўрылаў—тэхнарук вінзавода, ініцыятар стаханаўскіх метадаў работы, комсамольскі арганізатар і прапагандыст комсамольскай школы; Буры Нікалай—машыніст-стаханавец; Лапцёнак—старшыня Брадзецкага сельсовета; Шаура—інжынер учдора 718; Дайнека—рабочы-стаханавец вінзавода; Анішчанка—старшыня калгаса «Жданаў» і інш.

Аднак на гэтых першых спробах палепшання работы сярод комсамола райпартарганізацыя не можа супакоіцца. Патрэбна шырокая, сталая, сістэматычная палітычна-выхаваўчая работа сярод комсамола.

Спачуваючых у нашай райпартарганізацыі пакуль што толькі 20 чал., з якіх 6 пераведзена з кандыдатаў і 14 прынята ў 1935-36 гг. Бюро райкома яшчэ не зацвердзіла 17 спачуваючых, прынятых пярвічнымі партарганізацыямі ў апошні час.

З новапрынятых спачуваючых падрыхтаваны да прыёму ў партыю толькі тт. Баранаў—старшыня калгаса, Булойчык—брыгадзір калгаса, Дайнека—рабочы-стаханавец вінзавода і Сітнік—настаўнік Багушэвіцкай НСШ.

У час абмену партдакументаў бюро райкома прыняло захады к таму, каб палепшыць работу са спачуваючымі. Пры райкоме арганізавана школа спачуваючых па вывучэнню статута і праграмы партыі і пытанняў бягучай палітыкі. Спачуваючым даюцца заданні для самастойнай работы.

Усе спачуваючыя ахоплены палітшколамі, вячэрнімі рабочымі школамі. Спачуваючыя выконваюць партнагрузкі. Тав. Сітнік прымацован да калгаса «Мічурына» для палітгутарак; Булойчык—брыгадны чытач; Баранаў—староста палітгуртка калгаснага актыва; Сяргейчык—член рэдакцыйнай калегіі насценгазеты.

Пленум райкома прызнаў работу са спачуваючымі нездавальняючай і абавязаў бюро і пярвічныя партарганізацыі паставіць яе ў цэнтр увагі.

* * *

У выніку праверкі і абмену партдакументаў райпартарганізацыя ачысціла свае рады ад разлажыўшыхся людзей, недастойных высокага звання членаў і кандыдатаў ленінскай партыі, палепшыла ўнутрыпартыйную работу і ўзняла на вышэйшую ступень большэвіцкую пільнасць і прынцыповую непрымірымасць да парушальнікаў партдысцыпліны.

У нашай рабоце яшчэ шмат недахопаў. Асаблівую ўвагу мы павінны ўдзяляць на яшчэ большае ажыўленне ўнутрыпартыйнай работы, работы са спачуваючымі і комсамолам.

Задача партарганізацыі—выкарыстаць вынікі праверкі і абмену партдакументаў і пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало паднясць партыйную работу на вышэйшую ступень.

---

**Каганоўскі**

Сакратар парткома магілеўскага скурзавода
імя Сталіна

# Работа партарганізацыі пасля абмену партдакументаў

Да абмену партдакументаў наша арганізацыя прышла арганізацыйна і ідэйна ўзросшай і ўмацаванай.

Рыхтуючыся да абмену, мы перш-на-перш заняліся вывучэннем людзей і іх настрою, выяўленнем твару кожнага члена і кандыдата партыі.

Пачалі практыкаваць самасправаздачы комуністаў і кандыдатаў, загадзя глыбока вывучаючы гэта пытанне, абследуючы на даму таварышоў, якім даручалася зрабіць самасправаздачу на парткоме. У рэзультаце выявілі рад таварышоў, якія мелі вельмі нізкі палітычны ўзровень і патрабавалі канкрэтнай дапамогі. Разам з тым было выяўлена, што многія таварышы, якія лічыліся пасіўнымі, па сутнасці хочуць і могуць працаваць. Да адстаючых таварышоў прымацавалі больш моцных, вызвалілі іх ад розных іншых партыйных нагрузак, вызначылі пэўныя дні для вучобы. Члены парткома сістэматычна правяралі, як ідзе работа з адстаючымі.

Кандыдат партыі тав. **Дублеўская** лічылася пасіўнай, палітычна малаграматнай. Калі з ёю пагутарылі, то аказалася, што яна вучыцца хоча і працаваць здольна. Цяпер яна з поспехам узначальвае заводскую арганізацыю МОПР.

Член партыі тав. **Іваноў А.** таксама лічыўся пасіўным. Але аказалася, што ён вельмі здольны арганізатар і любіць партыйную справу. Яго зрабілі парторгам цэха, і зараз ён лічыцца адным з лепшых парторгаў на заводзе.

Было ў нас некалькі кандыдатаў партыі, якія, не гледзячы на ўсе намаганні і работу з імі, ад партыйнага жыцця адрываліся і абсалютна нічым не праяўлялі сваю прыналежнасць да партыі. Да іх адносяцца Лур'е і Гілелес. Зусім зразумела, што партыя вызвалілася ад гэтых людзей. Таксама выключылі і Геймана, які ашуканскім шляхам пралез у партыю.

У нашай арганізацыі існавалі комуністы-адзіночкі, якія выпадалі з поля зроку і ўплыву парткома. Рыхтуючыся да абмену партдакументаў, мы стварылі дадаткова дзве партыйныя групы (у дубільным цэху з 4 чал. і ў ахове з 5 чал.) і адну кандыдацкую групу ў механічным цэху.

Такім чынам мы дабіліся таго, што ўсе комуністы і кандыдаты партыі прымаюць актыўны ўдзел у партыйным жыцці і партмасавай рабоце.

Пытанні ідэйна-палітычнага росту членаў і кандыдатаў партыі не сходзяць з абвесткі дня нашай работы. У палітшколах вучоба падоўжана на адну гадзіну, створаны два гурткі для 22 таварышоў, нізкі агульна-адукацыйны ўзровень якіх у пэўнай меры перашкаджаў іх ідэйна-палітычнаму росту.

Калі год таму назад арганізацыя акуратнага наведвання палітзаняткаў была для нас праблемай, то зараз гэта пытанне вырашана. Галоўную ўвагу мы звярнулі цяпер на якасць работы партыйных школ, на падбор прапагандыстаў і падрыхтаванасць іх да выкладання. Партком перыядычна заслухоўвае справаздачы прапагандыстаў, зацвярджае планы заняткаў.

Для паспяховага праходжання вучобы мы стварылі адпаведныя ўмовы: вылучылі памяшканне кожнай школе, набылі карты, дапаможнікі і т. д. Прапагандыст заўсёды мае магчымасць растлумачыць па карце, калі гэта патрэбна, любую тэму.

Сістэма палітагітацыі на заводзе не адпавядала ўзросшым запатрабаванням рабочых, і мы яе перагледзелі, кіруючыся рашэннем ЦК ВКП(б) аб Балахнінскім камбінаце. Да брыгад прымацован падрыхтаваны інстытут агітатараў з 22 чал., з якімі ў абавязковым парадку праводзіцца семінар. Агітатар, які не наведаў семінар, не дапускаецца да агітацыі.

Палітагітатары праяўляюць вялікую зацікаўленасць сваёй работай, увязваюць гутаркі з штодзенным жыццём завода.

У выніку шырокай арганізацыйнай і партмасавай работы ўзнялася актыўнасць членаў і кандыдатаў партыі, ажывілася работа грамадскіх арганізацый, зменшылася колькасць пасіўных таварышоў, выраслі рады спачуваючых з ліку перадавых стаханаўцаў завода. Да абмену партдакументаў мы мелі 18 спачуваючых, а зараз—32.

Партыйна-масавая работа пасля абмену партыйных дакументаў больш умацавалася, набыла канкрэтныя формы. Галінная канферэнцыя скуранікаў усклала на наш завод вялікія задачы. Арганізацыйна і ідэйна ўзросшая пасля праверкі партарганізацыя павінна была даказаць, што яна гатова правесці ў жыццё рашэнні галіннай канферэнцыі. Спецыяльна была распрацавана тэма аб нормах выпрацоўкі і заработнай платы. Нашы рабочыя былі падрыхтаваны да ўвядзення новых норм і асвоілі іх фактычна к 1 мая, замест 15 мая, як гэта намячалася рашэннем галіннай канферэнцыі. Новыя нормы пачалі ўводзіцца з 17 красавіка, і к 1 мая ўжо не было такога рабочага, які, працуючы здзельна, не выконваў-бы новыя нормы. Першымі асвоілі і выканалі новыя нормы члены і кандыдаты партыі і спачуваючыя—рабочыя ад станка.

Кандыдат партыі тав. **Райнес** 19 красавіка выканаў новую норму на 130 проц. а 20—на 139 проц.

Спачуваючы тав. **Барада** ў першы-ж дзень работы па новых нормах выканаў заданне на 166,7 проц., а ў другі—на 170 проц.

Комуністы нашай арганізацыі на справе адыгрываюць авангардную ролю ў вытворчасці. Іх прыкладу следуюць і беспартыйныя рабочыя. Тав. **Ганчароў** у першы дзень работы па новых нормах даў 140 проц., **Блюмін**—153 проц., **Егораў**—136 проц.

Для папаўнення радоў партыі ў нас створан рэзерв са спачуваючых і комсамола. Кожны спачуваючы акуратна наведвае партшколу, вывучае статут і праграму партыі, з вялікай любоўю выконвае нагрузкі. Так, тав. Екімецкі з'яўляецца палітагітатарам, тав. Каплан—

цэхавым арганізатарам таварыства вынаходнікаў, тав. Барада—цэхавым арганізатарам АСО і т. д.

Асоба зараз ставім пытанне аб партыйных днях, як аб школе выхавання комуністаў. Да іх рыхтуемся загадзя, абвестку дня абагвараем на парткоме.

Вельмі актыўна і ажыўлена прашоў у нас партыйны дзень на тэму «як чытаць газеты».

Для тлумачэння па закранутай тэме запрасілі дырэктара Газетнага тэхнікума. Выяснілася, што некаторыя таварышы несістэматычна чытаюць газеты, частка слаба засвойвае прачытаны матар'ял, бо няправільна карыстаюцца газетай. Партком адсюль зрабіў вывады. Было пастаноўлена, каб падобныя партдні праводзіліся непасрэдна ў партыйных групах.

У канцы красавіка райком партыі арганізаваў экскурсію работнікаў цэлага раду партарганізацый горада на наш завод для абмену вопытам работы. Таварышы, якія пабывалі ў нас, знашлі многа каштоўнага ў пастаноўцы партыйна-масавай работы. Аднак, трэба сказаць, што і недахопаў на гэтым участку ў нас яшчэ вельмі многа.

У далейшым мы яшчэ больш упарта будзем працаваць над ідэйна-палітычным выхаваннем комуністаў нашай арганізацыі.

**Р. Соскін**

Сакратар оршанскага РК КП(б)Б

# Як мы пачалі рэалізаваць рашэнні III пленума Камісіі партыйнага кантроля

Рашэнні III пленума КПК пры ЦК ВКП(б)—адзін з важнейшых дакументаў унутрыпартыйнай работы, умацавання непарушнасці статута партыі, выхавання сярод комуністаў найстражэйшай дысцыпліны.

Бюро райкома партыі правяло рад практычных мерапрыемстваў для глыбокага вывучэння гэтага важнейшага дакумента як сярод гарадскога і раённага партыйнага актыва, так і ва ўсёй партыйнай арганізацыі раёна.

Рашэнні пленума ў дзень апублікавання іх у друку былі абмеркаваны і прапрацаваны на семінары кіруючага гарадскога і раённага партактыва, а потым і ва ўсіх пярвічных партарганізацыях. Акрамя таго, бюро райкома склікала сход гарадской партыйнай арганізацыі, дзе быў зроблен даклад аб выніках пленума КПК.

Для больш глыбокага і падрабязнага вывучэння рашэнняў пленума КПК бюро райкома прапанавала ўключыць іх у праграму бліжэйшых заняткаў па ўсёй сетцы партасветы.

Бюро райкома з асаблівай сілай падкрэсліла перад ўсёй партарганізацыяй асноўныя задачы, якія выцякаюць з рашэнняў пленума КПК: рашучая барацьба з усякага роду парушэннямі статута партыі і дакладнае выкананне кожнага яго пункта; спыненне няправільнай практыкі накладання партыйных спагнанняў, нячулага падыходу да комуніста, няўважлівага вывучэння акалічнасцей праступка; упартая сістэматычная работа над павышэннем ідэйна-палітычнага ўзроўню комуніста; ужыванне метадаў пераконвання, а не пакарання, што ў сваю чаргу павінна мець вялікае выхаваўчае значэнне як для данага комуніста, так і для ўсёй партарганізацыі; замацаванне дасягнутых партарганізацыяй у час праверкі і абмену партдакументаў зрухаў у галіне арганізацыйнай, унутрыпартыйнай выхаваўчай работы, павышэння агульнага ідэйна-палітычнага ўзроўню і класавай пільнасці.

У абмеркаванні рашэнняў пленума актыўны ўдзел прыняла большасць членаў і кандыдатаў партыі. Амаль усе выступаючыя ў спрэчках паказалі веданне статута партыі ў прымяненні да канкрэтнай абстаноўкі сваёй пярвічнай партарганізацыі.

Жорсткай крытыцы была падвергнута работа парткома Белдрэс, які накладаў партспагнанні і нават выключаў з партыі комуністаў (тт. Правальскага, Бацяна і інш.), не разбіраючыся ў сутнасці абвінавачання і нават не выносячы пытання на абмеркаванне агульнага партсходу.

Партком НКВД сістэматычна парушаў статут партыі, выносячы партспагнанні без удзелу абвінавачанага на партсходзе, а ў радзе выпадкаў і без зацверджання агульнага партыйнага сходу.

Партком Осінторфа выносіў партспагнанні комуністам, якія не мелі ніякага ўяўлення аб сутнасці высунутага супроць іх абвінавачання. Так, праформ участка тав. Шауліс быў зняты з работы і атрымаў суровую вымову з папярэджаннем за выпадак самасуду на тэрыторыі яго ўчастка ў школе ФЗУ, аб чым ён нічога не ведаў. Ясна, што партком, прымяняючы гэту рэпрэсію, стараўся перш за ўсё самазастрахавацца, зняць з сябе адказнасць за здарэнне. Бюро райкома адмяніла гэта няправільнае рашэнне парткома.

Можна было-б прывесці яшчэ дзесяткі падобных фактаў.

Пра актыўнасць прапрацоўкі рашэнняў III пленума КПК на партыйных сходах сведчаць лічбовыя даныя. У партарганізацыі Белдрэс на партыйным сходзе з 48 прысутных выступіла 14 чал., на заводзе «Чырвоны Окцябр» з 20 выступіла 11, на заводзе «Спартак» з 8 выступіла 5, у МТС з 7 выступіла 6, у Швейпромсаюзе з 10—7, на сходзе туміліцкай тэрытарыяльнай партарганізацыі з 6 выступіла 5, на агульным партыйным сходзе ў спрэчках па дакладу выступілі тт. Лоташ, Радкевіч, Новікаў і іншыя, якія раней на такіх масавых сходах не выступалі.

Рашэнні пленума КПК прымусілі бюро райкома ўважлівей прыглядзецца да практыкі накладання партыйных спагнанняў і пастаноўкі партыйна-выхаваўчай работы ў партарганізацыі раёна.

У практыцы работы бюро райкома стаў пераважаць метад больш удумчывых, больш сур'ёзных адносін да вынясення спагнанняў комуністам, утварыўшым тыя або іншыя парушэнні статута партыі. Перад разборам праступку комуніста бюро райкома пасылае на месца свайго прадстаўніка, які ўважліва вывучае ўсе акалічнасці справы, палітычны ўзровень комуніста, яго дадатныя бакі. І толькі пасля гэтага райком вырашае пытанне аб партспагнанні.

Для ілюстрацыі прывядзем некалькі фактаў.

Тав. **Дабравольскі** быў выключан пярвічнай партарганізацыяй соўгаса «Усце» за пасіўнасць і адрыў ад партыйнага жыцця. Бюро райкома, разабраўшы гэта пытанне, аднавіла Дабравольскага ў партыі і прапанавала партарганізацыі стварыць яму ўмовы для партыйна-палітычнага росту. Аб тым, што Дабравольскі выправіў свае памылкі і палітычна вырас, гаворыць той факт, што партарганізацыя соўгаса ўзняла хадайніцтва аб застаўленні яго на рабоце, а пры абмене партдакументаў высунула парторгам.

Тав. **Правальскага** выключыла з партыі партарганізацыя Белдрэс за тое, што ён дапусціў выпіўку пры паездцы на курсы цэхпарторгаў. Тав. Правальскі—лепшы стаханавец, сама партарганізацыя вылучыла яго парторгам у час праверкі партдакументаў. Аб гэтым выпадку Правальскі гаворыць: «Выпіў маласць ад радасці, што на курсы еду». Бюро райкома адмяніла гэта непрадуманае рашэнне, рашуча папярэдзіўшы сакратара парткома аб непаўтарэнні падобных фактаў у рабоце і ўказаўшы Правальскаму на яго праступак.

У сувязі з абменам партдакументаў бюро райкома ўдзяляе выключную ўвагу зняццю партыйных спагнанняў, накладзеных раней на членаў і кандыдатаў партыі, якія цяпер палітычна выраслі і на практычнай рабоце выправілі свае памылкі. Рашэнні пленума КПК далі магчымасць больш правільна арыентавацца ў вырашэнні гэтай справы.

За перыяд падрыхтоўкі і ў працэсе абмену партдакументаў бюро райкома разгледзела і зняла партыйныя спагнанні з 93 членаў і кандыдатаў партыі.

Следуючы ўказанням пленума КПК, бюро райкома асцярожна падыходзіць да зняцця партыйных спагнанняў, асабліва з тых таварышоў, якія атрымалі іх за страту класавай пільнасці, ідэйна-палітычныя хістанні. Так, не зняты спагнанні з члена партыі Абраменка (Аэраклуб) за скрыццё соцыяльнага паходжання сваіх родзічаў; з члена партыі Дроздзіка (Хлебакамбінат) за ўтварэнне рэлігійнага абраду; з члена партыі Іванова (Сувязь) за службовае злачынства.

Сур'ёзным недахопам у рабоце пярвічных партарганізацый з'яўляецца слабая пастаноўка праверкі выканання. Гэта пытанне ў бліжэйшы час павінна заняць адно за галоўнейшых месц у рабоце раённага камітэта партыі.

Прапрацоўка рашэнняў пленума КПК узняла на яшчэ больш высокую ступень справу партыйна-прынцыповага, найстражэйшага захавання статута партыі і адказнасць кожнага комуніста за стан партыйнай работы ў арганізацыі.

---

**А. Геўрасёў**

Сакратар чаўскага РК КП(б)Б.

# Стаханаўскім рухам трэба кіраваць канкрэтна

Рашэннем ЦК ВКП(б) і ўрада ад 19 снежня 1935 г. перад усімі краямі і абласцямі нечорназемнай паласы пастаўлена сур'ёзная задача—«забяспечыць на працягу бліжэйшых 3—4 год павышэнне ўраджайнасці: па зернавых культурах—90—100 пудоў у сярэднім з гектара, па ільну—4—5 цэнт. ільнавалакна ў сярэднім з гектара і па каноплях—5—6 цэнт. валакна з гектара, па бульбе—900—1100 пудоў у сярэднім з гектара».

Для вырашэння гэтай задачы ЦК КП(б)Б даў усім раёнам канкрэтную бальшэвіцкую праграму дзеяння і патрабаваў ад кожнай партарганізацыі разгарнуць планавую арганізатарскую работу ў масах.

У барацьбе за выкананне дырэктыў партыі аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў і ўздыме ўраджайнасці чаўская партарганізацыя паставіла канкрэтную задачу—дабіцца, каб кожны калгас раёна ў 1936 стаханаўскім годзе атрымаў у сярэднім ураджаю: зернавых—12,5 цэнт. з гектара, лёну—4 цэнт., канапель—4—5 цэнт. і бульбы—130 цэнт.

Ясна, што ў сувязі з гэтымі адказнымі задачамі павысіліся патрабаванні да партыйнага кіраўніцтва. Усе пярвічныя партарганізацыі і кожны комуніст паасобку абавязаны разгарнуць вялікую масава-палітычную работу сярод рабочых соўгасаў і калгаснікаў, арганізаваць і ўзначаліць масавы стаханаўскі рух на вёсцы.

Трэба адзначыць, што партарганізацыя не адразу ўзялася за гэту вялікую справу, а таму ў 1935 годзе мы мелі адзінкі людзей, якія па асабістаму пачыну паказвалі ўзоры высокай прадукцыйнасці працы (трактарыст соўгаса «Ялава»—Пахомаў, трактарыст чаўскай МТС—Цімашэнка, трапальшчыцы лёну—Гаўрыленка Мар'я, Сцепаненка Зіна, Якімчыкава Ліза, свінары—Касянкова Вера, Антаненка Лекса, Носараў Дзямян, цялятніцы—Атрашкевіч Вара, Рыбакова Ліза, даяркі—Ляпеева Ганна, Рабіновіч Соня і т. д.). Аднак ініцыятыву перадавікоў партарганізацыя не ўзначаліла, метадаў іх работы не папулярызавала, і гэта было буйнейшай палітычнай памылкай, якая выпраўлена ў далейшай рабоце.

З вялікім энтузіязмам сустрэлі калгаснікі прамову таварыша Сталіна на прыёме пяцісотніц і пастанову ўрада аб узнагародзе іх ордэнам Леніна. Прамова таварыша Сталіна на прыёме пяцісотніц,

а таксама матар'ялы Ўсебеларускай нарады перадавікоў ураджайнасці социялістычных палёў былі абгавораны ў кожным калгасе, соўгасе і на раённай нарадзе. Вакол перадавікоў партарганізацыя стварыла атмасферу ўвагі. На агульных сходах прапрацоўваліся даклады рэспубліканскай нарады перадавікоў ураджайнасці.

Уся масава-палітычная работа, праведзеная партарганізацыяй у барацьбе за рэалізацыю ўказанняў таварыша Сталіна на прыёме пяцісотніц і зварот Усебеларускай нарады перадавікоў ураджайнасці выклікалі велізарны рух за высокі ўраджай, асабліва па ільну, як вядучай культуры ў раёне. Звяно Веры Дзюбаковай (калгас «Ударнік», Прудкоўскага сельсовета) узяло на сябе абавязацельства дабіцца ўраджаю 1000 кг. ільнавалакна і 500 цэнт. бульбы з кожнага гектара. Гэты пачын быў падхоплен астатнімі калгасамі і пашырыўся за час веснавой сяўбы на 65 калгасных звенняў. Мы маем зараз перадавікоў тысячніц па ільну і бульбе: Веру Дзюбакову, Маханенка Ульяну, Раманоўскага, Бардзілоўскую Адэлю, Пекаленка і дзесяткі іншых.

Стаханаўскі рух шырока разгарнуўся не толькі сярод калгасніц, калгаснікаў і рабочых соўгасаў, але і ў розных галінах сельскай гаспадаркі, асабліва сярод трактарыстаў. Трактарыст чаўскай МТС **Цімашэнка** Ціт Лук'янаў—спачуваючы, удзельнік Усебеларускай нарады перадавікоў ураджайнасці—за 10 гадзін на трактары «ХТЗ» узараў 18,75 га і з'эканоміў 105 кілограм гаручага; трактарыст **Пахомаў** Александр з соўгаса «Ялава»—комсамолец, таксама ўдзельнік Усебеларускай нарады перадавікоў ураджайнасці—рэгулярна кожны дзень за 8 гадзін узорваў 8 га і за такі-ж час засяваў 22 га. За 15 дзён мая ён зарабіў 340 рублёў. Трактарысты Пухаленка, Зайцава, Гаўрыловіч у сярэднім узорвалі за веснавую сяўбу ад 8 да 10 га за змену.

Важнейшая асаблівасць работы партарганізацыі—гэта непасрэдная сувязь і кіраўніцтва стаханаўцамі социялістычных палёў, веданне перадавікоў—калгасніц і калгаснікаў—і практычная дапамога ім.

Райком правёў нараду тысячніц рэкордных участкаў па ільну, якія ўзялі на сябе абавязацельства даць 1000 кілограм ільнавалакна і 500 цэнт. бульбы з гектара. Выступленні звеннявых калгасніц і калгаснікаў, а таксама іх практычная работа, якая выявілся ў тым, што ўсе ўчасткі засеяны добраякасна, з унясеннем дастатковай колькасці розных угнаенняў, што ўсходы і рост ільна ідуць надзвычай добра, што ўсе звенні зрабілі ўжо па разу праполку і іншыя работы, патрабуемыя аграправіламі,—усё гэта сведчыць аб глыбокім пераломе ў свядомасці гэтых людзей, аб росце пачуцця адказнасці і клопатаў за поспехі калгаса ў. цэлым, аб тым, што ў спаборніцтве яны стараюцца не толькі самі перамагчы, але і дабіцца агульнага ўздыму ў выкананні самаабавязацельстваў.

Асаблівая ўвага звернута намі на разгортванне масавай агратэхнічнай вучобы сярод калгаснікаў і калгасніц, бо без сур'ёзнага вядання агратэхнікі ўздым ураджайнасці немагчымы. Цэлы рад агратэхнічных мерапрыемстваў раён праводзіць у гэтым годзе ўпершыню ў масавым маштабе.

Інтарэс калгаснікаў да агравучобы велізарны. Па раёну ў гэтым годзе было ахоплена масавай агравучобай 757 чал. Уся сетка была забяспечана ў выстарчальнай колькасці літаратурай. Раённая газета сістэматычна друкавала артыкулы па пытаннях агратэхнікі. Пасобныя стаханаўцы вытрымалі экзамен на званне майстра социялі-

стычных палёў (Маханенка, Раманоўскі, Лапаеў, Шкрэбава Дуня, Новікаў, Гулакоў і інш.). Усяго 85 калгаснікаў прымала ўдзел у здачы экзамена. На выдатна здалі—14 чал., на добра—22, на здавальняюча—39 і не здалі з-за непадрыхтаванасці—10 калгаснікаў.

Па ініцыятыве звеннявой-тысячніцы Веры Дзюбаковай многія стаханаўцы сельскай гаспадаркі звязаліся з Акадэміяй Навук Беларусі, якая адразу адгукнулася і выслала навуковага работніка тав. Чэцверыкова, які аб'ехаў 6 калгасаў і дапамог стаханаўцам засеяць свае рэкордныя ўчасткі на падставе агранамічных правіл.

Стаханаўскія дэкаднікі і пяцідзенкі, якія праводзіліся ў працэсе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы, не толькі спрыялі яе поспеху, але з'явіліся добрай школай стаханаўскіх метадаў работы для калгасных арганізатараў, для ўсёй масы калгаснікаў і рабочых соўгасаў.

У выніку ўсёй падрыхтоўчай работы да сяўбы, у выніку мабілізацыі шырокіх мас калгаснікаў і рабочых соўгасаў на барацьбу за высокі ўраджай, большасць сельсоветаў і калгасаў раёна прыступіла да сяўбы лепш падрыхтаванай, чым ва ўсе мінулыя гады.

К 13 мая па раёну закончана сяўба лёну; усяго засеяна 5800 га. К 15 мая закончана сяўба ўсіх коласавых на 20.000 га. К 20 мая закончана поўнасцю сяўба позніх культур, акрамя грэчкі. Упершыню за апошнія гады пачалі ворыва папару ў канцы красавіка і закончылі поўнасцю к 31 мая.

Сотні калгаснікаў, трактарыстаў, брыгадзіраў, звеннявых з гонарам выконваюць узятае на сябе абавязацельства—заваяваць высокі ўраджай.

Вось што гаворыць звеннявая **Маханенка** Ульяна (калгас «Новае жыццё», Антонаўскага сельсовета), якая абавязалася даць у 1936 годзе 1000 кілограм ільноволакна з га:

«У мяне, на маім участку, праведзена высокаякасная апрацоўка. Участак я перш за ўсё аслабаніла ад карэнняў пырэю. Карыстаючыся парадай навуковага агранома Акадэміі Навук тав. Чэцверыкова, унесла ўгнаенняў: калійнай солі—2 цэнт., суперфасфату—4 цэнт., попелу 4 цэнт., курынага памёту—4 цэнт. і пасеяла радковым спосабам 1,6 цэнт. насення ўздоўж і ўпоперак участка. Усходы і рост мяне радуюць і гавораць аб тым, што я сваё абавязацельства выканаю». Прыклад Маханенкі Ульяны не адзін. Такую-ж высокую якасць работы паказала ў працэсе сяўбы большасць тысячніц, як Вера Дзюбакова, Асіпенка, Бардзілоўская і т. д.

Важнейшым фактарам паспяховага ходу сяўбы з'яўляецца тое, што пярвічныя партарганізацыі раёна сёлета лепш кіруюць калгасамі, лепш арганізавалі і ўзначалілі партмасавую работу, лепш расставілі ў час сяўбы комуністаў і комсамольцаў.

Кандыдат партыі тав. Цвілікаў увесь час праводзіў у брыгадзе, звяне. Калгасы, якія ён абслугоўваў, добраякасна і першымі ў раёне закончылі сяўбу. Член партыі тав. Пісараў, кандыдаты партыі т.т. Аржаны, Лістраценка ў час сяўбы праводзілі масава-палітычную работу, штодзенна былі ў брыгадзе і канкрэтна дапамагалі звенням на рэкордных участках.

Уся работа гаворыць аб тым, што ў гэтым годзе партарганізацыі кіравалі сяўбою больш канкрэтна, што комуністы больш грунтоўна аўладалі асновамі агратэхнікі.

Аднак, не ўсе комуністы зразумелі палітычную сутнасць кіраўніцтва стаханаўскім рухам у сельскай гаспадарцы. Замест таго, каб

узначаліць вытворчы энтузіязм перадавікоў, паасобныя комуністы сталі на шлях тармажэння іх вялікага пачыну. Член партыі Архіповіч кіруе калгасам «Окцябр», Антонаўскага сельсовета. Калгасніцы Піка-ленка Агата і Базуценкава Алена ўзялі на сябе абавязацельства да-біцца ўраджаю 10 цэнтнераў ільнавалакна і 500 цэнтнераў бульбы з гектара. Гэтага пачыну не ўзначаліў кіраўнік калгаса, і калгасніцы вы-мушаны былі без падтрымання і дапамогі змагацца за свае абавяза-цельствы. Мала таго, Архіповіч і брыгадзіры стваралі тормазы ў ра-боце перадавых людзей. Райком даў па заслугам гэтаму комуністу.

Факты адкрытых і замаскаваных выступленняў, сабатажу самаабa-вязацельстваў тысячніц з боку класава-чуждых элементаў, хоць і не носяць масавага характару, але і не адзінкавы. Усе падобныя факты райком не пакідаў без рэагавання, мабілізуючы ўвагу кожнага кому-ніста на павышэнне пільнасці, выкрыццё супраціўленцаў і рашучы адпор сабатажнікам, якія ставяць палкі ў калёсы стаханаўскаму руху.

Чаўская партарганізацыя дабілася першых вынікаў у перабудове кіраўніцтва сельскай гаспадаркай. Ад яе патрабуецца—яшчэ больш палепшыць кіраўніцтва, узмацніць партыйна-масавую работу, шырэй разгарнуць стаханаўскі рух, каб у далейшым раён не меў адстаючых сельсоветаў і калгасаў, каб задачы стаханаўскага года былі выка-наны з поспехам.

**А. Каралевіч**

Сакратар парткома Бабруйскага лесакамбіната

# Комуністы на чале стаханаўскага руху

Пачын Стаханава даў штуршок выдатнаму руху мас—пераможнаму стаханаўскаму руху. Стала зусім ясна, што ўсе так званыя навуковыя ўяўленні аб нормах, усе гэтыя «тэорыі прадзелу» не вытрымліваюць больш ніякай крытыкі, што на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва гэтыя нормы ўжо застарэлі, яны скоўваюць, тармозяць творчую ініцыятыву мас.

Весткі аб першых рэкордах Стаханава знашлі самы шырокі водгук сярод рабочага калектыва нашага камбіната. Перад намі паўстала задача—перанесці метады стаханаўскай работы, вопыт перадавога данецкага забойшчыка, які апракінуў старыя ўяўленні аб нормах, у нашу лесапільную прамысловасць.

Партарганізацыя камбіната адразу-ж паставіла перад комуністамі, якія працуюць непасрэдна на вытворчасці, пытанне аб тым, што іх авангардная роля ў гэтым выдатным руху павінна мець рашаючае значэнне.

Перадавы артыкул «Праўды», прысвечаны першым рэкордам Стаханава, абмяркоўваўся намі ў цэхах, на рабочых сходах, на кватэрах рабочых.

На наступны-ж дзень пасля выхаду «Праўды» я выклікаў да сябе парторга вядучага лесапільнага цэха № 1 тав. Гладышава, які да абрання парторгам працаваў рамшчыкам.

Тав. Гладышаў рашыў сілай асабістага прыкладу захапіць рабочых свайго цэха. Для таго, каб зламаць старыя традыцыйныя нормы «Баліндэра», на якім звычайна распільвалі не больш 95 кубаметраў лесаматар'ялу, парторг сам стаў да рамы. І што-ж? Рэзультат—145 кубаметраў за змену. Па таму часу гэта быў усебеларускі рэкорд.

Прыклад парторга натхніў, па-сапраўднаму захапіў астатніх рамшчыкаў цэха. Комуніст тав. Буднік праз некаторы час на гэтай самай раме даў 160 кубаметраў. Рамшчык тав. Рушко неаднаразова ўстанаўляў усесаюзныя рэкорды лесапілення, даючы за змену на раме «Баліндэр» да 560 кубаметраў лесаматар'ялу.

З лесацэха № 1 хваля стаханаўскага руху перакінулася ў лесапільны цэх № 2, які на старых, ціхаходных рамах фірмы «Гофман» даваў, як правіла, не больш 74 кубаметраў. Комуніст тав. Стромскі Фёдар распілаваў за змену 242 кубаметры, рамшчык тав. Рудакоўскі на той-жа ціхаходнай раме «Гофман» даў 240 кубаметраў.

Можна назваць цэлы рад комуністаў—Міхальца, Іванова, комса-

мольцаў Герасімава, Навіцкага, Кузнецова, рамшчыкаў Соскіна, Адзінцова і інш., якія ў першыя-ж дні ўзнікнення ў нас стаханаўскага руху паказалі неабмежаваныя магчымасці выкарыстання тэхнікі на камбінаце.

Вельмі дрэнна наладжана была ў нас узаемадзейнасць цэхаў. Лесапільная група цэхаў, ад якой залежыць бесперабойная работа дрэваапрацоўчай групы, тармазіла выкананне плана беладрэўнага і стандартнага цэхаў. У першыя-ж дні стаханаўскай работы на камбінаце нам прышлося сур'ёзна ўзяцца за ўрэгуляванне гэтага пытання. Група майстра-комуніста Лахмана з беладрэўнага цэха, узяўшая абавязацельства працаваць па-стаханаўску, прад'явіла дырэкцыі камбіната і інжынерна-тэхнічным работнікам свой соцыялістычны рахунак: наладзіць узаемадзейнасць цэхаў і бесперабойнае снабжэнне дрэваапрацоўчай групы матар'яламі.

Рэкорды на камбінаце былі нязменна звязаны з ростам партыйна-масавай работы. Лепшыя нашы стаханаўцы Рушко, Кніга Андрэй, Адзінцоў, Навіцкі і інш. на другі-ж дзень пасля ўстанаўлення сваіх рэкордаў падалі заяву аб прыёме іх у спачуваючыя. Наогул разгортванне стаханаўскага руху на камбінаце суправаджаецца няўхільным ростам групы спачуваючых.

Сапраўды шырокае развіццё стаханаўскага руху на камбінаце пачалося пасля гістарычнай прамовы таварыша **Сталіна** на Ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў прамысловасці і транспарту. Указанне таварыша **Сталіна** аб тым, каб партыйныя арганізацыі «уключыліся ў гэтую справу і дапамаглі стаханаўцам давесці рух да канца», стала большэвіцкай праграмай работы. Кожны комуніст ясна ўразумеў неабходнасць стаць самому стаханаўцам, арганізатарам руху.

Ад паасобных рэкордаў неабходна было перайсці да стаханаўскай работы змен і цэхаў. Адразу мы парашылі папулярызаваць паасобныя дасягненні лепшых нашых стаханаўцаў, каб зрабіць вопыт іх работы набыткам усяго рабочага калектыву. Самасправаздачы стаханаўцаў на групавых рабочых сходах далі магчымасць шырока абгаварыць метады стаханаўскай работы і пераняць вопыт вядучых цэхаў. Стаханаўцы былі ініцыятарамі такога каштоўнага мерапрыемства, як аказанне дапамогі таварышам па рабоце. Адзін з лепшых рамшчыкаў тав. Адзінцоў падрыхтаваў свайго памочніка тав. Тарасевіча да самастойнай работы на раме. Рамшчык-стаханавец тав. Буднік перадаў метады стаханаўскай работы свайму памочніку тав. Касцюковічу, рамшчык-стаханавец тав. Дабравольскі—свайму памочніку тав. Левіну, піластаў тав. Навіцкі, які дабіўся ўстаноўкі пілы за 7—10 мінут замест 25—30, перадаў свой вопыт рамшчыку тав. Бурдзейко. Усё гэта дапамагала росту радоў стаханаўцаў.

У дзелавой абстаноўцы нарад вядучых прафесій—рамшчыкаў, станкавых дрэваапрацоўчых цэхаў, піластаваў і інш.—усебакова абмяркоўваліся пытанні далейшага развіцця стаханаўскага руху, замацавання і папулярызацыі дасягненняў у гэтай галіне. Да абмеркавання тэхналагічных працэсаў прыцягваліся інжынерна-тэхнічныя работнікі камбіната.

Па ініцыятыве раённага камітэта партыі мы падрыхтавалі да друку і выдалі рад брашур аб рабоце нашых лепшых стаханаўцаў: т.т. Гладышава, Рушко, Стромскага і іншых.

Вялікую дапамогу ва ўмацаванні і разгортванні стаханаўскага руху аказаў нам нізавы друк камбіната, у прыватнасці наша заводская газета «За ўдарныя тэмпы». У аддзелах «Трыбуна стаханаўца»,

«Што вам перашкаджае працаваць?», «Дзень работы стаханаўца» газета наладзіла перадачу вопыту лепшых стаханаўцаў камбіната, а таксама здолела выявіць і прадставіць, так сказаць, на суд грамадскасці канкрэтных віноўнікаў тармажэння стаханаўскага руху.

Для далейшага росту стаханаўцаў першаступеннае значэнне набывае пытанне тэхвучобы. У гэтай справе патрабаваўся індывідуальны падыход, з улікам ведаў, здольнасцей і магчымасцей кожнага рабочага паасобку. У нас зараз працуе сярэдне-тэхнічная стаханаўская школа, у якой навучаецца звыш 100 чал., гурткі павышанай кваліфікацыі ахапляюць 340 чал., тэхмінімумам ахоплена да 300 чал., індывідуальна навучаецца 20 лепшых стаханаўцаў, на курсах падрыхтоўкі ў БНУ вучыцца 50 чал.

Пераход ад паасобных рэкордаў да масавага развіцця стаханаўскага руху не мог не сустрэць на сваім шляху вядомага супраціўлення. Напрыклад, у беладрэўным цэху планаванне было пабудавана так, што па сутнасці тармазіла стаханаўскую работу. Станкі не маглі працаваць бесперабойна, бо амаль заўсёды нехапала матар'ялаў патрэбнага размеру. Прастоі станкоў дасягалі проста катастрафічных размераў—да 30—35%. Мы вымушаны былі зняць з работы не толькі планавіка Гурэвіча, які сабатаваў стаханаўскі рух, але і ўсё кіраўніцтва цэха, няздольнае аперацыйна кіраваць стаханаўскай работай.

Сярод інжынерна-тэхнічных работнікаў камбіната знашліся людзі, якія не адразу зразумелі вялікае значэнне стаханаўскага руху і ў першы час адчувалі сябе як-бы абойдзенымі, пакрыўджанымі. Парткам сумесна з заўкомам і дырэкцыяй камбіната здолелі правесці адпаведную работу, пасля якой інжынерна-тэхнічныя работнікі камбіната па-сапраўднаму ўключыліся ў стаханаўскі рух і аказалі яму каштоўную дапамогу.

Выключнае значэнне для нас мела першая партыйна-стаханаўская канферэнцыя на камбінаце. У парадку падрыхтоўкі да канферэнцыі партарганізацыя камбіната дабілася таго, што ўсе 49 комуністаў, рабочых ад станка, сталі стаханаўцамі.

Некаторыя таварышы, як Спявак—парторг будпададдзела, лічылі, што ў іх умовах немагчыма прымяніць стаханаўскія метады. І толькі тады, калі партыйны камітэт і ўся партарганізацыя ў цэлым непасрэдна ўзяліся за гэту справу і практычна давялі безгрунтоўнасць падобных разважанняў, комуністы будпададдзела сталі працаваць сапраўды па-стаханаўску і перавыконваць свае нормы.

У аддзелачным аддзяленні беладрэўнага цэха столяры-комуністы тт. Крэмер, Лакернік не мелі пэўнай нормы, а таму не з'яўляліся стаханаўцамі, хоць і працавалі непасрэдна на вытворчасці.

Рэзчык лесапільнага цэха № 1 тав. Буднік, адзін з першых стаханаўцаў камбіната, прышоў к першай партыйна-стаханаўскай канферэнцыі з нізкімі паказчыкамі работы. У сваім выступленні тав. Буднік сказаў, што ён супакоіўся на дасягнутых поспехах, забыў пра сваю авангардную ролю, як комуніста. Канферэнцыя грунтоўна пакрытыкавала тав. Будніка. Пасля гэтага ён падцягнуўся і зараз з'яўляецца перадавіком стаханаўскага руху, паказвае ўзоры сапраўды большэвіцкай работы.

Як падрыхтоўка, так і правядзенне самой канферэнцыі, мелі для комуністаў-стаханаўцаў вялікае выхаваўчае значэнне. Канферэнцыя асабліва востра паставіла пытанне аб замацаванні стаханаўскага руху, знішчэнні ўсіх непаладак, якія тармозяць работу. У цэнтры

ўвагі стаяла рэалізацыя рашэння снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што ў лесапіленні трэба «сканцэнтравацца на павышэнні прадукцыйнасці рама-змены па пропуску сыравіны, асабліва на больш аснашчоных прадпрыемствах, павелічэнні выхадаў лесапрадукцыі». Увага ўсяго партыйнага калектыва была мабілізавана на асваенне новых норм, аказанне канкрэтнай дапамогі стаханаўцам, ліквідацыю прастояў, рашучую барацьбу з канкрэтнымі віноўнікамі зрыву бесперабойнай работы стаханаўцаў.

Канферэнцыя асабліва падкрэсліла адказнасць комуністаў за далейшае разгортванне стаханаўскага руху. Барацьба за павелічэнне карыснага выхаду пілапрадукцыі і павышэнне сортнасці—важнейшая задача як усёй партарганізацыі, так і кожнага стаханаўца, інжынера і тэхніка нашага камбіната.

У стаханаўскім руху выявіўся цэлы рад выдатных ініцыятыўных работнікаў, сапраўдных майстроў сваёй справы.

Комуніст тав. Рубан да стаханаўскага руху мала чым праявіў сябе на вытворчасці. Ён не меў ніякай кваліфікацыі і працаваў чорнарабочым. Работа лепшых стаханаўцаў—тт. Будніка, Рушко, Адзінцова, Міхалапа і інш.—прымусіла Рубана моцна прызадумацца, і ён рашыў атрымаць кваліфікацыю, каб дабіцца ганаровага звання стаханаўца. Яго паслалі вучыцца на электразваршчыка. Зараз імя Рубана па заслугах у гонары. Яно шырока вядома на камбінаце, аб ім часта піша раённая газета «Комуніст», артыкул «Новае жыццё Александра Рубана» змешчан нядаўна і ў «Рабочем».

Тав. Рубан—адзіны электразваршчык на камбінаце. Ён гаворыць: «Я рашыў так працаваць, каб у нас у цэхах не было перабояў з-за паломак і аварый, каб імёны стаханаўцаў лесакамбіната прагрымелі далёка за межамі Бабруйска». І сапраўды, тав. Рубан працуе як комуніст, які ідзе ў авангардзе стаханаўскага руху. На яго прыкладзе можна паказаць, як асваенне тэхнікі вытворчасці садзейнічае значнаму росту матар'яльнага добрабыту стаханаўцаў. У 1935 г. тав. Рубан, як відаць з запісаў яго разліковага лістка чорнарабочага, зарабляў у месяц 136 руб., а зараз зарабляе да 700 руб. Месячны заработак стаханаўцаў Адзінцова, Дабравольскага і многіх іншых павялічыўся ўдвая супроць таго, што яны зараблялі да стаханаўскага руху.

У зборачным аддзяленні беладрэўнага цэха працуе тав. Кніга Андрэй. Ён дабіўся выключных рэкордаў у зборцы дзвераў, пакінуўшы далёка за сабой усе існуючыя ў гэтай рабоце нормы. Кніга ўступіў цяпер у групу спачуваючых і шмат працуе над павышэннем свайго культурнага і тэхнічнага ўзроўню. Ён—актыўны рабкор, піша аб непаладках, якія тармозяць стаханаўскую работу, аб канкрэтных віноўніках зрыву вытворчай праграмы. Ён—актывіст абароннай работы, асоарганізатар цэха. Аб сваёй рабоце гаворыць з вялікім натхненнем і захапляе іншых. Відаць, што гэты чалавек жыве жыццём вытворчасці, сапраўды хварэе за яе, як за сваю кроўную, родную справу.

Такіх адданых, ініцыятыўных, выдатных майстроў сваёй справы, як Кніга, на камбінаце выраслі сотні. Рост і перавыхаванне людзей—здзіўляючы рэзультат таго творчага энтузіязма мас, імя якому стаханаўскі рух.

Стаханаўскі рух з'явіўся таксама і стымулам павышэння культуры як на вытворчасці, так і ў быце. Партарганізацыя не мала ўвагі ўдзяліла барацьбе за чыстату рабочага месца, за ахайнасць і куль-

турнасць кожнага стаханаўца, як перадавога рабочага нашай соцыялістычнай вытворчасці.

Тэатр, кіно, кніга сталі насушнай неабходнасцю. Рост культурнага ўзроўню нашых рабочых таксама не мала дапамагае таму, што рады стаханаўцаў шырацца і растуць з дня ў дзень.

Стаханаўскія змены, суткі, пяцідзенкі і дэкады далі нам магчымасць на месцы ліквідаваць перашкоды ў нармальнай стаханаўскай рабоце і добра падрыхтавацца да правядзення стаханаўскага месячніка ў сакавіку. На партыйных сходах, на вытворчых нарадах інжынерна-тэхнічных работнікаў і стаханаўцаў абмяркоўваліся канкрэтныя меры для ліквідацыі непаладак, якія маглі-б пашкодзіць поспеху стаханаўскага месячніка. Шырокім разгортваннем партыйна-масавай работы на працягу ўсяго стаханаўскага месячніка мы імкнуліся ператварыць цэхі ў суцэльна стаханаўскія і дабіцца росту майстроў лесапілення і дрэваапрацоўкі. На дзесяцімінутных вытворчых нарадах да пачатку работы абмяркоўваліся недахопы мінулага дня і намячаліся задачы на бягучы дзень. Практыка такіх нарад сябе цалкам апраўдала.

* * *

Абмен партыйных дакументаў з'явіўся агромным стымулам павышэння авангарднай ролі комуністаў у стаханаўскім руху на вытворчасці.

Рыхтуючыся да абмену, кожны комуніст добра адчуваў усю адказнасць і разам з тым вялікі гонар за права атрымаць першым новы партыйны білет.

Тт. Буднік, Іваноў, Стромскі, Гімельштэйн і іншыя прышлі да абмену партбілетаў з добрымі вытворчымі паказчыкамі, як сапраўдныя арганізатары стаханаўскага руху ў сваіх цэхах.

Ліст наркома цяжкай прамысловасці тав. **Орджанікідзе** і наркома лясной прамысловасці тав. **Лобава** аб арганізацыі ў красавіку стаханаўскай праверкі на лепшую падрыхтоўку прадпрыемстваў да пераходу на сталую стаханаўскую работу знашоў самы шырокі водгук сярод рабочага калектыва Бабруйскага лесакамбіната. Кожны цэх, змена, група ўзялі на сябе ў адказ канкрэтны абавязак—к 23 красавіка датэрмінова скончыць месячную праграму.

Па ініцыятыве стаханаўцаў Будніка, Кнігі Андрэя на камбінаце шырока разгарнулася соцспаборніцтва, якое ахапіла ўсе без выключэння цэхі.

Партарганізацыя ўзорна наладзіла ўлік стаханаўцаў і паказчыкі іх штодзеннай работы. Шырока стаў практыкавацца вопыт нашых лепшых стаханаўцаў—Будніка, Стромскага і Рушко—аб шэфстве над рабочымі не-стаханаўцамі. Інжынерна-тэхнічныя работнікі арганізавалі для іх штодзенную тэхнічную дапамогу. Красавік для камбіната стаў месяцам стаханаўскай вучобы.

Ліст тт. **Орджанікідзе** і **Лобава** прапрацоўваўся на спецыяльных партыйных днях, рабочых сходах, нарадах інжынерна-тэхнічных работнікаў і стаханаўцаў, а таксама сярод жонак рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў, у інтэрнатах, на кватэрах. Гэтаму пытанню былі прысвечаны паліт'інфармацыі.

У красавіку значна палепшылася якасць прадукцыі, павялічыўся карысны выхад пілапрадукцыі, зніклі тэхнічныя прастоі і аварыйнасць. К 23 красавіка месячная вытворчая праграма камбінатам была выканана.

Камбінат абавязаўся к 10 чэрвеня датэрмінова выканаць сваю вытворчую поўгадовую праграму. Лесапільны цэх № 3 ужо выканаў сваю поўгадовую праграму к 9 мая, г. зн. на месяц раней узятага абавязацельства. Астатнія цэхі камбіната таксама змагаюцца за выкананне свайго абавязацельства.

* * *

Немалая падрыхтоўчая работа была праароблена намі да правядзення галінных канферэнцый па перагляду новых тэхнічных норм і новых норм выпрацоўкі.

Гэтыя нормы падвяргаліся ўсебаковаму абмеркаванню на рабочых сходах. Лепшыя рамшчыкі лесапільнага цэха № 1 тав. Рушко і інш. прапанавалі павялічыць нормы на 10% супроць новых, ужо вылічаных норм, на аснове павелічэння абаротаў і пасылак леса-рам. У беладрэўным цэху фрэзероўшчыкі-стаханаўцы тт. Герасімовіч, Калупацкі і інш. прапанавалі павялічыць тэхнічныя нормы з 40 да 70%. Рамшчык лесацэха № 2 комуніст-стаханавец тав. Стромскі таксама высунуў прапанову аб павелічэнні норм супроць прапанаваных.

У парадку падрыхтоўкі да галінных канферэнцый былі скліканы цэхавыя нарады інжынерна-тэхнічных работнікаў і стаханаўцаў па прафесіях. Акрамя таго, партком сабраў комуністаў-рамшчыкаў, станкавых, піластаваў, каб абмеркаваць з імі гэта пытанне.

Можна з поўнай упэўненасцю сказаць, што новыя тэхнічныя нормы на камбінаце з'явіліся ў выніку шырокага развіцця стаханаўскага руху, які выявіў неабмежаваныя магчымасці выкарыстання тэхнічнага абсталявання і вытворчых магутнасцей. Стаханаўскія метады работы настойліва дыктавалі неабходнасць перагляду старых тэхнічных норм і пераходу да новых, таму іх можна назваць стаханаўскімі нормамі, выклікаными да жыцця па ініцыятыве і волі нашых перадавых стаханаўцаў.

Як на галіннай канферэнцыі Белдрэва, так і на канферэнцыі Галоўлесдрэва ініцыятыўную ролю ў абгаварэнні новых тэхнічных норм узяла на сябе дэлегацыя Бабруйскага лесакамбіната.

Прапанова нашага рамшчыка комуніста-стаханаўца тав. Стромскага аб павелічэнні норм у поўмеханізаваных лесапільных цэхах, якія працуюць на ціхаходных рамах, на 33% пасля ўсебаковага абмеркавання была прынята і зацверджана галіннай канферэнцыяй Галоўлесдрэва.

Па нашаму лесапільнаму цэху № 1, як механізаванаму, нормы павялічаны на 45%, па лесапільнаму цэху № 2—на 33%, па лесапільнаму цэху № 3—на 30%. Усе асноўныя прафесіі пераведзены на прагрэсіўную сістэму аплаты працы.

Перад партыйнай арганізацыяй камбіната стаіць вялікай важнасці задача: дабіцца таго, каб авангардная роля ў асваенні новых тэхнічных норм належала комуністам. Начальнікі цэхаў, інжынеры і тэхнікі, майстры і брыгадзіры, а ў першую чаргу комуністы і комсамольцы, павінны аказаць усямерную садзейнасць і дапамагчы кожнаму рабочаму асвоіць новыя тэхнічныя нормы.

Для папулярызацыі і растлумачэння рабочым усёй важнасці гэтага пытання праводзіцца вялікая партыйна-масавая работа, у гутарках з кожным рабочым-стаханаўцам выясняецца, што яму перашкаджае ў асваенні новых тэхнічных норм.

Асаблівае значэнне для далейшага развіцця стаханаўскага руху

і асваення новых норм набывае зараз павышэнне ўзроўню тэхнічных ведаў рабочых. Якасцю тэхвучобы мы зараз моцна заняліся.

Лепшыя рамшчыкі і станкавыя тт. Буднік, Адзінцоў, Дабравольскі, Стромскі, Соскін, Калупацкі, Гімельштэйн і інш. на аснове соцспаборніцтва паспяхова асвоілі новыя нормы выпрацоўкі і набліжаюцца да асваення новых тэхнічных норм, тэхнічнай магутнасці рам і станкоў.

Тт. Дабравольскі і Адзінцоў, рамшчыкі лесацэха № 1, першымі на камбінаце асвоілі новыя нормы выпрацоўкі і тэхнічна магчымыя нормы, выканаўшы іх на 103 проц. тэхнічнай магутнасці лесарамы.

Тав. **Адзінцоў** спачатку ўзнікнення стаханаўскага руху на лесакамбінаце з'яўляўся адным з лепшых стаханаўцаў свайго цэха і заўсёды значна перавыконваў свае нормы. Ён многа працаваў над павышэннем свайго ўзроўню тэхнічных ведаў і аказаў нядрэнныя поспехі ў вучобе пад кіраўніцтвам тэхпропа камбіната тав. Ларчыка. Тав. Адзінцоў рыхтуецца на тэхніка лесапілення, сістэматычна чытае палітычную і мастацкую літаратуру, расце і ўдасканальваецца.

Тав. **Дабравольскі,** які ў пачатку ўзнікнення стаханаўскага руху не верыў, што можна перавыканаць нормы на «Баліндэры», як бачым, не толькі перавыконвае іх, але і з'яўляецца адным з першых стаханаўцаў на камбінаце, якому належыць гонар асваення новых тэхнічных норм.

Мы маем на камбінаце выдатных стаханаўцаў-комуністаў тт. Будніка, Стромскага, Рубана, Іванова, Гімельштэйна і іншых, мы маем беспартыйных большэвікоў, якія ўвесь час паказваюць сапраўды стаханаўскія ўзоры работы, тт. Адзінцова, Дабравольскага, Рушко, Калупацкага, Соскіна, Кнігу Андрэя і інш.,—усе яны павінны ўзначаліць барацьбу за асваенне новых тэхнічных норм, сілай свайго прыкладу захапіць астатніх стаханаўцаў.

Наш лесакамбінат увесь час нядрэнна змагаўся за замацаванне і развіццё стаханаўскага руху, за перанясенне стаханаўскіх метадаў работы ў лесапільную прамысловасць і займаў далёка не апошняе месца сярод прадпрыемстваў лесапільнай прамысловасці Саюза. Тым больш справай гонару і славы для ўсяго нашага камбіната, для ўсёй арміі нашых стаханаўцаў, партыйнай і профсаюзнай арганізацыі, дырэкцыі і інжынерна-тэхнічных работнікаў з'яўляецца такая агромнай важнасці справа, як асваенне новых тэхнічных норм.

Барацьба за асваенне новых тэхнічных норм, за далейшае развіццё стаханаўскага руху павінна стаць у цэнтры ўвагі парткома і ўсёй партыйнай арганізацыі камбіната.

---

**Н. Сігналаў**

# Больш увагі падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандысцкіх кадраў

Наша партыя заўсёды надавала выключнае значэнне партыйнай прапагандзе, падбору і вырошчванню прапагандысцкіх кадраў. Лепшых сваіх людзей, тэарэтычна граматных, загартаваных у барацьбе з ворагамі партыя пасылае на ўчастак выхавання шырокіх мас камуністаў.

За апошні час гіганцкі ўзрасла цяга членаў партыі да павышэння свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, асабліва да вывучэння гісторыі партыі, твораў Леніна—Сталіна.

За апошні год ЦК ВКП(б) прыняў рад важных рашэнняў, якія значна ўзнялі справу партыйнай прапаганды. У кожным сваім рашэнні ЦК з выключнаю сілай падкрэслівае значэнне і ролю прапагандыста, як асноўнага звяна, ад якога «у першую чаргу будзе залежаць узровень палітыка-выхаваўчай работы ў школах і гуртках».

Год таму назад ЦК ВКП(б) прыняў вядомую пастанову «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час», у якой вялікую ўвагу ўдзяляе падрыхтоўцы прапагандысцкіх кадраў:

> «Ліквідацыя «сезоннасці» прапагандысцкай работы павінна пацягнуць за сабой і ліквідацыю сезоннасці ў падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандыстаў і арганізацыю сістэматычнай падрыхтоўкі прапагандыстаў на працягу ўсяго года.
>
> ЦК ВКП(б) перасцерагае супроць практыкі, што ўстанавілася ў партыйных арганізацыях, калі ўвесь асноўны кадр прапагандыстаў на працягу кароткага летняга перыяду адрываецца ад прапагандысцкай работы і прапускаецца праз наспех і неахайна арганізаваныя курсы з дрэнна падабраным складам выкладчыкаў, у выніку чаго прапагандысты не атрымліваюць належнай падрыхтоўкі».

У мінулыя гады і ў нас розныя курсы арганізоўваліся наспех, без падбору кваліфікаваных выкладчыкаў, без дастатковай матэр'яльнай базы, каштавалі вялікіх сродкаў, але не давалі патрэбных вынікаў.

Рашэнне ЦК ВКП(б) аб ліквідацыі «сезоннасці» у падрыхтоўцы прапагандыстаў пакончыла з такой практыкай, якая нічога агульнага не мела з устаноўкай партыі ў гэтай галіне. Аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б распрацаваў дакладны план падрыхтоўкі прапагандыстаў па БССР на ўвесь 1936 год. Зараз бюро ЦК КП(б)Б гэты план зацвердзіла.

Што канкрэтна намечана зрабіць? У 1936 г. праз 3-х і 2-месячныя курсы будзе прапушчана 526 прапагандыстаў па гісторыі партыі і 300 кіраўнікоў школ палітграматы. Акрамя таго, праз 2-месячныя курсы будзе прапушчана 100 загадчыкаў раённымі і фабрычна-заводскімі партыйнымі габінетамі. 50 штатных раённых прапагандыстаў і 35 заг. культпропаў райкомаў і гаркомаў партыі будуць навучацца на месячных курсах. Нарэшце, праз месячныя курсы будзе прапушчана 200 кіраўнікоў агіткалектываў і нізавых агітатараў.

Такім чынам, 1185 работнікаў партыйнай прапаганды—кіраўнікоў школ і гурткоў—атрымаюць сёлета добрую зарадку, якая дапаможа ім лепш і з большай эфектыўнасцю арганізаваць справу прапаганды вялікіх ідэй Леніна—Сталіна.

Акрамя таго, па ўказанню ЦК ВКП(б) у радзе буйных прамысловых цэнтраў БССР будуць арганізаваны аднагадовыя вячэрнія школы па падрыхтоўцы прапагандыстаў без адрыву ад вытворчасці. Яны будуць працаваць 10 раз у месяц і ахопяць 515 чалавек. Да рэчы, такія вячэрнія школы прапагандыстаў ужо створаны ў Менску (Сталінскі райком), у Гомелі, Слуцку, Барысаве.

Як праводзіцца ў жыццё план падрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў? У красавіку пачалі працаваць 3-месячныя міжраённыя курсы прапагандыстаў, якімі ахоплена каля 350 чалавек. Улічваючы памылкі мінулых год, сёлета мы сканцэнтравалі курсы ў буйных прамысловых гарадах і раёнах БССР. Курсавыя базы створаны: у Менску на 80 чал., у Гомелі на 47 чал., Магілеве—41, Віцебску—37, Бабруйску—27, Барысаве—17, Оршы—22, Полацку—18, Мазыры—19, Лепелі—17 і Слуцку—22. У бліжэйшы час арганізуецца яшчэ адна курсавая база пры Горацкім райкоме партыі.

Курсы намечана склікаць у 3 прыёмы: з 1 красавіка, з 15 ліпеня і з 15 кастрычніка па 1 студзеня 1937 г. Такім чынам, усе гэтыя курсы будуць функцыянаваць круглы год. Гэтым самым выконваецца прамая дырэктыва ЦК ВКП(б) аб арганізацыі «падрыхтоўкі прапагандыстаў на працягу ўсяго года».

Што неабходна было зрабіць для таго, каб забяспечыць поспех, павысіць эфектыўнасць работы курсаў?

Па-першае, трэба было паклапаціцца аб уважлівым падборы аднароднага складу слухачоў. Па-другое, падабраць кваліфікаваныя выкладчыцкія сілы, сканцэнтраваць на курсах усё лепшае, што ёсць у гарадах і раёнах. Па-трэцяе, распрацаваць такі вучэбны план, які даў-бы высокую якасць вучобы, максімум засваення і нагрузкі, забяспечыць курсы падручнікамі і літаратурай. Нарэшце, стварыць матар'яльную базу курсаў (інтэрнаты, харчаванне, вучэбныя класы і т. д.).

Як-жа практычна вырашаны гэтыя задачы?

Склад прапагандыстаў у асноўным падабраны нядрэнна. На курсах займаецца даволі значная колькасць кіруючых партыйных, гаспадарчых, совецкіх работнікаў. З 294 курсантаў 53 знаходзяцца на партыйнай рабоце (інструктары райкома, прапагандысты, сакратары парткомаў, парторгі), 82—на кіруючай гаспадарчай рабоце, 34—на совецкай рабоце (заг. аддзеламі РВК, заг. райфа, заг. здраўаддзеламі і т. д.), 33—рабочыя ад станка (слесары, токары, дрэваапрацоўшчыкі). Апошняя група курсантаў мае асобае значэнне: з іх мы вырошчваем рабочых-прапагандыстаў, якіх на нашых прадпрыемствах яшчэ вельмі мала.

З прыведзеных даных відаць, што на курсах, у асноўным, займаецца той кадр людзей, які перагружан штодзеннай практычнай кіруючай работай і мае вельмі мала часу для павышэння свайго ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню. Мэта курсаў—дапамагчы ім папоўніць свае веды.

Значная частка курсантаў ужо мае вопыт прапагандысцкай работы. Гурткамі па гісторыі партыі кіравалі 53 чал., школамі палітграматы—41, гурткамі спачуваючых, бягучай палітыкі, комсамольскімі і інш.—75, не былі на прапагандысцкай рабоце 60 чалавек.

Нельга не адзначыць і рад недахопаў, дапушчаных некаторымі райкомамі пры камплектаванні курсаў. Не гледзячы на зусім ясную дырэктыву ЦК КП(б)Б аб тым, што ў першым скліканні павінны прайсці 3-месячны курс навучання прапагандысты, якія кіруюць гурткамі па гісторыі партыі, г. зн. знаходзяцца зараз на прапагандысцкай рабоце, рад гарадскіх і раённых камітэтаў партыі пасылаў на курсы таварышоў, якія ніколі прапагандысцкай работай не займаліся. У Гомелі, напрыклад, такіх таварышоў сабралася 16 чал. з 47, у Слуцку—8 з 24, у Віцебску—7 і т. д. Наогул з 294 прапагандыстаў (не лічачы курсаў у Менску) 60 чалавек гурткамі і школамі не кіравалі.

Многія райкомы партыі (Крупскі, Дзяржынскі, Кармянскі, Жыткавіцкі і інш.), не гледзячы на рад дырэктыў і ўказанняў, людзей на курсы не прыслалі, лічачы, што адказных работнікаў, якія працуюць прапагандыстамі, нельга адрываць ад іх непасрэднай работы.

Чачэрскі, Свяцілавіцкі, Уваравіцкі, Буда-Кашалёўскі раёны прыслалі на курсы людзей слаба падрыхтаваных, без вопыту прапагандысцкай работы. Ясна, што гэтыя таварышы не спраўляюцца з праграмаю і адстаюць у вучобе. Капаткевіцкі райком умудрыўся нават прысланы на курсы па гісторыі партыі зусім няграматнага чалавека, якога, вядома, прыйшлося адправіць назад. Талачынскі райком таксама прыслаў т. Літвінко, які не мог адказаць ні на адно заданае яму пытанне, ніколі не чытаў твораў Леніна—Сталіна, Оршанскі райком вылучыў на курсы 15 чалавек, з якіх толькі 2 кіравалі школамі і гурткамі, астатнія паказалі поўную палітычную няграматнасць.

Такіх прыкладаў можна прывесці не мала.

Гэта недаацэнка прывяла к таму, што развёрстка на курсы выканана толькі на 90 проц. і не зусім вытрымана ў якасных адносінах.

Некаторыя кіраўнікі курсаў таксама фармальна падышлі да справы, залічваючы ўсіх прысланых райкомамі. Такі агульны прыём без уліку падрыхтаванасці прымусіў на хаду спрашчаць і мяняць вучэбны план, ствараць лішнія, значна паменшаныя групы, каб дабіцца аднароднасці складу слухачоў, і часта скарыстоўваць замест першакрыніц матар'ялы з падручнікаў. У выніку—замест кіраўнікоў гурткоў па гісторыі партыі курсы выпусцяць значны процант таварышоў, якія здолеюць кіраваць толькі школамі палітграматы, а то нават і школамі спачуваючых.

* * *

У адпаведнасці з мэтавай устаноўкаю курсаў—папоўніць веды прапагандыстаў галоўным чынам па гісторыі партыі—складзен і вучэбны план. З агульнай колькасці 450 вучэбных гадзін каля паловы адведзена на вывучэнне гісторыі ВКП(б), Комінтэрна, ленінізма. Ак-

рамя таго, з 225 гадзін самастойнай работы таксама каля паловы прыпадае на гэтыя прадметы. Такім чынам, слухачы, пры ўпорнай рабоце над сабою, могуць дабіцца добрага засваення гісторыка-партыйнага матар'ялу. У навучальны план уключан таксама цыкл лекцый палітэканоміі, эканомпалітыцы, геаграфіі, пытанні партыйнай прапаганды і партыйнага будаўніцтва.

Загадчыкамі курсаў зацверджаны адказныя кіруючыя партыйныя работнікі. Акруговымі курсамі ў Мазыры ведае другі сакратар акружкома партыі тав. Раманенко, а загадчык культпропа акружкома тав. Кулінковіч з'яўляецца асноўным выкладчыкам на гэтых курсах. У Полацку ўзначальвае курсы другі сакратар тав. Башмачнікаў. Астатнія курсавыя базы ўзначальваюцца культпропамі акружкомаў, гаркомаў і райкомаў партыі. Курсамі прапагандыстаў пры Менскім гаркоме партыі, арганізаванымі галоўным чынам са студэнтаў 2 курса вячэрняга комвуза, непасрэдна кіруе і чытае лекцыі па гісторыі партыі загадчык культпропа гаркома тав. Чыжова.

Прызначэнне кіруючых работнікаў партыйных камітэтаў у якасці загадчыкаў курсамі мае сваёй мэтай наблізіць партыйнае кіраўніцтва да такой важнейшай справы, як падрыхтоўка прапагандысцкіх кадраў.

ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б не раз указвалі, што поспех прапагандысцкай работы залежыць ад таго, наколькі прапагандыст здолее забяспечыць высокаякаснае выкладанне. Аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б спецыяльна падбіраў выкладчыкаў для курсаў прапагандыстаў. Так, на курсах у Гомелі гісторыю партыі чытае тав. Даўтаноўскі—аспірант КУНМЗ'а, тав. Ахрэмчык выкладае ленінізм, у Мазыры чытае гісторыю партыі загадчык культпропа акружкома, сакратар акружкома тав. Раманенко чытае лекцыі аб партыйным будаўніцтве.

Выключэннем, на-жаль, з'яўляюцца курсы, арганізаваныя ў Лепелі. Акружком да апошняга часу недаацэньваў значэння гэтых курсаў і нават спрабаваў спыніць вучобу ў сувязі з сяўбой. Толькі актыўнае ўмяшанне загадчыка аддзела партыйнай прапаганды ЦК КП(б)Б тав. Коніка прымусіла акружком інакш падыйсці да справы, пераглядзець склад курсантаў і каля паловы іх адкамандзіраваць з-за яўнай непадрыхтаванасці. Зараз склад курсантаў зменены, папоўнены і працуе нармальна.

Выключная ўвага ўдзелена была стварэнню матар'яльнай базы курсаў, што спрыяла паспяховаму ходу заняткаў. Для курсаў у Гомелі адвялі лепшы інтэрнат соўпартшколы і добра абсталяваныя аўдыторыі. У Віцебску інтэрнаты і аўдыторыі прыстасаваны для спакойнай і паспяховай вучобы. У Магілеве курсы размешчаны ў будынку соўпартшколы, дзе знаходзіцца таксама інтэрнат і сталовая.

Для паспяховай работы курсаў створаны ўсе ўмовы. Курсы павінны даць для сеткі партыйнай асветы добра падрыхтаваных прапагандыстаў.

* * *

Трохмесячныя міжраённыя курсы прапагандыстаў, як адзначана вышэй, пачалі сваю работу ў пачатку красавіка і прашлі ўжо больш паловы праграмы. 22 мая аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б склікаў усіх загадчыкаў курсаў, каб падвесці першыя вы-

нікі іх работы і падрыхтавацца да набору на курсы другога склікання, якія павінны пачаць работу ў першых лічбах ліпеня.

Усе загадчыкі курсавых баз паведамілі аб тым, што курсанты маюць агромнае жаданне вучыцца і стараюцца скарыстаць кожную мінуту вучобы з найбольшай эфектыўнасцю.

На курсах у Магілеве рабочы завода імя Сталіна тав. Патапейко вучыцца на выдатна, не гледзячы на тое, што прышоў на курсы мала падрыхтаваным. Да курсаў ён кіраваў школай палітграматы, а цяпер здолее кіраваць гуртком па вывучэнню гісторыі партыі. Курсанты-выдатнікі тт. Ратнер, Сцепанюк і іншыя ў адзін голас заяўляюць, што курсы многа дапамаглі ім у павышэнні ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню.

У Гомелі вучацца на выдатна па гісторыі партыі 20% курсантаў, на добра—48%, на пасрэдна—28% і на дрэнна—4%. Сярод выдатнікаў—тт. Радчук, Дашкевіч, Сукала, Маразевіч і інш. Адстаюць—тт. Руднік, Скрыдлеўскі з-за сваёй непадрыхтаванасці, а часта і нежадання працаваць.

У Полацку курсанты-прапагандысты настолькі палітычна выраслі, што многіх намечана ўжо вылучыць на кіруючую партыйную і іншую работу. Так, тав. Грыбоў—заг. домам соцкультуры вылучаецца на кіруючую работу ў комсамоле. Тав. Саўчанка—работнік дарожнага аддзела намячаецца на партработу, і т. д.

Адным з буйных недахопаў з'яўляецца тое, што гісторыя партыі яшчэ не на ўсіх курсах выкладаецца на высокім узроўні, з большэвіцкай завостранасцю. Не гледзячы на вялікую зацікаўленасць прадметам, многія курсанты вымушаны карыстацца падручнікам, замест глыбокага вывучэння канкрэтных гістарычных фактаў па творах Леніна-Сталіна. Схематызм, школярства амаль на ўсіх курсах значна зніжае якасць вучобы. Перад выкладчыкамі стаіць задача—павысіць якасць выкладання, умець растлумачыць, як наша партыя стваралася, расла і загартоўвалася, паказаць, якімі прыёмамі і метадамі яна выкрывала і разграміла ворагаў партыі і рабочага класа.

Курсанты цікавяцца не толькі гісторыяй партыі, але і такімі прадметамі, як фізічная і эканамічная геаграфія. Гэта зусім зразумела, калі ўлічыць агромнае значэнне пытанняў міжнароднай палітыкі, росту нашай эканомікі, будаўніцтва новых заводаў, прадпрыемстваў. Амаль на ўсіх курсах прышлося значна павялічыць колькасць гадзін на гэты прадмет. Так, у Бабруйску курсанты настойліва прасілі павялічыць колькасць гадзін па геаграфіі з 40 да 60. У Віцебску курсанты гавораць, што вывучэнне карты капіталістычнага свету і Савецкага саюза ім проста вочы адчыніла. У Менску з 32 курсантаў геаграфію здалі на выдатна 7 чал. і на добра 12.

Работа курсаў не абмяжоўваецца выкананнем аднаго толькі вучэбнага плана. Для курсантаў арганізуюцца перыядычныя лекцыі, яны прысутнічаюць амаль на ўсіх сходах партыйнага актыва, на дакладах і нарадах. Менскія курсанты праслухалі даклад тав. Белакун аб міжнародным становішчы, рад лекцый дырэктара Інстытута гісторыі партыі тав. Поссэ, два даклады тав. Крамольнікава на тэму: «Ленін у работах 1905 г.» і «Аб III з'ездзе партыі». Віцебскія курсанты праслухалі таксама рад лекцый, у прыватнасці лекцыю акадэміка Вальфсона. У Магілеве намечана правесці лекцыі па пытаннях міжнароднай палітыкі, прыродазнаўства і інш. У Полацку курсанты праслухалі рад лекцый па прыродазнаўству, даклад аб творы Леніна

«Дзіцячая хвароба левізны ў комунізме», аб міжнародным становішчы і інш. У арганізацыі пазавучэбнай работы з курсантамі пакуль што слаба раскачваюцца Бабруйск, Барысаў, Орша. Прабелам у рабоце трэба лічыць таксама тое, што на курсах яшчэ не чыталіся лекцыі і даклады па пытаннях сельскай гаспадаркі, тым часам як большасць студэнтаў прыбыла з сельскагаспадарчых раёнаў.

* * *

Курсы першага склікання будуць працаваць яшчэ месяц—паўтара. Гэты час неабходна максімальна скарыстаць, каб правесці на высокім ідэйным узроўні, арганізавана і дысцыплінавана ўвесь працэс вучобы.

Час ужо прадумаць таксама і пытанне аб выпуску, даць ацэнку кожнаму слухачу і вызначыць, у якой школе ці гуртку ён здолее быць прапагандыстам.

Скарыстоўваючы вопыт работы першых курсаў, трэба ўжо зараз прыступіць да падрыхтоўкі таварышоў на курсы другога склікання. У першую чаргу трэба звярнуць увагу на лепшы падбор курсантаў, прыцягнуць лепшых выкладчыкаў, каб павысіць якасць вучобы і выпусціць новыя атрады тэарэтычна добра падрыхтаваных прапагандыстаў.

У рашэнні ЦК ВКП(б) аб адборы і падрыхтоўцы прапагандыстаў у Калінінскай абласці ўказана на неабходнасць самага ўважлівага падбору прапагандыстаў, прыцягнення кваліфікаваных выкладчыкаў, якія-б у выкладанні гісторыі партыі здолелі забяспечыць высокі ідэйны ўзровень. Гэта рашэнне ЦК павінна служыць для нас папярэджаннем і ўрокам.

Уся наша работа па арганізацыі і кіраўніцтву курсамі прапагандыстаў павінна быць прасякнута высокім ідэйным зместам. Гэта дасць нам магчымасць з года ў год павышаць тэарэтычную кваліфікацыю многіх соцень і тысяч прапагандыстаў, узнімаць ідэйна-палітычны ўзровень шырокіх мас комуністаў.

**М. Екельчык**

# Пераняць лепшы вопыт Ленінграда ў справе партыйнай прапаганды

Паездка групы прапагандыстаў Беларусі ў Ленінград для азнаямлення з пастаноўкаю прапагандысцкай работы з'явілася вельмі карыснай справай. Абмен вопытам дапаможа пазбавіцца сур'ёзных недахопаў, якіх яшчэ не мала ў партыйнай прапагандзе раду нашых партарганізацый, асабліва ў рабоце гурткоў па гісторыі партыі і партыйных габінетаў.

У гэтым артыкуле мы раскажам аб вопыце партыйнай прапаганды ў Ленінградскай партарганізацыі, якая правяла значную работу для рэалізацыі ўказанняў ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша Сталіна аб ідэйным узбраенні комуністаў.

Мы даволі шырока азнаёміліся з пастаноўкай прапагандысцкай работы ў Ленінградзе, але аб усім расказаць у адным артыкуле вельмі цяжка, таму спынімся на паасобных тыповых аб'ектах: партгабінет завода імя ОГПУ, Кіраўскі дом партактыва і гурткі па гісторыі партыі пры заводзе «Русский дизель».

Заслугоўвае самай сур'ёзнай увагі вопыт работы гуртка па гісторыі ВКП(б), створанага пры аддзеле галоўнага механіка завода «Русский дизель». Кіруе гуртком ужо другі год прапагандыст тав. Маргалік. Слухачы гуртка—старыя рабочыя ва ўзросце 45—55 гадоў.

Гурток працуе 5 раз у месяц па $3\frac{1}{2}$ гадзіны. Тав. Маргалік здолеў забяспечыць дыферэнцыяваны падыход у залежнасці ад узросту і ўзроўню ведаў кожнага слухача. Многа сіл і часу ўдзяляў ён рабоце слухачоў над першакрыніцамі. Пры вывучэнні перыяду барацьбы партыі супроць народніцтва, як злейшага ворага марксізма, слухачы разабралі: «Што такое прыяцелі народу і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў». «Ад якой спадчыны мы адмаўляемся» і іншыя творы Леніна. Паасобныя артыкулы заканспектавалі на занятках.

Тав. Маргалік улічвае індывідуальныя здольнасці кожнага слухача. Так, вывучаючы народніцтва, адным даручаў прачытаць матар'ял па падручніку і распрацаваць ленінскі артыкул, другім рэкамендаваў больш матар'ялу з Леніна, трэцім даручаў прачытаць «Што такое прыяцелі народу» і т. д.

Пачынаючы новую тэму, тав. Маргалік робіць уступ да яе і рэкамендуе літаратуру. Праз два дні праводзіць групавую кансультацыю, дапамагаючы слухачам засвоіць і заканспектаваць матар'ял. Ён знаходзіць час і для індывідуальнай кансультацыі. Раніцай ці ў час

абедзенага перапынку кожны слухач можа высніць з дапамогай прапагандыста ўсе няясныя пытанні па заданай тэме.

На чарговых занятках адбываецца жывая гутарка, у час якой найбольшую актыўнасць праяўляюць самі слухачы. Прапагандыст толькі ўмела наводзіць кожнага на патрэбную думку. Пытанні разбіраюцца глыбока і сур'ёзна. Ні адно з іх не пакідаецца нявыярашаным. Абстаноўка заняткаў ствараецца такая, што выступаюць нават самыя маўклівыя і саромлівыя слухачы.

Нам давялося быць на занятках, калі разбіралі тэму «Партыя бальшэвікоў у гады імперыялістычнай вайны». Слухачы па чарзе выходзілі да карты і паказвалі Германію, Францыю, былую царскую Расію ў іх граніцах да і пасля імперыялістычнай вайны, расказвалі аб выклікаўшых вайну супярэчнасцях паміж капіталістычнымі краінамі, аб іх сучаснай эканоміцы і палітыцы.

Прапагандыст часта практыкуе даклады слухачоў па пытаннях бягучай палітыкі, скарыстоўваючы для разбору як газетныя, так і змешчаныя ў часопісе «Большевик», артыкулы. Слухачы тт. Тімафееў і Жаруноў выступалі з дакладам аб кітайскай чырвонай арміі, Пацехін зрабіў даклад аб буржуазным друку і стаханаўскім руху, Міневіч—аб будаўніцтве канала Волга—Масква і т. д. Характэрна, што з гэтымі-ж дакладамі яны потым выступалі ў сваіх цэхах, дзе мелі значны поспех. Такім чынам тав. Маргалік вырошчвае са сваіх слухачоў палкіх бальшэвіцкіх агітатараў.

Многа зрабіў прапагандыст для павышэння агульнакультурнага ўзроўню слухачоў. У гуртку вядуцца два альбомы. У першым запісваюцца тэзісы дакладаў, зробленых слухачамі па пытаннях бягучай палітыкі і пытанні, заданыя прапагандыстам. У другі альбом слухачы запісваюць свае водзывы аб творах з мастацкай літаратуры, прачытаных і разабраных на занятках гуртка. Водзывы на такія кнігі, як «Очерки бурсы» Памялоўскага, «Як гартавалася сталь» Астроўскага, «Песня аб Буравесніку» Максіма Горкага, «У агні» Барбюса, гавораць аб значным культурным росце кожнага слухача і вялікай рабоце прапагандыста. Такія альбомы вельмі карысны для ўліку работы і росту гуртка.

Прапагандыст—душа гуртка ці школы, якою ён кіруе,—гаварыў тав. Касіор. І сапраўды, прапагандыст Маргалік здолеў знайсці ход у душу кожнага слухача, выклікаць інтарэсы да вучобы, навучыў працаваць над сабой.

Нельга абыйсці моўчкі і актыўнага ўдзелу слухачоў у скарыстанні наглядных дапаможнікаў, у прыватнасці мясцовага матар'ялу. Вывучаючы перыяд барацьбы з народніцтвам, яны выпусцілі насценную газету: «У дапамогу партыйнай вучобе». У газеце былі змешчаны артыкулы слухачоў Пацехіна, Тімафеева, Макарава і іншых, напісаныя на падставе ўспамінаў бацькоў, родных і знаёмых аб прыгонным праве. Яркая і вобразная абрысоўка цяжару капіталістычнай эксплаатацыі, кабалы і ўціску пры царызме не мала дапамагла ў засваенні тэмы. Зараз слухачы працуюць над выпускам часопіса «1905 год». Заняткі ажыўляюцца таксама і ўспамінамі комуністаў, старых рабочых, аб іх удзеле ў рэволюцыйным руху, падрыхтоўкай выставак, складаннем дыяграм сіламі саміх слухачоў.

Цікава прывесці думкі слухачоў аб сваім прапагандысце, ацэнку яго работы.

Тав. Міневіч гаворыць: «Ніколі раней не выступаў я з дакладам. Навучыў мяне гэтаму тав. Маргалік. Калі мне даручылі расказаць у цэху аб будаўніцтве канала Волга—Масква, то прапагандыст параіў абмеркаваць даклад раней у гуртку. Так і зрабілі. Тав. Маргалік унёс некалькі істотных паправак. Выступіў я ў цэху больш як перад 200 рабочых ужо значна смялей. Даклад прашоў нядрэнна».

Тав. Макееў расказвае: «Маргалік настолькі вывучыў сваіх слухачоў, што добра ведае, каму што рэкамендаваць з мастацкай літаратуры. Ён сам падбірае для нас кнігі ў бібліятэцы».

Тав. Шыпіла гаворыць, што ў тав. Маргаліка выключная яснасць выкладання. Самыя складаныя пытанні ўмее тлумачыць зусім проста і вучыць таму-ж слухачоў.

Сваім поспехам гурток тав. Маргаліка абавязан уважліваму кіраўніцтву парткома, які ўнікае ва ўсе дэталі арганізацыі партыйнай прапаганды. Партком жыва цікавіцца тым, як вучацца комуністы, як працуе над сабою прапагандыст.

Партком стварыў выключныя ўмовы для работы гуртка: добра абсталяваў пакоі, набыў патэфоны, арганізаваў вячэру і т. п.

Узор работы гэтага гуртка павінен стаць набыткам усіх нашых прапагандыстаў і асабліва кіраўнікоў партарганізацый, ад якіх патрабуецца ўважлівае і канкрэтнае кіраўніцтва. Перад намі стаіць задача— яшчэ вышэй узняць ідэйна-палітычны ўзровень партарганізацый, сістэматычна працаваць над кожным комуністам, правільна арганізаваць работу не толькі гуртка, але і партыйнага габінета.

Добрыя ўзоры работы паказваюць і партгабінеты Ленінграда. Партгабінет пры заводзе імя ОГПУ мае два пакоі: у адным змяшчаецца габінет прапагандыста, у другім—агітатара. У партгабінеце заўсёды можна даведацца аб тым, якія тэмы прапрацоўваюцца ў гуртках. Спецыяльная выстаўка літаратуры ўказвае, якія палітычныя, мастацкія творы і наглядныя дапаможнікі трэба скарыстаць па данай тэме. У партгабінеце тры разы ў месяц працуе семінар прапагандыстаў для павышэння іх тэарэтычнага і палітычнага ўзроўню. 5—6 раз у месяц прапагандыст можа атрымаць кваліфікаваную кансультацыю па пытаннях падрыхтоўкі да заняткаў.

Заслугоўвае ўвагі так званы **дзень падрыхтоўкі да вучобы,** які праводзіцца 4 разы ў месяц за 2 дні да заняткаў.

Слухачы прапрацоўваюць рэкамендаваны партгабінетам матар'ял па першакрыніцах і складаюць канспекты пад кіраўніцтвам вопытнага прапагандыста. Займаюцца яны каля 3 гадзін. Такі метад падрыхтоўкі да заняткаў дае выключны эфект: слухачы прывыкаюць правільна працаваць над кнігай, канспектаваць яе і быць актыўнымі на занятках.

Партыйны габінет практыкуе абмен вопытам работы сярод прапагандыстаў, арганізуе для іх лекцыі па мастацкай літаратуры.

Партгабінет асабліва шырока разгарнуў работу па падрыхтоўцы і правядзенню тэарэтычных канферэнцый у партарганізацыях. Тэарэтычныя канферэнцыі дапамагаюць выпрацоўваць навыкі самастойнай работы над кнігай, над першакрыніцамі, яшчэ больш павышаць свой тэарэтычны ўзровень. Правядзенне такіх канферэнцый патрабуе дакладнай, сур'ёзнай і доўгай падрыхтоўкі. Не можа быць і гутаркі аб падрыхтоўцы і правядзенні канферэнцыі за 1—2 тыдні. Гэта будзе нічым іншым, як апашленнем канферэнцыі, ператварэннем яе ў нейкую кампанію. Тэарэтычныя канферэнцыі праходзяць добра,

толькі тады, калі ўсе дакладчыкі як след аўладаюць матар'яламі сваёй тэмы, а парткомы ўнікаюць ва ўсе дэталі работы, ставяць на абгаварэнне тэзісы дакладаў, шырока асвятляюць іх і т. д.

Прыкладам добрай арганізацыі тэарэтычных канферэнцый можа служыць завод імя ОГПУ, дзе пры праверцы партдакументаў было выяўлена, што многія комуністы не ведаюць статута партыі. Партыйны камітэт рашыў правесці тэарэтычную канферэнцыю па вывучэнню статута і распрацаваў для гэтага план, у якім было канкрэтна ўказана, што павінны зрабіць парторгі, прапагандысты і партгабінет.

Партыйны габінет арганізаваў выстаўку, якая паказвала развіццё статута ад II з'езда РСДРП да XVII з'езда ВКП(б), і вывесіў падрабязны спіс літаратуры як для дакладчыкаў, так і для ўдзельнікаў канферэнцыі.

У плане, паміж іншым, было ўказана: «У рабоце партканферэнцыі павінны ўдзельнічаць усе комуністы, але для таго, каб забяспечыць правядзенне канферэнцыі на належным тэарэтычным узроўні і высокую якасць прапрацоўкі, зачыншчыкамі выступлення на канферэнцыі павінны з'явіцца наступныя гурткі: гурток партпрофактыва, гурток па вывучэнню паасобных твораў класікаў марксізма, гурток аптычнага цэха, інструментальнага цэха і гурток спецзборкі». Гэта ўказанне— прыклад сур'ёзнага падыходу кіраўніцтва да арганізацыі канферэнцыі. План абмяркоўваўся на паседжанні парткома, на сходзе прапагандыстаў і на сходах цэхавых партарганізацый.

Тэарэтычная канферэнцыя працягвалася 2 дні. Удзельнічала ў ёй да 700 чал., выступалі парторгі, прапагандысты і слухачы гурткоў.

Канферэнцыя абмеркавала 3 даклады на тэмы: ВКП(б)—авангард пролетарыята; арганізацыйная будова партыі; барацьба за адзінства партыі.

Трэба адзначыць, што дакладчыкі выступалі ўпершыню. Многа дапамог ім, як і ўсім удзельнікам канферэнцыі, партыйны габінет, які штодзенна даваў кансультацыі і паставіў даклад на тэму «Арганізацыйныя прынцыпы большэвізма».

Нельга не адзначыць і клопатаў аб культурным абслугоўванні канферэнцыі. Для ўдзельнікаў яе быў пастаўлен кінофільм «Партыйны білет», па якому потым адбыўся дыспут.

Заслугоўвае ўвагі і работа партыйнага габінета па арганізацыі паўторных канферэнцый для гурткоў, якія вывучаюць гісторыю партыі па падручніку і першакрыніцах. Гэтым метадам падвядзення вынікаў работы ахоплена 12 гурткоў. У плане, зацверджаным парткомам, указана, што да паўторнай канферэнцыі рыхтуюцца ўсе комуністы вылучаных гурткоў пры дапамозе свайго прапагандыста, не адрываючыся ад нармальнай работы па далейшаму вывучэнню гісторыі партыі.

Па кожнай тэме ўказана патрэбная літаратура, у гуртках вызначаны дадатковыя заняткі, а партгабінет дае праз дзень кансультацыі.

Метад паўторных канферэнцый дапамагае ацаніць работу кожнага слухача і самога прапагандыста. Нам здаецца, што гэты метад падвядзення вынікаў па кожнай тэме варта пераняць і ўсім нашым гурткам.

Партыйны габінет аказвае вялікую дапамогу агітатарам і ў падборы наглядных дапаможнікаў. У пакоі агітатара можна знайсці палітычную карту свету, адміністрацыйную карту Совецкага саюза, карты-дыяграмы: дыпламатычных адносін Совецкага саюза з капіталістыч-

нымі краінамі, захопніцкай палітыкі Японіі ў Кітаі, дзеянняў кітайскай чырвонай арміі і т. д. У спецыяльных альбомах сабраны выразкі з газет па пытаннях бягучай палітыкі партыі, міжнароднага становішча і т. д. У вітрыне «Што новага сёння ў газетах і часопісах?» прапагандыст і палітбяседчык заўсёды могуць азнаёміцца з апошнімі навінамі і даведацца аб тым, што ім рэкамендуецца прачытаць у першую чаргу.

У габінеце ёсць мастацкі аформлены альбом горада Ленінграда. З альбома відаць, як перарадзіўся горад пры кіраўніцтве Сяргея Міронавіча КІРАВА. Гэты альбом з'яўляецца настольнаю кнігай кожнага агітатара. Фота-вітрына стаханаўскага руху на заводзе паказвае паасобных стаханаўцаў, знаёміць з іх метадамі работы, нормамі выканання і т. д. У партгабінеце арганізавана работа агіткалектыва, дающа індывідуальныя і групавыя кансультацыі па розных пытаннях, якія цікавяць комуніста.

Прыкладам канкрэтнага кіраўніцтва культпропа і парткома ў цэлым можа служыць план работы на май і чэрвень месяцы. Прывядзем паасобныя пункты гэтага плана:

«1. З 11/V пачаць чытанне курса лекцый па мастацкай літаратуры для прапагандыстаў, агітатараў, парторгаў і партактыва;

2. У мэтах павышэння якасці падрыхтоўкі комуністаў да заняткаў і лепшага засваення прапрацоўваемых тэм практыкаваць паўторныя канферэнцыі гурткоў. Такія канферэнцыі правесці: 28/V па тэме «Рэволюцыя 1905-07 гг.», 28/V—па тэме «Гады рэакцыі і ўздыму»;

3. Партгабінету абнавіць у адпаведнасці з прапрацоўваемай тэмай і бягучымі падзеямі наглядныя дапаможнікі і вітрыны, дабіваючыся, больш чым дагэтуль, колькасці наглядных дапаможнікаў;

4. Партгабінету арганізаваць дошку з падборам матар'ялаў партпрофактыва па пытаннях: навіны кіно, тэатра і т. д.;

5. Сумесна з комсамолам падрыхтаваць і правесці тэарэтычныя канферэнцыі комсамольцаў па праграме статута комсамола, арганізаваўшы адпаведную дапамогу - кансультацыю пры партгабінеце, падбор дапаможнікаў і літаратуры па ўсіх пытаннях X з'езда комсамола;

6. Арганізаваць 1—2 выезды прапагандыстаў і агітатараў за горад для адпачынку».

Планам прадугледжана арганізацыя дыспутаў па кінофільму «Радзіма кліча», лекцыі і выстаўка па мастацкай літаратуры і т. п.

Гэты план выконваецца даволі акуратна, што садзейнічае палепшанню пастаноўкі партыйнай прапаганды і агітацыі на заводзе.

* * *

Выключнае значэнне мае правільнае кіраўніцтва работай прапагандыстаў. Нельга сказаць, што работа семінараў прапагандыстаў праходзіць у нас на высокім узроўні. Яшчэ дагэтуль няма сур'ёзных адносін да падбору і падрыхтоўкі кіраўнікоў прапагандысцкіх семінараў.

Наша задача—сур'ёзна ўзяцца за выхаванне кожнага прапагандыста і ні ў якім разе не абмяжоўваць гэту работу правядзеннем

семінара, або курсаў падрыхтоўкі ці перападрыхтоўкі. Прапагандыста трэба вучыць на жывой справе вопытам, паказам, падыходзіць да яго індывідуальна, добра азнаёміцца з яго работай і ўсяляк дапамагаць у засваенні метадаў выкладання.

Зусім зразумела, што метадычная дапамога прапагандыстаў будзе тым больш эфектнай, чым бліжэй кіраўнік семінара азнаёміцца з умовамі работы кожнага прапагандыста, са складам яго гуртка і нават з асаблівасцямі слухачоў. Гэта значыць, што мы зараз абавязаны патрабаваць, каб кіраўнік семінара наведваў заняткі гуртка, аказваў на месцы неабходную метадычную дапамогу прапагандысту. Трэба канчаткова адмовіцца ад сістэмы гастрольных праверак, ад голай канстатацыі недахопаў у рабоце і рука ў руку з прапагандыстам узяцца за арганізацыю правільнай методыкі выкладання.

Кіраўскі дом партыйнага актыва ў Ленінградзе сканцэнтраваў работу 11 семінараў: прапагандыстаў, інструктароў райкома, сакратароў парткомаў, камсамольскага актыва, партарганізатараў цэхаў, і т. д. Семінары пабудаваны па тыповаму прынцыпу: семінар прапагандыстаў гісторыі партыі, гурткоў палітграматы і т. д., з улікам зменнасці ў рабоце прапагандыстаў. Усё зроблена для таго, каб прапагандыст не прапусціў ні аднаго занятку. Пропсемінары забяспечаны высокакваліфікаванымі кіраўнікамі і працуюць 5 раз у месяц, прычым тры дні слухачы скарыстоўваюць цалкам для вучобы, з адрывам ад вытворчасці. Многа зроблена і для пашырэння культурнага светапогляду прапагандыстаў. Яны маюць магчымасць слухаць лекцыі па літаратуры, геаграфіі, музыцы і т. д.

Дом партыйнага актыва прымацоўвае кіраўнікоў пропсемінараў да пэўнай групы гурткоў для азнаямлення з іх работай і сістэматычнай дапамогі прапагандысту. Прымацаваны таварыш абавязан навучыць прапагандыста правільна скласці план работы, выбраць найлепшыя метады выкладання, падрыхтавацца да заняткаў.

Дом партыйнага актыва практыкуе таксама правядзенне вопытных заняткаў: падрыхтоўвае 1 ці 2 прапагандыстаў і запрашае на іх заняткі астатніх прапагандыстаў раёна, якія потым прымаюць удзел у абмеркаванні праведзенай лекцыі.

Не менш цікавы вопыт замацавання прапагандыста за пэўным кансультантам, да якога прапагандыст можа звярнуцца ў любы час па любому няяснаму пытанню. Кансультант настолькі вывучае свайго прымацаванага, што заўсёды ведае, у чым яму неабходна дапамагчы.

Не кожны завод мае свайго сталага прапагандыста. На гэту работу райком нярэдка вылучае таварышоў з іншых савецкіх, партыйных ці прафесіянальных арганізацый. Дом партыйнага актыва дабіўся, што калі новы прапагандыст прыходзіць на завод, то знаходзіць у спецыяльнай папцы матар'ял аб тым, як выконваюць план паасобныя цэхі, як развіваецца стаханаўскі рух, імёны лепшых стаханаўцаў і цэлы рад хвалюючых завод пытанняў. Азнаёміўшыся з канкрэтнай абстаноўкай на заводзе, прапагандыст мае магчымасць ажывіць заняткі гуртка.

Дом партыйнага актыва сам складае дыяграмы і карты, карыстаючыся матар'яламі з Музея рэволюцыі, з I тома «Гісторыі грамадзянскай вайны» і інш. Атрымаліся даволі добрыя нагляд[illegible]ыя дапаможнікі. Яны ўжо зацверджаны Інстытутам гісторыі ВКП(б) і выпушчаны масавым тыражом для гурткоў Ленінграда.

Дом партыйнага актыва правёў рад тээрэтычных канферэнцый па творах класікаў марксізма-ленінізма. Характэрна, што адказнасць за дакладчыкаў неслі партыйныя камітэты. Гэта прымусіла іх аказаць дакладчыкам сур'ёзную дапамогу, абмяркоўваць тэзісы на паседжаннях парткома, уносіць папраўкі ў даклад, ды і самім добра рыхтавацца.

Гэты вопыт работы з прапагандыстамі павінен быць засвоен усімі кіраўнікамі партарганізацый. і прапагандысцкіх семінараў.

Мы павінны дабіцца, каб арганізацыя, змест і методыка прапаганды сталі справай не толькі прапагандыстаў, але і кіраўнікоў партарганізацый. Трэба, каб партыйная школа дапамагала аснасціць нашу практыку і вопыт тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Мы павінны зрабіць усё неабходнае для рэалізацыі ўказанняў ЦК ВКП(б).

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) па дакладу таварыша Сталіна адобрыў у асноўным праект новай Канстытуцыі СССР. Гэты праект з'яўляецца гістарычным дакументам сталінскай эпохі, які выклікаў новую хвалю энтузіязма сярод шырокіх мас совецкага народу. Задача партыйных арганізацый і кожнага комуніста—правільна растлумачыць значэнне новай сталінскай Канстытуцыі масам, узначаліць іх актыўнасць і ўмела накіраваць яе на заваяванне далейшых перамог на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва. Адсюль барацьба за ауладанне тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна павінна быць узнята на яшчэ большую ступень.

На-жаль, яшчэ не ўсе нашы партарганізацыі з належнай увагай адносяцца да справы партыйнай прапаганды.

Не так даўно апублікавана рашэнне ЦК КП(б)Б аб становішчы партыйнай вучобы ў Лепельскім, Суражскім, Бягомельскім і Лоеўскім раёнах, дзе школы і гурткі камплектаваліся без уліку ведаў комуніста, а якасць вучобы была вельмі нізкай. Райкомы партыі не ўдзялялі патрэбнай увагі партвучобе, недастаткова кіравалі ёю. Прапагандысты працавалі без плана, выкладаючы гісторыю партыі схематычна, адцягнена, без увязкі з канкрэтнай гістарычнай абстаноўкай.

У сувязі з гэтым ЦК КП(б)Б яшчэ раз звярнуў увагу ўсіх партарганізацый на тое, што

> «асноўнай задачай у галіне партыйнай вучобы павінна з'явіцца барацьба за высокую якасць партыйнай вучобы, павышэнне патрабаванняў да кожнага слухача і асабліва да кожнага прапагандыста — падрыхтоўка да заняткаў, паказ нагляднага матар'ялу, работа над творамі Леніна—Сталіна, асвятляючы ў кожнай тэме канкрэтна-гістарычную абстаноўку, у якой праходзілі тыя ці іншыя падзеі, увязваючы правадзімыя заняткі з чарговымі задачамі партыі і жыцця партыйнай арганізацыі».

Пераймаючы лепшы вопыт Ленінградскай партыйнай арганізацыі, мы даб'емся таго, што змест партыйнай прапаганды і палітычнай агітацыі будзе адпавядаць патрабаванням партыі, што гэты ўчастак стане ўзорным ва ўсёй нашай партыйнай рабоце.

# ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б)

## Аб ходзе абмену партыйных дакументаў

*Пастанова Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

I

### Аб прадоўжанні тэрміну сканчэння абмену партыйных дакументаў

У сувязі з просьбай абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый прадоўжыць тэрмін сканчэння абмену партыйных дакументаў старога ўзору на новыя да 1 жніўня 1936 года.

II

### Аб прыёме і зняцці з уліку комуністаў у час абмену партыйных дакументаў

Устанавіць наступны парадак прыёму і зняцця з уліку комуністаў у час абмену партыйных дакументаў:

1. Абавязаць сакратароў гаркомаў і райкомаў ВКП(б) у выпадку пераезду комуністаў у іншыя партыйныя арганізацыі перад зняццем іх з уліку праводзіць абмен старых партыйных дакументаў на партыйныя дакументы новага ўзору і перасылаць іх уліковыя карткі новага ўзору ва ўстаноўленым пастановай ЦК ВКП(б) ад 13 жніўня 1935 года парадку ў той гарком ці райком партыі, дзе комуністы становяцца на ўлік па месцу сваёй новай работы.

2. Абмен партыйных дакументаў старога ўзору на новыя ва ўсіх комуністаў, якія зняліся з уліку і выехалі ў іншыя партыйныя арганізацыі, не абмяняўшы сваіх партыйных дакументаў да данай пастановы ЦК, рабіць пасля адпаведнай праверкі прычын пераезду ў тых партыйных арганізацыях, дзе яны сталі на ўлік па месцу сваёй новай работы.

III

### Аб няправільным затрыманні Горкаўскім крайкомам ВКП(б) абмену партыйных дакументаў у паасобных членаў партыі

1. Адмяніць, як няправільную, пастанову Горкаўскага крайкома ВКП(б) ад 5 красавіка 1936 года:

«З прычыны асабліва дрэннай работы па мясапастаўках загадчыкаў кантор «Заготскот»—Вазнесенскай, Красна-Окцябрскай, Варатын-

скай, Каверненскай, Лыскаўскай і Наруксаўскай—лічыць немагчымым выдачу зараз ім новых партыйных дакументаў, бо на сваім участку работы яны не апраўдваюць высокага звання членаў партыі. Прапанаваць райкомам ВКП(б) устрымацца ад выдачы партыйных дакументаў, вырашыўшы гэта пытанне ў залежнасці ад вынікаў выканання планаў мясапаставак за красавік месяц».

2. Раз'ясніць Горкаўскаму крайкому, што падобная практыка затрымання ці выдачы партыйных дакументаў новага ўзору членам і кандыдатам партыі з'яўляецца зусім няправільнай, бо падобны метад уздзеяння на ход выканання бягучых гаспадарчых заданняў скажае сэнс кампаніі па абмену партдакументаў і падрывае справу выхавання комуністаў у духу большэвіцкага разумення задач нашай партыі.

IV

## Аб фактах агульнага і няправільнага залічэння комуністаў у пасіўныя пры абмене партыйных дакументаў у Георгіеўскім раёне Паўночна-Каўказскага края і Салодчанскім раёне Сталінградскага края

Прызнаць, што сакратар Георгіеўскага райкома партыі, Паўночна-Каўказскага края, тав. Чальян і сакратар Салодчанскага райкома партыі, Сталінградскага края, тав. Колесаў фармальна-бюракратычна падыйшлі да выканання дырэктыў ЦК ВКП(б) аб ачышчэнні партыі ад пасіўных, не апраўдваючых высокага звання члена партыі людзей, выпадкова трапіўшых у рады ВКП(б).

Замест асабістага азнаямлення з комуністамі і грунтоўнай гутаркі з імі ў час абмену партыйных дакументаў, тт. Чальян і Колесаў механічна, па спісу, без усякай к таму падставы аднеслі многіх членаў і кандыдатаў партыі да ліку пасіўных, прадвырашыўшы тым самым пытанне аб выключэнні іх з партыі.

Сакратар Георгіеўскага райкома тав. Чальян з 25 комуністаў пярвічнай партыйнай арганізацыі Арматурнага завода 10 членаў і кандыдатаў партыі агульна залічыў у лік пасіўных, рашыўшы не выдаваць ім партыйных дакументаў новага ўзору.

Сакратар Салодчанскага райкома тав. Колесаў, не папрабаваўшы вывучыць справу па сутнасці, патрабаваў ад пярвічных партыйных арганізацый спісы пасіўных комуністаў і заключэнні, каму выдаваць і каму не выдаваць партыйныя дакументы новага ўзору.

У адпаведнасці з гэтым ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

1. Раз'ясніць тт. Чальяну і Колесаву, што такая практыка выканання важнейшай партыйнай справы па абмену партыйных дакументаў з'яўляецца небольшэвіцкай і сведчыць аб тым, што Георгіеўскі і Салодчанскі райкомы партыі аднесліся да гэтай сур'ёзнай справы несур'ёзна, безадказна.

2. Прыняць да ведама паведамленне Паўночна-Каўказскага і Сталінградскага крайкомаў аб тым, што яны ліквідавалі гэту няправільную практыку тт. Чальяна і Колесава.

Абавязаць Паўночна-Каўказскі і Сталінградскі крайкомы ВКП(б) сачыць за работай гэтых райкомаў па абмену партыйных дакументаў і пасля сканчэння абмену паведаміць у ЦК ВКП(б) ці магчыма астаўленне тт. Чальяна і Колесава ў якасці кіраўнікоў партыйных арганізацый.

V

## Аб парадку зацвярджання вынікаў абмену партыйных дакументаў

Устанавіць наступны парадак зацверджання вынікаў абмену партыйных дакументаў:

1. Па скончэнні абмену партыйных дакументаў у раённых і гарадскіх партыйных арганізацыях сакратары райкомаў і гаркомаў партыі адчытваюцца аб выніках абмену партыйных дакументаў і мерах, прынятых у ходзе абмену, па палепшанню партыйнай работы на пленумах райкомаў і гаркомаў, а ў малалікіх райпартарганізацыях— на агульных сходах комуністаў.

2. Бюро абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый зацвярджаюць вынікі абмену партыйных дакументаў па кожнай раённай і гарадской партыйнай арганізацыі паасобку.

Акругкомы і абкомы ВКП(б), якія ўваходзяць у склад абласных, краявых і рэспубліканскіх партарганізацый, папярэдне заслухоўваюць справаздачы сакратароў райкомаў партыі, пасля чаго робяць справаздачу на бюро абкома, крайкома і ЦК нацкомпартыі аб выніках абмену партыйных дакументаў у цэлым па абласной і акруговай партарганізацыі.

3. Абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый усе апеляцыі выключаных з радоў ВКП(б) і пераведзеных у кандыдаты ці спачуваючыя ў час абмену партыйных дакументаў поўнасцю разглядаюць па кожнаму раёну да зацверджання справаздачнага дакладу адпаведнага райкома аб выніках абмену партыйных дакументаў на бюро абкома, крайкома ці ЦК нацкомпартыі.

4. Абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый па скончэнні абмену партыйных дакументаў па вобласці, краю, рэспубліцы склікаюць пленумы абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый для зацверджання справаздач аб выніках абмену партыйных дакументаў і для абмеркавання мерапрыемстваў па далейшаму ўмацаванню партыйнай работы ў сувязі з вынікамі абмену партыйных дакументаў.

5. Па скончэнні абмену партыйных дакументаў па вобласці, краю і рэспубліцы заслухаць у ЦК ВКП(б) справаздачы кожнага абкома, крайкома і ЦК нацкомпартыі аб выніках абмену партыйных дакументаў.

ЦК ВКП(б)

23 мая 1936 г.

Уп. Галоўлітбела № П—5009.
Тыраж 10.000
271.040 друк. зн. (5 арк.)
Здана ў набор 3/VI—36 г.
Падпісана да друку 26/VI—36 г.

*Рэдкалегія* К. Мінкін (адказны рэдактар), Д. Конік, Г. Рубінштэйн

Друкарня імя Сталіна. Зак. 703.

